

# КАТИХИЗІСЪ.

ТО ЕСТЪ,

НАУКА СТАРОДАВНАЯ ХРІСТІАНЬ-
СКАЯ ѾТ СВЕТОГО ПИСМА, ДЛЯ ПРО-
СТЫХЪ ЛЮДЕЙ ЯЗЫКА РУ-
СКОГО, ВЪ ПЫТАНІЯХЪ И ѾТ-
КАЗѢХЪ СЪБРАНА.

Ѿ ПЕРЪВАГО СВЕТОГО АПОСТОЛА
Петра посланія Зачало з҃.

Готови присно къ ѿвѣту всякому въпрошающему вы,
слово ѿ вашемъ уповании съ кротостію и страхомъ,
совѣсть имуще благу и прот...

# Polacak

Published with the financial support of the parish
Mother of God of Zyrovicy,
Cleveland, Ohio, USA.



Прозьвішчы падпішчыкаў і ахвярадаўцаў рэдакцыя будзе публікаваць у часопісе.

All correspondence should be addressed to:
S.Belaia or M.Bielamuk,
10915 Lake Rd., Cleveland, Oh. 44102, USA.
Tel. (216) 651-3451





На развароце: **Анатоль Крывенка.** Партрэт Анатоля Бярозкі
На першай бачынцы вокладкі: **Мікалай Стома.** Партрэт Сымона Буднага
На другой бачынцы: Тытульная бачынка «Катэхізыса» (Нясьвіж, 1562)
На трэцяй бачынцы: Тытульная бачынка Бярэсьцейскай Бібліі (1563)
На чацьвёртай бачынцы: **Сьвятлана Белая.** Помнік Сымону Буднаму

# Два гады

Роўна два гады назад у Кліўленьдзе выйшаў у сьвет першы нумар «Полацаку», першага ў гісторыі Беларусі сумеснага часопіса беларусаў Замежжа і Бацькаўшчыны. Два гады ў гісторыі Беларусі тэрмін невялікі. І усё-ж...

Часопіс зьявіўся ў цяжкі для Беларусі час, калі як ніколі востра абвастрыліся праблемы культурнага, гістарычнага ды біялягічнага выжываньня беларусаў. XIX Сустрэча Беларуса ў Паўночнай Амэрыкі, што адбылася ў Кліўленьдзе, якая стала пасутнасьці Першай Сусьветай Сустрэчай, дала яму пачатак. На той гістарычнай сустрэчы ўпершыню адбылося паяднаньне беларусаў Бацькаўшчыны і Замежжа. Часопісжа пачаў разьвіваць гэтую ідэю, замацоўваць сувязі.

Ідэі «Полацака» адразу атрымалі падтрымку ў Беларусі. Ужо ў першых нумарох яго віталі выдатныя дзеячы Бацькаўшчыны: Алесь Адамовіч, Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў, Анатоль Грыцкевіч, Сяргей Законьнікаў, Міхась Ткачоў і інш. Свае прывітаньні даслалі часопісы «Спадчына», «Полымя», Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», беларускі ПЭН-цэнтр, клюб «Спадчына». Упершыню ў гісторыі эмігранцкага друку ў часопіс пачалі дасылаць свае матэрыялы сусьветна вядомыя гісторыкі, пісьменьнікі, паэты, публіцысты, якія дзяліліся з чытачом найбольш важнымі праблемамі, агульнымі для ўсіх беларусаў.

З энтузіязмам далучыліся да выпуску сумеснага часопісу і беларусы Замежжа: Масей Сяднёў, Паўла Урбан, Міхась Кавыль, Кастусь Калоша, Кастусь Акула, Кастусь Мерляк, а. Міхась Страпко, Антон Шукелойц, Уладзімір Бакуновіч, Язэфа і Чэслаў Найдзюкі, Язэп Сажыч, Вітаўт Тумаш, Раіса Галяк, Янка Юхнавец, Мацьвей Рэпкаў-Смаршчок, Пётра Нядзьвецкі, **Olga McDermott**, Расьціслаў Завістовіч, Мікалай Латушкін і іншыя аўтары. Без іх часопіс не набыў-бы свайго твару і папулялрнасьці.

І усё-ж выданьне «Полацака» было-б немажлівым без прыхажан царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўленьдзе. Яны падтрымалі ідэю стварэньня часопіса і фінансава дапамаглі яму. Дзякуючы гэтай падтрымцы, мы атрымалі мажлівасьць ня толькі выдаваць «Полацак», але і пасылаць штомесячна каля 350 экзэмпляраў на Бацькаўшчыну, дзе нецярпліва чакаюць яго, гэты своеасаблівы ланцужок, які зьвязвае адзіны беларускі народ, што воляй лёсу апынуўся паміж акіянамі. Пэўна, што часопіс немажлівы і без сваіх падпісчыкаў, і ахвярадаўцаў. Таму мы дзякуем ўсіх, хто спрычыніўся да выданьня і спадзяемся на вашую далейшую падтрымку.

Нябожчык Міхась Ткачоў у сваім вітальным слове да часопіса «Полацак» пісаў: «Калісьці, гаворачы пра Полацак, што ўладарна асеў на Дзьвіне, казалі: *«Берагі ў Дзьвіны сярэбраныя, а дно залатое. Няхай рака роднай гісторыі праз часопіс «Полацак» будзе мець такія берагі і такое дно».*

Няхай-жа споўняцца ягоныя словы, і ніколі не абмялеюць воды гісторыі і праўды, якія амываюць «Полацак».

Няхай праз гэтую раку пабудуем усе мы разам мост, што будзе яднаць усіх беларусаў.

Няхай па гэтаму масту ідуць насустрач адзін аднаму людзі: людзі адной крыві, адной нацыі, адной зямлі — Беларусы.

# Васіль Быкаў: *«Беларусі патрэбнае кожнае сумленнае слова»*

*—Шаноўны спадар Васіль Быкаў. Вы зьяўляецеся пастаянным чытачом часопіса «Полацак», за два гады існаваньня якога выйшлі 21 нумар. Ці набыў часопіс «Полацак» свой твар? Ці заняў адпаведную нішу ў нашым незалежным друку? Што Вас як чытача задавальняе і што не задавальняе ў ім?*

—Я думаю, што «Полацак» мае свой твар і сваё значэньне ў справе адраджэньня беларушчыны. Канешне, пра ягоны зьмест ды афармленьне можна гаварыць многа і падрабязна, але тут мне хацелася-б адзначыць найперш тое, што мне спадабалася. Гэта матэрыялы на гістарычныя тэму (амаль усе), публікацыі лістоў незабыўнага Ул. Караткевіча, успаміны Я.Ціхановіча, і асабліва ўсё, што тычыцца К.Езавітава.

З чыста журналісцкіх публікацыяў — шмат якія матэрыялы С.Белай. Трэба адзначыць, аднак, не зусім сучаснае афармленьне (вокладка), хаця ілюстрацыі мастакоў заўжды добрыя, а галоўнае — на беларускія тэмы.

*—Якую ролю можа адыграць часопіс «Полацак» у справе сумеснага паяднаньня беларусаў сьвету і нацыянальнага адраджэньня?*

—Вельмі вялікую ролю на ўсіх кантынентах, бо ён, як мне здаецца, нікога не паўтарае, а хіба дапаўняе і разьвівае.

*—Як вядома, 6-10 ліпеня ў Менску мае адбыцца першы зьезд Беларусаў усяго сьвету. Што Вы чакаеце ад гэтай сустрэчы?*

— Спадзяваньні на Кангрэс вялікія, шмат што чакаем ад яго, а найперш — больш цеснага яднаньня беларусаў сьвету для адзінае і самай галоўнае справы —Адраджэньня Бацькаўшчыны — нашай Беларусі.

*— У чым Вы бачыце слабасьць і хібы сучаснага палітычнага жыцьця ў Беларусі?*

—Галоўная слабасьць у яго замкнёнасьці, нямасавасьці, часам — у сектанцкім характары шмат якіх палітычных партыяў. Прычына таго адна —пэўнае расчараваньне грамадзтва ў палітыцы, яе безвыніковасьць, найперш у эканамічным жыцьці. Ну і вядома і як заўжды — у недастатковай нацыянальнай сьвядомасьці Беларусаў.

*—Ці разьлічваеце Вы на радыкальныя зьмены ў палітыцы цяперашняга ўраду ў дачыненьні да нацыянальнай ідэі, да праблемы адраджэньня нацыі?*

—Наўрад ці варункі, у якіх апынулася Беларусь, даюць падставы спадзявацца на радыкальныя зьмены ў палітыцы ўраду. Працэс адраджэньня, які меў некалькі добрых рыўкоў напачатку, затармазіўся, а то і прыпыніўся, ёсьць небясьпека, што ён набудзе рэгрэсыўны характар. Найперш з прычын эканамічных, але і палітычных таксама.

*—На першым сходзе Беларусаў бліжняга Замежжа была выказана думка, што Беларусь павярнулася тварам да нацыянальных праблемаў, толькі ўлічваючы свае стратэгічныя мэты. (Менавіта, каб эміграцыйны ўрад БНР перадаў ураду Рэспублікі Беларусь сваё легітымнае права на ўладу, каб тым самым атрымаць юрыдычнае і маральнае абаснаваньне перад усім сьветам на сваю пераемнасьць). Наколькі абаснованыя на вашую думку такія метамарфозы сучаснага ўраду Рэспублікі Беларусь? Ці мэтазгодна для ўраду БНР у сучасных палітычных варунках перадаваць цяпершняму ўраду Беларусі сваё легітымнае права?*

—Ня маю дастаткова падстаў, каб меркаваць аб мэтамарфозах ураду Беларусі, як вядома, я ня маю да яго дачыненьня і не інфармаваны аб яго намерах. Але я думаю, што перад пагрозай крызы, у якой апынулася (й яшчэ апынецца) Беларусь, магчымыя самыя нечаканыя мэтамарфозы аж да самых рэакцыйных уключна. Барацьба супраць прызнаньня ўраду БНР, вядома, будзе працягвацца, і цяперашні ўрад БНР будзе вырашаць, ці перадаваць каму сваё легітымнае права. Апроч яго, такое рашэньне ня можа прыняць ніхто. Але тут я не раіў-бы яму з гэтай справай сьпяшацца.

*—У сувязі з арганізацыяй правядзеньня першага зьезду Беларусаў сьвету ўзьнік вядомы канфлікт паміж «Бацькаўшчынай» і БНФ за жаданьне быць галоўнай фігурай у справе арганізацыі і правядзеньня гэтага форуму. Гэта можа прывесьці да таго, што й іншыя партыі будуць адхіленыя ад удзелу ў гэтым форуме, што можа давесьці да расколу нацыянальнага руху і нават самой нацыянальнай ідэі. Ці можа пазьбегнуць гэтых канфліктаў?*

—Паміж «Бацькаўшчынай» і БНФ у гэтай сувязі няма вялікіх разыходжаньняў; тыя разыходжаньні паяўляюцца толькі тады, як у справу скліканьня Кангрэсу ўмешваюцца ўладныя структуры, якія шмат што хочуць зрабіць па-свойму. Найперш гэта азначылася ў фарміраваньні пэрсаналіяў Аргкамітэту, і ў сучасны момант ідзе пэўная праца па прадухіленьню розьніцы ў пазыцыях. Не магу сказаць чым гэта ўрэшце скончыцца, бо працэс гэты ў стадыі найбольшага абвастрэньня.

*—Зараз ў Беларусі існуе шматпартыйная сыстэма. У свіязі з гэтым маюцца партыйны антаганізм паміж імі. У свой час кіраўніцтвам «Грамады» была зроблена папытка аб'яднаць усе дэмакратычныя сілы ў рух «Новая Беларусь», але яна не зьдзейсьнілася. Аднак праблема аб'яднаньня ўсіх дэмакратычных сілаў застаецца нявырашанай і па сёньняшні дзень. Што-б Вы маглі сказаць адносна гэтых працэсаў?*

—Я сказаў-бы, што антаганізм існуе не паміж партыямі, якіх ужо багата ў Беларусі, а паміж блёкамі пэўных партыяў, адзін зь якіх складаюць партыі сац-дэмакратычнага накірунку, а другі—камуністычнага. «Новая Беларусь» таму і не адбылася, што зьніцыятывавана была менавіта партыямі недэмактратычнымі, а тымі, якія супрацьстаяць ім, «Грамада» ў гэтым блёку апынулася выпадкова, можа не разабраўшыся ў сытуацыі, а галоўную ролю там займелі намер прысвоіць прафсаюзы, створаныя пад эгідай славутага ВПК і закліканыя абараняць ягоныя імпэрскія інтарэсы. Таксама як і некаторыя іншыя далёка не дэмакратычныя фармаваньні. Што-ж датычыць аб'яднаньня ўсіх дэмакратычных сілаў Беларусі, дык увогуле (нават у прынцыпе) яно немэтазгодна ўжо хоць-бы таму, што колькі-небудзь працяглае іх супрацоўніцтва немагчыма.

Дэмакратычным сілам найлепш аб'ядноўвацца на часовай аснове, для пэўных палітычных кампаніяў— як гэта і робіцца ва ўсім сьвеце. У іншы-ж час партыі захоўваюць сваю аўтаномнасьць, і гэта разумна і правільна.

*—Як на вашую думку, тыя закалоты, якія існуюць як унутры партыяў, так і паміж імі зьяўляюцца натуральнай зьявай ці вынікам мэтанакіраванага ціску пэўных дзяржаўных структураў?*

—Мабыць, тут маюць месца як тое, так і другое. І ўнутраныя канфлікты аб'ектыўнага ды суб'ектыўнага характару, і пэўны ціск з боку ўладных структураў. Пры тым заўважаецца, што гэты ціск пасьля нека-

торага перапынку (восень 1991 г.) усё ўзмацьняецца. І мабыць, будзе мацьнець, калі будзе паглыбляцца ўсеагульная крыза. А яна будзе паглыбляцца...

*—Апошнім часам палітычныя назіральнікі гавораць аб памылках самай уплывовай палітычнай сілы БНФ. Усё больш раздаецца галасоў, што БНФ не найшоў агульнай мовы з незалежнымі прафсаюзамі, не наладзіў добрых сувязяў з новым клясам —сучаснымі прадпрымальнікамі, не наладзіў выпуску новых пэрыядычных выданьняў і г.д.. Ці абаснаваная такая крытыка БНФ?*

—БНФ, безумоўна, самая ўплывовая палітычная сіла (і самая масавая). Агульная мова з незалежнымі прафсаюзамі ў яго будзе ў той меры, у якой тыя прафсаюзы будуць незалежнымі, і калі тая мова ў іх будзе беларуская.

Што-ж датычыць новага кляса прадпрымальнікаў, дык... Ці можна называць прадпрымальнікамі транснацыянальных спекулянтаў-перакупшчыкаў, што закалачваюць мільёны, нажытыя на продажы паветра? Якая ў іх зацікаўленаць да БНФ таксама як і ў фронта да іх? Прадпрымальнікаў, вытворцаў у нас як не было, так і няма. Творчая-ж інтэлігенцыя за ранейшым часам так выхавана (прынамсі значная яе частка), што ідзе на супрацоўніцтва толькі з тымі сіламі і структурамі, якія абяцаюць (і даюць) за тое супрацоўніцтва добры рубель. А цяпер яшчэ спатрэбілася і СКВ. БНФ-жа нічога не мае, апроч сьвятое ідэі Адраджэньня —у тым яго бяда і ўзнагарода. А выданьні —я думаю, будуць— і шмат, і добрых, і масавых. Але на ўсё трэба час.

*—Вашае слова прагна чытаюць і слухаюць ня толькі ў Беларусі, да яго прыслухоўваецца ўся беларуская дыяспара. Што Вы жадаеце сказаць і перадаць чытачам часопіса «Полацак», ганаровым сябрам рэдкалегіі якога Вы зьяўляецеся?*

Менавіта найперш з тае прычыны, пра якую я сказаў, Беларусі патрэбна кожнае сумленнае, разумнае слова, у тым ліку і слова „Полацка". Хай ён выходзіць часцей! Хай ён хутчэй прыходзіць на Беларусь. Нехай гэтым рупліўцам хопіць таленту і сілы дачакацца вольнага шчаслівага жыцця на Бацькаўшчыне, для якога і яны нешта зрабілі.

Жыве Беларусь!

Васіль Быкаў
студзень 1993 г.

Інтэрв'ю правёў Анатоль Белы


НАША ГІСТОРЫЯ


# Тапаграфия знаходак манэт і аздобаў

Міхась Белямук

## Віцебская вобласьць

*Полацак*

У 1928 г. А.Ляўданскі дасьледаваў полацкае гарадзішча і знайшоў білонавую сэрцападобную бляшку, якая захавала сьляды пазалоты. Бляшка арнамэнтаваная й, аналізуючы яе арнамэнт, А. Ляўданскі зрабіў выснову, што яна скандынаўскага паходжаньня X ст.

*Ляўданскі* ... б. 165 і таб. 11, №5

*Полацак*

У 1960 г. А.Мітрафанаў падчас раскопкаў на тэрыторыі Верхняга замку знайшоў медзяную манэту **бізантыйскага імпэратара Рамана I (919-944).**

*Кропоткин [3]... б.49. № 301 А; Штыхаў [12].. б.54*

*Полацак*

У 1962 г. пад кіраўніцтвам Г.Штыхава на Верхнім замку праводзіліся раскопкі. У раскопку №3 быў знойдзены арабскі дыргем **Саманідаў** чаканены ў **аш-Шаш** (Ташкент). Узбекістан, але дата чаканкі не расчытана. Умоўна можна аднесьці да IX—X стст. Таксама знайшлі 16 шклозалочаных пацеркаў.

*Рабцэвіч, Стуканаў.... 34-35, №5, Яніцкая ...б.139, № 43*

*Полацак*

У 1973 г., дасьледуючы Сафійскі сабор, знайшлі залатое кальцо з XI ст., а раскопваючы абарончы вал, быў знойдзены арабскі дыргем, але не расчытаны.

*Булкін, Смірнов, Ратнер... б. 430-431*

*Полацак*

У 1979 г. Г.Штыхаў, праводзячы раскопы на гарадзішчы, знайшоў арабскі абрэзаны дыргем, які толькі часткова ўдалося расчытаць.

| | | |
|---|---|---|
| **Саманіды** | Наср ібн Ахмад | 933-941 |

*Штыхаў [13]... 156*

*Полацак*

У 1960 г. недалёк Сафійскага сабору Г.Штыхаў знайшоў падчас раскопу паясную пазалочаную бляшку, упрыгожаную выемчатай эмальлю чырвонага колеру.

*Штыхаў [13]... б.156.*

*Полацак*

У 1984 г. Марыя Краснова на футбольным полі прыпадкова знайшла скарб, які

перадала Полацкаму гісторыка-археалягічнаму заказьнікіу, дзе ў той час быў загадчыкам І. Залівава. Рэчы скарбу былі з высокапробнага золата, важыў скарб 334, 17 гр. Складаўся скарб з шасьці ўпрыгожаньняў—бранзалетаў.

Бранзалеты былі: масыўны, кованы, вагой 78.41 гр. з IX ст.
" з круглага тоўстага дроту з завязанымі канцамі X ст. 90.41 гр.
" віты з чатырох дратоў вагой 40.04 гр
" віты з двух дратоў вагой 54.07 гр.

Нашыйнік плецяны з тонкага дроту вагой 41.56 гр.

Бранзалет пласьціністы, кавалак, вагой 29.68 гр. Аздобы з пал. X ст.

Футбольнае поле знаходіцца на старажытным Ніжнім замку. Знойдзеныя рэчы сьведчаць аб засяленьні Ніжняга замку ў сярэдзіне X ст. Праўдападобна скарб належаў багатаму баярыну або рамесьніку і быў закапаны пры канцы X ст., калі Уладзімер Сьвятаславіч ў 980 г.напаў на полацкага князя Рагвалода.

Штыхаў[14] б. 18-19 Штыхов [15] б. 353

*Полацкі павет*

Каля 1888 г. у маёнтку Стук быў знойдзены скарб арабсіх дыргемаў, але манэты разабралі. А.МаркаЎ прыпушчае, што дыргемы былі з IX—X стст.

*Марков... б.136, №2*

*Прудніکі, Мёрскі р-н*

Каля 1936 г. на гарадзішчы ,якое на беразе рэчкі Вята, знайшлі 2 сярэбраных дэнары, К.Скаўронскі адну манэту купіў і ахвяраваў Польскаму археалягічнаму музэю ў Варшаве, дзе яна перахоўваецца. Паводля А.Кетліньскай манэта ёсьць **рымскім дэнарам імпэратара Гардыяна (119-122 гг.) чаканеная ў Рыме**, важыць 2.68 гр.

*Kietlinska б. 284, № 124, Побаль [4] б.22.*

*Прудніکі, Мёрскі р-н*

У 1978-1980 гг. А.Мітрафанаў дасьледываў селішча каля вёскі і знайшоў арабскі дыргем, але не пададзена, дзе чаканены і ў які год.

Збор ПГКБ Воц. б. 313, № 1714 Б.

*Прудніکі, Мёрскі р-н*

У 1983 г. В.Шадырко праводзіў раскопкі гарадзішча, знайшоў арабскі дыргем і медзяны медальён з выявам Божае маці «Арната».

*Шадырко... б.414*

*Прусенічы, Талачынскі р-н*

У 1961 г. восеньню, на полі прыпадкова знайшлі манэтны скарб. Значную частку манэтаў разабралі людзі, але частка зьберaглася. Віцебскі краязнаўчы музэй атрымаў 38 цэлых дыргемы і 57 абламаных, 2 дэнары цэлых і 3 абламаных. Дзяржаўны гістарычны музэй у Маскве атрымаў 62 цэлых дыргемаў і 4 цэлых дэнары ,Беларускі гістарычны

музэй — 4 цэлых дыргемы, і 1 дыргем атрымала школа ў Віцебску. Такім чынам, зьбераглося 162 дыргемы і 9 заходняэўрапейскіх дэнараў. В.Поцін агледзеў дэнары і даў кароткае апісаньне.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Нямецкай імпэрыі: | Атон I і Адэльгейда | | | 4 |
| | Атон III імп. | 983-1002 | Кёльн | 1 |
| | Атон II або Атон III | 973-1002 | Майнц | 2 |
| | разламаная нямецкая манэта | | | 1 |
| Скандынаўскае пасьлядоўніцтва ангелькіх манэт Этэльрэда II | | | | 1 |

Арабскія дыргемы агледзіла С.Яніна і праінфармавала, што маюцца манэты: **Абасыдаў**—1, **Бувайгідаў**—1, **Гамданідаў**—2, **Зіярыдаў**—1, **Мерванідаў**—1, **Окайлідаў**—1, **Саманідаў**—53. Наймаладзейшай была манэта Окайлідаў, яна з 1002/3 г. Гэта ёсьць манэты якія атрымаў Дзяржаўны гістарычны музэй у Маскве. Манэты Віцебскага краязнаўчага музэю і Беларускага гістарычнага музэю не апублікаваныя.

*Кропоткин [1]... б.92, № 1761, Потин [2]... б.168, № 303, Рабцэвіч, Стуканаў... б.34, №4*

*Пуцілавічы, Ушацкі р-н*

У 1887-1892 гг. Ф. Верэнько праводзіў раскопкі курганоў і знайшоў у кургане № 18 шклозалочаныя пацеркі. У кургане № 24 тканіну, гафтаваную залатымі ніцямі. У кургане № 32 шклозалочаныя пацеркі і дыргем:

**Саманіды** **Самарканд** або **аш-Шаш** Узбекістан Мансур ібн Нухам 961-975 /6.

Дыргем мае дзьве дзірачкі, вушка супадае зь дзірачкамі, значыць, дыргем быў выкарыстаны як падвеска.

*Кубяк .. .б. 59-61. Поболь 1....б.122*

*Пуцілавічы, Ушацкі р-н*

А. Ляўданскі 1930-1931 г. раскапаў курган з жаночым пахаваньнем XII ст. На галаве жанчыны ляжала шаўковая лента аздобленая пазалочанымі бляшкамі.

*Збор ПГКБ Віц. б. 436, № 2465 Штыхаў [16].. б. 92*

*Пышна, Лепельскі р-н*

У 1873 г.М.Кусьцінскі ў кургане знайшоў сярэбраны пярсьцёнак.

*Алексеев [1].... б.293, зн. 123*

*Радзюкі, Гарадоцкі р-н*

Да 1917 г. пры няведамых абставінах былі знойдзены два сярэбраныя кальцы, якія пераслалі ў Эрмітаж, і там яны знаходзіліся.

*Поболь [2]... н.149, № 250.*

*Рудня. Полацкі р-н*

У 1928 г. А. Ляўданскі, дасьледуючы могільнік, на правым беразе рэчкі Ушач у кургане № 12 знайшоў аздобы, абломак сярэбранай бляшкі, ланцужок сярэбраны, нашыйнік сярэбраны віты. Рэчы ад агню здэфармаваліся, паходзяць з VIII—IX ст.

*Ляўданскі ... б.190, 191, 195*

***Рудня, Полацкі р-н***

У 1967 г. Г.Штыхаў вывуча ў курганны могільнік. У кургане № 19 з жаночым пахаваньнем быў знойдзены масыўны абломак сярэбранага нашыйніка з пачатку XI ст.

*Штыхаў [15].. 122*

***Слабодка, Чашніцкі р-н***

У 1974 г. Г. Штыхаў раскапаў курган № 4 з пахаваньем дарослае жанчыны і дзяўчынкі, Каля галавы жанчыны была сярэбраная манэта **ангельскага караля** Этэлрэда II Манэты гэтага тыпу Д чаканіліся ў 997—1003 гг. Манэта ўжывалася як падвеска, бо мела дзірачку і каля манэты было 65 шклозалочаных пацерак.

*Шытхов [17]. б. 398-399, Равдина... б.112, № 194, Штыхаў [16]... б. 74, 149*

***Славені, Ушацкі р-н***

У 1928 г. І Сербаў раскапаў курган з жаночым пахаваньнем, паміж пацеркамі бы ў арабскі дыргем, ужываўся як падвеска.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **Саманіды,** | аш-Шаш (Ташкент) | Узбекістан | 913-942 | Наср ібн Ахмад |

*Сербаў.. .б. 210, № 6, Равдіна... б.11, № 192, Штыхаў [16].. б.74*

***Рудня. Полацкі р-н***

У 1928 г. А. Ляўданскі, дасьледуючы могільнік, на правым беразе рэчкі Ушач у кургане № 12 знайшоў аздобы, абломак сярэбранай бляшкі, ланцужок сярэбраны, нашыйнік ся-рэбраны віты. Рэчы ад агню здэфармаваліся, паходзяць з УІІІ—IX ст.

*Ляўданскі ... б.190, 191, 195*

***Сянно , Сенненскі р-н***

Каля 1957 г. у ваколіцы гораду быў знойдзены манэтны скарб, але людзі разабралі манэты, калекцыянер Галькевіч з гэтага скарбу мае 5 манэтаў.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Нямецкай імпэрыі: | Герман | гр. | 1020-1051 | Эмдэн | 1 |
| | Бруно | гр. | 1037-1058 | Докум | 1 |
| | ??? | | | Шпейер | 2 |
| Імітацыя ангельскіх манэтаў Этэльрэда II | | | | | 1 |

*Потин [2]. б. 165, № 282, Потин [3]... б.191*

***Смаляны, Аршанскі р-н***

Перад 1921 г. у кургане недалёк рэчкі Адроў знайшлі манэты й аздобы.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Саманіды** | аш-Шаш (Ташкент) | Узбекістан | 980/1 | Нух ібн Мансур | 1ц |
| **Ангельскія** | Лёндан | | 978-1016 | Этельрэд II | 1ц |
| " | ??? | | 1016-1035 | Канут | 2ц |

*Харлаповіч... б. 307, № 1 Потин [2]...168, № 302*

***Спіцы, Сенненскі р-н***

У 1890 г.Е.Раманаў раскапаў 2 курганы каля рэчкі Бяроза і знайшоў сярэбраны

пярсьцёнак, сярэбраную завушнічку, сярэбраную луньніцу і 11 шклозалочаных і шклосярэбраных пацеркі.

## Бібліяграфія


Булкин В. Смирнов В. Ратнер И. Работы в Полоцке, АО за 1978 г. М. 1979

Ляўданскі А. Археолёгічныя досьледы ў Полацкай акрузе. Працы кафедры археолёгіі. Мн. 1930, т.2

Побаль Л. Археолагічныя помнікі на беразе Заходняй Дзьвіны. Помнікі ГКБ, Мн. 1974, №3

Потин В. Находки западноевропейких монет на территоерии Древней Руси. Зб. Нумизматика и эпиграфика М. 1962, № 3

Равдина Т. Погребения X-XI вв. с монетами на территории Дредней Руси. М.1988

Сербаў Ів. Археолёгічныя помнікі Ушацкага раёну, Полацкае акругі. Працы археолёгічнае камісіі, Мн. 1930, т. 2

**Kubiak W. Dirhem arabski znaleziony w Pucilowiczach. Wiadomości Numizmatycze. War. 1959, # 7-8**

**Kietlińska A. Monety starożytne w zbiorach Państwowych Muzeum Archeologicznego w Warszawie. "Materiały starożytne ", War,. 1957, t.2**

Шадырко В. Раскопки городища Прудники, АО за 1983 г. М. 1984

Штыхаў Г. [13] Новыя раскопкі ў Полацку. Зб.Помнікі старжытна-беларускай культуры. Мн. 1984

Штыхаў Г. [14] З часоў Рагнеды, Час. «Беларусь», Мн., 1985, № 2

Штыхов Г. [15] Клад из Полоцка. АО за 1984, М. 1985.

Штыхаў Г. [16] Крывічы. Мн., 1992

Штыхов Г. [17] Работы Полоцкого —витебского отряда. АО за 1974 г. Мн., 1975.

Харлаповіч Д. Манэтныя скарбы, знойдзеныя ў Беларусі, у зборах беларускага дзяржаўнага музэю. Гістарычна-археолагічны зборнік. Інст. Бел. культ. Мн., 1927, т. 1.




Рымскі дэнар імпэратара Гардіяна (119—122)

Медзяная манэта бізантыйскага імпэратара Рамана I (919-944)

# Golden Age Gleam

## *Commemorating the 400 th Anniversary of S.Budny's death*

I. Saverchenko, Olga McDermott



S. Bydny by artist Edward Agunovich

History of European culture in the 16th century devotes a distinctive place to a distinguished Belarusan writer, publicist, unique theologian and philosopher Simon Budny (about 1530-- January 13, 1593). Associated with his name are Belarusan Renaissance and Reformation.

Before becoming the spiritual leader of peoples of the Middle Age Belarusan Empire -- the Great Lithuanian, Russian and Zhemoit Principality --S. Budny suffered a long hard road towards reformation. He possessed natural gifts and extraordinary philological talents and in his youth mastered several languages; Belarusan, Church Slavonic, Polish, Greek, Latin and Hebrew. His talents and tendencies toward the sciences were addressed to his comprehension of theology and depth of study of Western and Eastern Christian works, creative works of Middle Ages scholars, as well as recomprehention of the richest experiences antique cultures had to offer, i.e. Judaic, Greek and Roman ones.

His interests encompassed cosmology, theology, social doctrines, problems of spiritual improvement of a personality, etc.

Having felt his talents as a teacher, S.Budny started prophesying God's Word in the end of 50's of the 16th century, and simultaneously started writing and preparing his famous "Catechism" (Nesvizh, 1562), for publication. This was followed by "Acquittal of the Sinner to the God" (Nesvizh, 1562), which gave him veneration and popularity in all of Europe.

About 1563, the Belarusan humanist inclined towards Aryanism. He soon became the leader of the antitrinitary movement of the Great Principality and remained there for

the rest of his life. As a result of his intense theological research S.Budny produced "On the main provisions of Christianity"(Losk, 1576), "Talks", which was translated and published by him into the Polish language in 1564.

In 60-80 of the 16 th century S.Budny greatly contributed to the struggle against the Utopian movement of anarchists. He was comfortable with the ideas and doctrines of early Christianity, which called for entire equality and demanded liquidation of the State and all its structures. S. Budny wrote several treatises directed against anarchists and published them in the compilation "On Soviet Power" (Losk, 1583). He also emanated the work of Jacob Paleologue "Protection of the Proper Outlook for Power" (Defensio verae sententiae de magistrate politico in ecclesiis, Losci, 150) having written a foreword for this. He also promoted the translation and publication of A.G. Modgevsky's book "On Improvement of the State" (Losk, 1577) with numerous agreements for power, and with the aid of references to the Bible. Every Christian's right for authority in state structures was supported.

However, the main creative work of S.Budny, which demanded tremendous efforts, was a new translation and edition of the Bible. Budny continued the tradition of our humanist and first printer F.Skorina. The translation of the Bible, as well as apocryphal books, was started by the Belarusan theologian about 1565, and already in 1570, Apocrypha and the New Testament were published in the Nesvizh printing house of Daniel Lentchinsk. In 1572 he published the complete text of the Bible. However, the theologian noticed that the printing house owners -- Hector and Albrecht Cavechinsky without notification on advice from him, changed many verses in the New Testament. This upset him greatly. Therefore, in the next two years, S. Budny, with the support of a well-known Belarusan reformist Maecenas Jan Kishka again corrected and re-edited the New Testament (Losk, 1574) with a loquacious "Foreword to the Reader" and a vast theological commentary.

According to his words, by translating the New Testament the Belarusan exehet rested on the previous translations of Laurence Valla, Erasmus of Rotterdam, Martin Luther, Sebastian Castallion, Thoedore Beza, Micolas Zegar, Francisko Skorina, Peter Msticlavets and Ivan Fedorov, Stanislav Muzhinovsky on the Brest Bible of 1563, as well as the Croatian and Czech Bibles. Budny always referenced the works of ancient authors - Tertullian, Evseby, Epiphany, Ieronim and numerous manuscripts of the Bible of the 5-15th centuries in numerous languages. In fact, none of the European interpreters of New Testament had earlier conducted such a great textological survey of the Holy Writ. Due to the unusual analytical gifts of Budny, his talents and great erudition, deep knowledge of the exegetics history, the scientific and critical level of the published New Testament in 1574 was justly considered one of the greatest works which ever existed in Europe during that time .

The page of "Catechism" (Nesvizh, 1562)

Except for the Holy Writ, in 1576 S.Budny translated and published the Ernest Varamund Freese work "About Furies or French Fury", wherein th massacre of St. Bartholomew of 1572 was depicted. This showed the unprecedented reprisal in relation to French authorities which the Huguenots committed, The purpose of this edition was to discredit the French authorities and Henry Valua, who portended to the throne of the Great Principality.

When the works of Budny and his translation of the Bible appeared, the prestige of the Belarusan theologian extraordinarily grew to be among the most outstanding thinkers of his time. He had a great relationships with famous people of Reformation form England, Germany, France and Poland, Among them were Henry Bilinger, Johanne Fox, Jacob Paleologue etc. At the same time, Budny faced increased attacks by opponents - Catholic and Orthodox theologians, as well as reformation writers, who did not share his views. Acting against him were Stanislaw Ostravsku, Martin Smigletsky ,Simmler Arthemy and Peter Hond.

S.Budny's originality as a thinker, was revealed in his distinctive philosophical methods, which combined the elements of the Middle Ages scholasticism, and rationalism of the Renaissance. Being the protagonist of dialectics and considering it the inherent ability of the man and the highest value, Budny set out against the sophistry of antique philosophers.

As a humanist and leader of the cause for the liberation of the human spirit , our enlightener criticized the censure, and denounced the physical massacre of dissidents. S.Budny was the original theologian. He gave up the Trinity doctrine and pro-foundly elaborated on the whole complex of the most complicated christoligical problems.

Socio-political and legal ideas of S.Budny influenced the well-known jurists and outstanding figures of the Belarusan State at that time. Among them were Ostaphey Volovich and Lev Sapega, who determined the character and content of the well-known Statute of 1558. This simultaneously was the code of laws and the Constitution of our state in the distant past.

S. Budny lived his entire life in the Great Principality of Lithuania. He wrote his works in the refined Old Belarusan language. His creative work undoubtedly belongs to the Belarusan people. However,he wrote in Polish and Latin, which gives us grounds to speak about our enlightener's contribution to development of Polish, and the entire European literature and arts.





# Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі



Язэп Юхо

## *Крэўская і Гарадзельская вуніі Вялікага княства Літоўскага з Польшчай*

Скарыстоўваючы імкненьні народаў абедзьвюх дзяржаваў да саюзу і сяброўства, польскія фэўдалы і біскупы хацелі ператварыць яго ў сродак захопніцкай палітыкі і насаджэньня каталіцызму ў Беларусі, Літве й Украіне. Вядомы ў гістарычнай літаратуры тэкст крэўскага пагадненьня, відаць, не сапраўдны, а пазьней сфальсыфікаваны. Антынародны характар яго асабліва шырока выкарыстоўваўся агрэсыўнымі коламі фэўдальнай і буржуазнай Польшчы для абгрунтаваньня захопніцкіх дамаганьняў на беларускія, украінскія і літоўскія землі ў пазьнейшыя часы. Нібыта Ягайла, каб ажаніцца зь Ядзьвігай і насіць тытул караля Польшчы, абяцаўся: прыняць каталіцкую веру і распаўсюдзіць яе ва ўсім княстве, перадаць на патрэбы Польшчы дзяржаўную казну ВКЛ, заплаціць 200.000 флёрынаў Вільгельму Аўстрыйскаму за адмаўленьне ад шлюбу зь Ядзьвігай, вярнуць Польшчы ўсе адарваныя ад яе тэрыторыі, вызваліць з палону ўсіх хрысьціян, злучыць усе землі Вялікага княства Літоўскага з Польшчай.

Тэкст гэтага абяцаньня нагадвае акт безагаворачнай капітуляцыі. Асабліва зьдзіўляе абяцаньне перадаць казну на патрэбы Польшчы, заплаціць 200 тысяч флёрынаў Вільгельму Аўстрыйскаму (г. зн., суму, за якую ў той час можна было купіць цэлую дзяржаву) і ліквідаваць Вялікае княства, далучыўшы яго да Польшчы, толькі за гонар зрабіцца прымаком Ядзьвігі. На несуразмернасьць і кабальнасьць гэтых абяцаньняў зьвярталі ўвагу многія гісторыкі і спрабавалі вытлумачыць яе нетрываласьцю становішча Ягайлы на вялікакняскім пасадзе. Але такое тлумачэньне не ґрунтуецца на фактах, бо ў 1385 г. Ягайла ўжо моцна трымаў уладу, паміры́ўся зь Вітаўтам, перамог крыжаносцаў пад Коўна і ўмацаваў межы дзяржавы з захаду, зрабіўшы паход за Віслу супраць Мазавецкага князя. Згоду Ягайлы на паднявольныя ўмовы нельга растлумачыць і яго імкненьнем да пашаны, бо нават ворагі адзначалі яго сьціпласьць, пагарду да розных тытулаў і паказнай пыхі.

Спрабуючы разабрацца, чаму Ягайла й яго дарадцы згадзіліся на гэтыя ўмовы, можна не без падставы меркаваць, што тэкст пагадненьня пазьней быў сфальсыфікаваны складальнікамі хронік або зьменены польскімі фэўдаламі з прапагандысцкімі мэтамі. Сумненьні, што вядомае нам пагадненьне сапраўднае, узнькаюць у сувязі з тым, што гэты акт стаў вядомы толькі пасьля сьмерці Ягайлы, у хроніцы Яна Длугаша. Вядома таксама, што фэўдалы Вялікага княства Літоўскага неаднойчы выступалі супроць непраўдзівасьці польскіх хранікёраў. Справа дайшла да таго, што супраць няпраўды ў польскіх хроніках у дачыненьні да Вялікага княства было паднята пытаньне на Віленскім сейме ў 1559 г., і вялікі князь змушаны быў абяцаць, што запатрабуе выпраўленьня «таковых непрыстойных хронік». Трэба думаць, што ў той час былі вядомыя сапраўдныя ўмовы пагадненьня.



Заканчэньне. Пачатак у №6(16), 1992—1(21), 1993

На Люблінскім сейме 1569 г. фэўдалы ВКЛ аспрэчвалі сапраўднасьць тэксту Крэўскага пагадненьня, заяўляючы, што гэтыя запісы наогул ніколі не існавалі. Апроч таго, акт, які фігуруе як арыгінал пагадненьня, ня мае неабходных рэквізітаў (подпісаў і пячатак), хоць іх маглі падрабіць. Магчыма, таксама, што падроблены быў ня ўвесь акт, а толькі асобныя месцы.

Не выключана і тое, што акт, вядомы цяпер як афіцыйны дакумэнт, быў прыватным запісам, зробленым кракаўскім біскупам ці якім іншым канонікам, варожа настроеным супраць ВКЛ. На гэтую думку наводзіць той факт, што вядомы нам тэкст захоўваўся не ў архіве дзяржаўнай канцылярыі, дзе *трымаліся ўсе дзяржаўна-прававыя акты*, а ў архіве кракаўскай капітулы.

Вывад аб тым, што вядомы акт Крэўскага пагадненьня фальсыфікаваны, пацьвярджаецца ўсім далейшым ходам гісторыі.

Узыйшоўшы на польскі пасад, Ягайла захаваў за сабою вярхоўную ўладу і ў ВКЛ, хоць і назначыў туды вялікім князем свайго брата Івана (Скіргайлу), а потым стрыечнага брата Вітаўта (Юрыя, Аляксандра), што зусім ня шкодзіла княству, не вяло да яго ліквідацыі, а толькі ставіла ў саюзныя адносіны з Польшчай пад верхавенствам Ягайлы. Пытаньне-ж аб ліквідацыі княства пачалі ўзьнімаць польскія фэўдалы і каталіцкае духавенства толькі праз шмат гадоў пасьля сьмерці Ягайлы. Праўда, словы аб уключэньні Вялікага княства Літоўскага ў склад Польшчы былі ўнесены ў Гарадзельскі прывілей 1413 г., але тут-жа гаварылася пра захаваньне ўлады вялікага князя і адасобненасьць ўсёй дзяржавы.

Ягайла, увесь час клапоцячыся аб прызнаньні яго вярхоўных правоў у Вялікім княстве, разам з тым імкнуўся ўмацоўваць цэласнасьць і дзяржаўную адасобненасьць яго. На працягу амаль 50 гадоў свайго праўленьня ў Польшчы ён пастаянна быў у курсе ўсіх падзеяў у абедзьвюх дзяржавах і актыўна ўплываў на ўнутраную і вонкавую палітыку княства і не было за ім ніводнага дзеяньня, якое можна было-б растлумачыць жаданьнем ліквідаваць самастойнасьць Вялікага княства.

Адасобненасьць княства падкрэсьлівалася і тым, што адразу пасьля ўступленьня Ягайлы на польскі пасад і назначэньня вялікім князем літоўскім Івана (Скіргайлы), Ягайла ня зьняў зь сябе паўнамоцтваў главы ВКЛ, а адначасова ўзначаліў дзьве дзяржавы. Тым самым была ўстаноўлена персанальная вунія паміж гэтымі дзяржавамі.

*Польскія фэўдалы і каталіцкае духавен*ства ўжо тады ўсімі сіламі стараліся ліквідаваць ВКЛ. У працэсе прымусовага акталічваньня насельніцтва Беларусі, Літвы й Украіны былі створаны каталіцкія біскупскія кафэдры і касьцёлы, духавенства атрымала багатыя ахвяраваньні і шмат ільгот.

Характэрна, што рымская курыя, падтрымліваючы агрэсыўныя пляны польскіх фэўдалаў і духавенства, не вылучыла нова-ўтвораныя біскупствы ў самастойную царкоўную правінцыю зь непасрэдным падпарадкаваньнем Рыму, а ўключыла іх у склад польскай Гнезненскай царкоўнай правінцыі з падпарадкаваньнем новых біскіпаў польскаму духавенству. Гэтым яшчэ раз падкрэсьлівалася варожае стаўленьне рымскай курыі і ўсяго каталіцкага духавенства да насельніцтва Беларусі. Гэтая варожая палітыка каталіцкага духавенства асабліва ярка праявілася ў яго імкненьні апалячыць усё насельніцтва Вялікага княства, ліквідаваць нацыянальныя культуры гэтых народаў, пазбавіць іх нацыянальнай самасьвядомасьці. У некаторых выпадках дзеля аховы каталіцкага духавенства і падтры-

маньня парадку ў месцах, дзе праводзілася масавае акаталічваньне насельніцтва, былі ўведзены ўзброеныя атрады салдат-каталікаў, набраных у Польшчы.

Прымусовае акаталічваньне, узмацьненьне фэўдальнай эксплуатацыі, а таксама парушэньне сувэрэннасьці дзяржавы ўвядзеньнем польскіх войскаў абвастрылі незадавальненьне насельніцтва, яно са зброяй у руках выступіла супраць ураду.

Ужо ў 1388 г. урад Скіргайлы вымушаны быў скарыстаць дапамогі польскіх сіл супраць насельніцтва Віцебскай і Полацкай земляў. Паўстаньне было пераможана, гарады занялі ўрадавыя войскі, але асобныя выступленьні і напады не спыняліся на ўсёй Беларусі і Літве. Абставіны ў краіне асабліва абвастрыліся, калі апазыцыйныя сілы ўзначаліў і аб'яднаў у адзін рух берасьцейска-гарадзенскі князь Вітаўт. У 1390 г. Ягайла зноў быў змушаны пайсьці на дапамогу Скіргайлу ў Беларусь і Літву, бо краіна, паводля словаў Я.Длугаша, «цярпела раззарэньне ад міжусобнай вайны і гінула ад уласнага мяча». На першым часе аб'яднаным сілам Ягайлы і Скіргайлы ўдалося заўладаць замкамі Вітаўта ў Бярэсьці, Каміяніцы і Гародні, але і пасьля гэтага барацьба не спынілася.

Некалькі гадоў урадавыя сілы вялі барацьбу з паўстанцамі. Вітаўт карыстаўся шырокай народнай падтрымкай, і гэта змусіла Ягайлу пайсьці на кампраміс. У выніку перамоваў у Востраве (каля г. Ліды) 5 жніўня 11392 г. было заключана пагадненьне, паводля якога аслабілася прымусовае акаталічваньне, не дапускалася ўтрыманьне польскіх салдат у беларускіх і літоўскіх гарадах. Замест Скіргайлы, які скампраметаваў сябе супрацоўніцтвам з польскімі фэўдаламі, вялікім князем літоўскім быў прызначаны Вітаўт, але і ён прызнаў вярхавенства Ягайлы

Вострабрамскае пагадненьне спыніла ўнутраную барацьбу ў ВКЛ і ўмацавала яго саюз з Польшчай на аснове пэрсанальнай (асабістай) вуніі. У гэтым яшчэ раз праявіўся палітычны талент Ягайлы: у асобе Вітаўта ён замест праціўніка займаў энергічнага, рашучага і разумнага саюзьніка ў барацьбе з крыжаносцамі.

Гэтым пагадненьнем былі юрыдычна аформлены тыя фактычныя ўзаемаадносіны, што склаліся дзьвюма дзяржавамі пасьля ўступленьня Ягайлы на польскі пасад. Адасобленасьць ВКЛ ад Польшчы падтрымлівалася яшчэ і тым, што само княства не было дзяржавай унітарнай, а ўяўляла сабой своеасаблівую фэўдальную фэдэрацыю, у якой да цэнтральнай часткі дзяржавы прымыкалі землі-княствы са значнымі аўтаномнымі правамі. Фэўдалы гэтых зямель не ўдзельнічалі ў вырашэньні пытаньня аб вуніі і таму не лічылі сябе зьвязанымі ўмовамі гэтага дагавору. Без іх-жа ўдзелу нельга было вырашыць пытаньня аб характары саюзу княства з Польшчай. Трэба ўлічыць таксама, што тэрыторыя ВКЛ, колькасьць насельніцтва, а значыць і ваенныя сілы яго, значна пераўвышалі сілы Польшчы, таму і далучыць княства было немагчыма бяз згоды значнай часткі насельніцтва, асабліва пануючага кляса.

Уступленьне Ягайлы на польскі пасад вельмі зьмяніла і зьнешнюю, і ўнутраную палітыку польскай дзяржавы. Ягайла, які вырас і выхоўваўся ў Беларусі, прыбыў у Кракаў зь вялізнай сьвітай сваіх прыдворных і асабістай аховай (каморным атрадам), набранай, у асноўным, зь яго ўладаньняў у Беларусі. І паколькі ні ён сам, ні яго прыдворныя і ахова не размаўлялі ні на лацінскай, ні на нямецкай мовх, то і польскія фэўдалы былі вымушаны пакінуць нямец-

кую і пераходзіць на беларускую або польскую мовы. Такім чынам, пры каралеўскім двары быў зроблены пачатак адраджэньня славянскай мовы і абмежаваньня нямецкай. Апіраючыся на свае ўзброеныя атрады, Ягайла ўмацаваў каралеўскую ўладу ў Польшчы і тым самым часткова абмежаваў самавольства буйных фэўдалаў і ўплываў вярхоў каталіцкага духавенства на дзяржаўныя справы.

Каб мабілізаваць усе сілы абедзьвюх дзяржаваў на разгром крыжаносцаў, Ягайла перш за ўсё хацеў заручыцца падтрымкай шырокіх мас польскага народу і патрыятычна настроенай шляхты. Дзеля гэтага ў 1388 г. быў выдадзены Петрыкоўскі прывілей, які пашыраў правы польскай шляхты, арганізаваны паход супраць венгерскага ўладараньня ў галіцкай зямлі, а потым Ягайла выступіў супроць Апольскага князя Уладзіслава, які, уступіўшы ў саюз з крыжаносцамі, перадаў ім Добжыньскую зямлю і прапанаваў плян падзелу Польшчы паміж крыжаносцамі Брандэнбургскай маркай і сілезкімі князямі. Пасьля гэтага выступленьня сілезкія князі вымушаны былі пайсьці на пагадненьне з Ягайлам. Каб нейтралізаваць або нават прыцягнуць на свой бок хоць частку каталіцкага духавенства, якое падтрымлівала патрыятычныя сілы ў краіне, і ізаляваць ордэн крыжаносцаў, пазбавіўшы яго падтрымкі і заходнеэўрапейскіх дзяржаваў, Ягайла пачаў шырока прапагандаваць свае захады па акаталічваньні насельніцтва Беларусі і Літвы.

Праведзеныя Ягайлам захады па ўмацаваньні аўтарытэту абедзьвюх дзяржаваў дазволілі ўрадам Польшчы і ВКЛ дабіцца замацаваньня саюзу: 18 студзеня 1410 г. ў Вільні былі сабраныя найбольш уплывовыя фэўдалы, што прынялі каталіцтва, і яны спэцыяльнай граматай пацьвердзілі саюз з Польшчай. У сакавіку таго-ж году аналягічнае земнае абавязацельства пацьвердзілі польскія фэўдалы, якія сабраліся ў г. Радаме, і тады саюз, заснаваны на пэрсанальнай вуніі, быў юрыдычна замацаваны ў Віленска-Радамскім акце. Гэтым пагадненьнем фэўдалы Вялікага княства Літоўскага абяцалі Ягайлу і польскім грамадзянам выступаць усімі сіламі супраць нападаў якіх бы то ні было ворагаў і ахоўваць польскія інтарэсы як свае ўласныя, гэтак-жа павінны былі рабіць і польскія фэўдалы.

Акт Віленска-Радамскай вуніі пацьвердзіў адасобненасьць і самастойнасьць ВКЛ, а таксама правы Вітаўта як самастойнага кіраўніка дзяржавы, вызначыў сутнасьць дзяржаўна-прававой сувязі княства з Польшчай як пэрсанальную вунію дзьвюх дзяржаваў над верхавенствам аднаго гаспадара. Віленска-Радамская вунія стала юрыдычнай асновай саюзу ўсходнеэўрапейскіх народаў у іх барацьбе супраць нямецкай агрэсіі. Таму залежнасьць Вітаўта ад Ягайлы мела больш намінальны характар і не была вырашальнай у адносінах паміж абедзьвюма дзяржавамі, бо ва ўсіх унутраных і міжнародных справах яны былі самастойныя.

Пацьвердзіўшы саюз абедзьвюх дзяржаваў Віленска-Радамская вунія стала зыходным момантам арганізацыі й аб'яднаньня сіл усходнеэўрапейскіх народаў у іх барацьбе з крыжаносцамі. Славутая перамога пад Грунвальдам у 1410 г. сталася пачаткам поўнага зьнішчэньня гэтага разбойніцкага ордэна, яна зьнішчыла міф аб непераможнасьці тэўтонскіх крыжаносцаў і на сотні гадоў была зьнята магчымасьць нямецкай узброенай агрэсіі на ўсходзе Эўропы. Разам з тым гэтая перамога павысіла міжнародны аўтарытэт Вялікага княства Літоўскага і Польшчы, стварыла ў іх прадумовы разьвіцьця вытворчых сіл і міжна-

родных сувязяў. Перамогай пад Грунвальдам была падарвана і магутнасьць каталіцкага духавенства, што ў сваю чаргу паспрыяла разьвіцьцю свабоднай думкі ва ўсёй Эўропе і павышэньню нацыянальнай самасьвядомасьці заходніх і паўднёвых славян, актывізацыі іх вызваленчай барацьбы. Гэтая перамога была яскравым сьведчаньнем плённасьці дружбы і саюзу народаў усходняй Эўропы ў іх барацьбе супраць агрэсіі і засільля рэакцыйнай дагматычнай ідэалёгіі, якую насаджала каталіцкая царква. Распальваючы рэлігійную варожасьць паміж новаахрышчанымі католікамі і праваслаўнымі, каталіцкае духавенства і фэўдалы -католікі пачалі весьці палітыку дыскрымінацыі праваслаўнага насельніцтва, што ў канчатковым выніку падрывала жыцьцёвыя сілы дзяржавы, вяло да ліквідацыі яе палітычнай самастойнасьці да пагібелі.

У 1413 г. у замку Горадлі над Бугам былі сабраны некаторыя польскія фэўдалы і 47 фэўдалаў-каталікоў ВКЛ. У выніку былі выдадзены тры граматы (прывілії): польскіх фэўдалаў аб тым, што яны згодны падзяліцца з фэўдаламі-католікамі ВКЛ гонарам насіць гербы. Фэўдалаў ВКЛ, якія прымалі гербы польскіх фэўдалаў, тым самым уступаючы зь імі ў гербавае пабрацімства.

Трэці-ж прывілей, выдадзены ад імя Ягайлы і Вітаўта, уяўляў сабой дакумэнт адкрытай каталіцкай агрэсіі, меў на мэце не саюз дзьвюх дзяржаваў, а ўмацаваньне і пашырэньне каталіцызму, ідэалягічнае падаўленьне і падпарадкаваньне народу каталіцкаму і духавенству. Дзеля гэтага ў прывілеі былі словы пра ўключэньне ВКЛ ў склад Польшчы. Так, у артыкуле першым хлусьліва сцьвярджалася, што з таго часу, як была прынята польская карона «з мэтай пашырэньня хрысьціянскай веры «прысвоены, уключаны, злучаны, перададзены» польскаму каралеўству са згоды князёў, паноў, шляхты, службовых асоб і баяраў ВКЛ. Далей гаварылася ад імя Ягайлы і Вітаўта, што землі, якія заўсёды да гэтага часу яны мелі і маюць у поўным уладаньні на падставе права спадчыны як законныя гаспадары, з згоды і волі паноў, шляхты, баяраў другі раз інкарпаруюць, далучаюць, унядраюць у каралеўства Польскае, прысвойваюць яму, залучаюць і аб'ядноўваюць зь ім, зьвязваюць саюзам і назаўсёды замацоўваюць.

Адпаведна з гэтым запісам, ВКЛ павінна было ў самы бліжэйшы час перастаць існаваць як самастойная дзяржава, але ў артыкуле II гэтага прывілею гаварылася, што «паны і шляхціцы пасьля сьмерці Аляксандра Вітаўта... нікога ня будуць мецць або выбіраць вялікім князем і гаспадаром Літвы, як толькі каго кароль польскі й яго наступнікі, параіўшыся з прэлатамі і панамі Польшчы і земляў Літвы, палічаць за неабходнае выбраць і паставіць. Гэтаксама і прэлаты, паны і шляхта каралеўства Польскага, калі памрэ польскі кароль не пакінуўшы нашчадкаў і законных спадчынцаў, не павінны выбіраць сабе караля і гаспадара бяз ведама і парады нашай, г. зн.вялікага князя Аляксандра, паноў і шляхты названых вышэй земляў Літвы. З гэтага артыкула вынікае, што ня гледзячы на ўжываньне ўсіх магчымых дзеясловаў аб далучэньні, Вялікае княства ня толькі захоўвае сваю самастойнасьць, але ў выпадку сьмерці Ягайлы каралём Польшчы можа стаць толькі асоба, пажаданая фэўдалам княства г.зн., што прывілей у даным выпадку мае раўнапраўны характар, і няма нават намёку на ліквідацыю і далучэньне земляў княства да Польшчы.

Такім чынам, усе напышлівыя словы прывілею аб зьліцьці дзяржаваў ня мелі ў той час новага дзяржаўна-прававога зна-

чэньня — заставаўся той самы саюз дзьвюх дзяржаваў у форме пэрсанальнай вуніі. Саюзныя адносіны азначна аслабіліся пасьля паражэньняў крыжаносцаў у 1414-1422 гг. і заключэньні зь імі міру. Пасьля-ж абраньня на вялікакняскі пасад у 1430 г. Свідрыгайлы, прыхільніка самастойнасьці ВКЛ, адносіны настолькі сапсаваліся, што справа дайшла да ваенных дзеяньняў супроць Польшчы. У 1432-1433 гг. адносіны крыху наладзіліся, але становішча было няўстойлівае, а ў 1434 г, пасьля сьмерці Ягайлы, вунія была поўнасьцю скасаваная.

Гаворачы пра вынікі гэтага першага этапу саюзу ВКЛ з Польшчай, трэба адзначыць, што вунія спрыяла збліжэньню народаў Беларусі, Літвы, Украіны, Польшчы, умацаваньню і разьвіцьцю ўзаемных гандлёвых і культурных сувязяў. Асабліва важнае значэньне мела аб'яднаньне ваенных і матэрыяльных сіл абедзьвюх дзяржаваў у барацьбе зь нямецкай агрэсіяй. Дзякуючы вуніі былі прыпынены анямечваньне польскага народу і калянізацыя Польшчы, а Грунвальдская перамога на стагодзьдзі стрымала прасоўваньне немцаў ва Усходнюю Эўропу. У Польшчы пачалося адраджэньне роднай культуры і мовы. Без перабольшаньня можна сказаць, што дзякуючы Крэўскай вуніі, народы ВКЛ выратавалі Польшчу ад нямецкай каляніэацыі. Гэтая вунія была важным паваротным рубяжом ва ўсё гісторыі Польшчы.

Але ў той самы час з пашырэньнем каталіцызму на тэрыторыі Беларусі, Літвы і Украіны атрымала свабодны доступ каталіцкае духавенства, зь яго дагматычнай ідэялёгіяй, якая стаяла асновай самага рэакцыйнага сьветапогляду. Да таго-ж гэтае духавенства падпарадкоўвалася і служыла іншаземным інтарэсам, і ўся яго дзейнасьць была варожая народам княства і самой дзяржаве. Яно ўсімі сіламі імкнулася душыць і зьнішчаць народную культуру, распальвала рэлігійную варожасьць у асяродзьдзі беларускага народу.

Каталіцкая прапаганда царкоўнага касмапалітызму таксама вяла да таго, што значная частка фэўдалаў, стаўшы каталікамі, больш клапацілася пра інтарэсы рымскай курыі, чым сваёй дзяржавы і народу, і ня здольна была процістаяць захопніцкім памкненьням польскіх фэўдалаў, якія доўгі час падрывалі і стараліся зьнішчыць саюзнае Польшчы Вялікае княства. Гэтая неразумная й антынародная палітыка польскіх фэўдалаў і каталіцкага духавенства прывяла да таго, што з аслабленьнем ВКЛ былі падарваны і сілы самой Польскай дзяржавы.

Другі этап саюзных сувязей ВКЛ з Польшчай пачаўся з абраньня ў 1447 г. на польскі пасад вялікага князя літоўскага Казіміра (сына Ягайлы і Соф'і Гальшанскай), пасьля чаго ён стаў на чале дзьвюх самастойных дзяржаваў. Зноў ўстанавілася пэрсанальная вунія, якая шмат дзесяцігодзьдзяў служыла трывалай асновай саюзу дзьвюх дзяржаваў, кожная зь якіх мела сваю эканоміку, фінансы, армію, заканадаўства, дзяржаўны апарат і вяла самастойную ўнутраную і вонкавую палітыку.

Разам з сьмерцю Казіміра ў 1492 г. вунія была перапынена, але ў 1501 г. зноў аднавілася, калі каралём Польшчы быў абраны вялікі кароль літоўскі Аляксандр. Пасьля сьмерці Аляксандра польскія фэўдалы зноў абралі сваім каралём вялікага князя літоўскга Жыгімонта І, і вунія захавалася. Яна захоўвалася і пасьля ўступленьня на польскі пасад Жыгімонта II Аўгуста.

# Да пытаньня этнічнай прыналежнасьці  старажытных ліцьвіноў 

Паўла Урбан

Яшчэ перад Янам Длугашам паганскія вераваньні ліцьвіноў апісаў італьянскі гуманіст Энэй Сільвій Пікаламіні. Апісаў, грунтуючыся на зьвестках, пачэрпнутых з расказаў чэшскага тэоляга Яна Гераніма з Прагі, які асабіста браў удзел у масавым хрышчэньні ліцьвіноў і там зьнішчаў усялякія культуры й атрыбуты паганства, уключаючы сюды і сьвяцілішча зь вечным і сьвятым агнём. Але пра ліцьвіноў Энэй Сільвій Пікаламіні пісаў як пра народ славянскай мовы, а польскі гісторык Ян Длугаш тых-жа ліцьвіноў залічаў да славянізаваных балтаў, гэтак званага «італьянскага паходжаньня». Пётра Дузбург таксама пісаў пра паасобных ліцьвіноў, якія валодалі, паводля яго і польскай мовай. Пісаў пра гэта пад 1290 г., апісваючы эпізод, як быў абхітраны на Нёмане водны разьведвальны патруль крыжакоў. Гаворка ў гэтым выпадку была пра замак Калайна і ягоны гарнізон, якім камандаваў каштэлян Сурмін. Каб заманіць гэты крыжацкі патруль падыйсьці бліжэй да берагу ракі, сярод абаронцаў замку быў абраны чалавек, што ведаў польскую мову і які, прыкінуўшыся палоненым хрысьціянінам, павінен быў прасіць паратунку: забраць яго з сабою ў карабель. Як выглядае, чалавек, гэты, які валодаў польскай мовай, мог быць ліцьвіном, бо паводля Дузбурга, таксама аднаму ліцьвіну на імя Надам была даручана справа атакаваць пры нагодзе той крыжацкі водны патруль. Дарэчы, замак Калайна знаходзіўся над Нёманам у жамойцкай Каршоўскай зямлі, і ў тым часе ягоны гарнізон мог складацца пераважна з жамойцаў.

Працяг. Пачатак у № 1(11), 1992—1 (21), 1993

Аднак больш цікавае паведамленьне, якое Пётра Дузбург занатаваў пад 1302 г. Тут гаварылася пра адзін з нападаў на землі Прускага тэўтонскага ордэну невялікіх рабаўніцкіх казачых аддзелаў, якія пэўна карысталіся падтрымкай з боку ўрадавых колаў. У гэтым месцы сваёй хронікі Пётра Дузбург таксама пісаў, што перад тым як ажыцьцявіць напад на Любаўскую зямлю, ліцьвіны выслалі сюды папярэдняе свайго разьведчыка, і гэты разьведчык - *ліцьвін валодаў польскай мовай.*[172]

Любаўская зямля з цэнтрам у Любаве знаходзілася ў комтурстве Астэродэ і ляжала, такім чынам, у цэнтры крыжацкай Прусіі. Тады яшчэ польскага элементу там не было, але пасьля супастышэньняў, што былі спрычыненыя паўстаньнямі прускіх плямёнаў і карнымі экспэдыцыямі крыжакоў, сюды завозіліся нямецкія каляністы. Польскіх сялянаў крыжакі пачалі запрашаць на пасяленьне ў Прусію толькі дзесьці пасьля 1310 г.[173] Дык там, у гэтай Любаўскай зямлі, для збору зьвестак веданьне польскай мовы таму ліцьвінуразьведчыку не было патрэбнае.

Можна меркаваць, што, гаворачы пра «польскую мову», Пётра Дузбург меў на ўвазе славянскую мову ўвогуле, у тым ліку і мову «русіянскую».

Аднак загадкавасьць гэтага сьцьвярджэньня Пётры Дузбурга хаваецца ў іншым. Сапраўды, калі-б ліцьвіны належалі да сям'і балцкіх плямёнаў, дык і той ліцьвін-разьведчык увогуле ня меў-бы патрэбы ведаць вось гэтую «польскую» мову. У крыжацкай Прусіі як-ніяк жылі ягоныя аднамоўныя

суродзічы, для кантактаў і паразуменьня зь якімі ён, будучы ліцьвіном, ня мог-бы мець, здавалася-б аніякіх моўных перашкодаў, бо нельга дапусьціць магчымасьць, што ўжо ў тым часе ў Прусіі, у тым ліку і ў прыгадванай Любаўскай зямлі, дашчэнту было зьнішчанае ўсё насельніцтва старажытных прусаў.

На фоне гэткай загадкавасьці зноў прыгадаем выказваньне вялікага князя Вітаўта, паводля якога судава-яцьвягі залічаліся да гетаў ці готаў і гэтым самым этнічна супрацьпастаўляліся ліцьвінам. Праўда, той-жа Вітаўт жамойцаў моўна і этнічна радніў зь ліцьвінамі, хоць гэтых жамойцаў зноў-жа вылучаў як асобны народ. Ды, мабыць, ліцьвіны належалі да народаў славянскай мовы, былі адгалінень-нем колішніх вільцаў-люцічаў?

Возьмем для прыкладу адзін з атрыбутаў паганскіх вераваньняў ліцьвіноў, якім быў Зьніч. Гэты «Зьніч», прыгадаў Ян Длугаш, апісваючы эпізод першага хрышчэньня ліцьвіноў і зьнішчэньня ў Вільні ў 1387 г. паганскага сьвяцілішча, дзе гарэў сьвяты і вечны культавы агонь. Ян Дугаш памылкова меркаваў, быццам у мове ліцьвіноў Зьнічам зваўся галоўны сьвятар-жрэц, які падтрымліваў гэты агонь і быў адначасна вяшчуном. Гэткім вярхоўным паганскім «капланам» супольным для прусаў, ліцьвіноў і жамойцаў у іншым месцы Ян Длугашназываў Крывэ-Крывэйта. Якраз Зьніч у славянаў-паганцаў азначаў вось гэты вечны і сьвяты агонь, і гэткае значэньне таго паганскага Зьніча яшчэ і сёньня захавалася ў называньні зьнічам алімпійскага факелу-паходні, надмагільнай сьвечкі або агню над магілай няведамага жаўнера. Тэрмін «зьніч» у значэньні сьвятога агню пайшоў, як выгля дае, ад старaславянскага дзеяслова «энетизнити», што ў сваю чаргу значыла «гарэць».

Этамалёгія слова «Пагоня» павінна была сьведчыць пра тое, што ў якасьці эмблемы князёў або дзяржаўнага гербу Пагоня магла ўзьнікнуць толькі ў славянскім моўна-палітычным асяродзьдзі. Вось што азначала пагоня, як пра гэта была гаворка ў Ягайлавай грамаце 1387г. На жаль, даводзіцца цытаваць вытрымку з гэтай граматы ў сучасным рускім перакладзе, бо пад рукой мы ня маем арыгіналу: «*Согласно древнему абычаю, —гаварылася ў той Ягайлавай грамаце,— военный поход остается обязанностью, котарая осуществлятся собственными затратами и расходами. В том-же случае, если предется преследовать врагов, неприятелей наших, которые бы убегали с нашей литовской земли, то для этого рода преследования, которое по-народному называется погоней, обязуются отправляться не только рыцари, но и каждый мужчина, какого бы он ни был происхождения или состояния, только бы он был способен носить оружие*».[174]

Гэтая грамата вялікага князя і ў тым часе ўжо польскага караля Ўладыслава - Ягайлы была датаваня 20 лютым 1387 г. У сілу гэтай Ягайлаўскай граматы князь і баяры ВКЛ, якія прыймалі каталіцызм, атрымлівалі на ўзор польскіх магнатаў адмысловыя прывілеі і больш асабістых правоў. Упершыню ў пісьмовай форме гэтай граматай акрэсьлівалася сымболіка Пагоні, а Пагоняй, як можам канстатаваць, называлася ў народзе паспалітае рушэньне або ўсенародны абавязак збройна абараняцца ад ворагаў. І тут ня гэтак важна пытаньне, калі і пры якім князі Пагоня сталася дзяржаўным гербам ВКЛ. Важнейшым зьяўляецца факт, у мове якога народу Пагоняй было названае тое паспалітае рушэньне. Нагадваем, што ў іншай Ягайлавай грамаце, датаванай 22 лютым 1387 г, была гаворка

пра асобную «нацыю ліцьвіноў», якая паводля забабязаньня караля Ўладыслава-Ягайлы, павінна была прыняць хрышчэньне каталіцкага абраду.

Да гэтага можна дадаць, што, напрыклад, у XIУ ст. пячаткамі з адлюстраваньнем на іх Пагоні карысталіся ня толькі князі Гедымінавічы. У якасьці княжай эмблемы Пагоню ўжывалі таксама Друцкія князі, што паходзілі ад колішняга Полацкага князя Рагвалода Барысавіча. Мы ўжо гаварылі пра пагадненьне, якое князь Вітаўт аформіў 30 студзеня 1384 г. зь вялікім магістрам Тэўтонскага ордэну Канрадам Цёльнерам. Якраз тое Вітаўтава пагадненьне замацоўвалася таксама пячаткай Друцкага князя Льва, на якой, як і на пячатцы самога Вітаўта, аднолькава фігуравала выява Пагоні.

Для вызначэньня нацыянальнага характару дзяржавы важныя ня толькі паходжаньне дзяржаўнага гербу і мова якога народу была дзяржаўнай мовай. Ня менш важнае значэньне мае ў гэтым выпадку таксама назва сталіцы дзяржавы. Ад пачатку свайго заснаваньня сталіца Вялікага княства Літоўскага звалася якраз Вільняй і ніколі Вільнюсам. Прачытайма хоць-бы лацінскамоўныя акты, якія пісаліся ў канцылярыі вялікага князя Гедыміна і датаваліся 1323 або 1324 годам. Яны былі равесьнікамі самога акту заснаваньня гораду Вільні. Дык у тых Гедымінавых актах, уключаючы сюды і ягоныя пасланьні, паўтаралася: «Datum in civitate nostra Vilna». [175]

Калі чытаеш матарыялы расейскіх і летувісцкіх дасьледчыкаў, прысьвечаныя тапаніміцы і праблемам лінгвістыкі, дык ствараецца ўражаньне, быццам уся тэрыторыя Беларусі пакрытая тапанімічнымі назвамі пераважна балцкага паходжаньня. [176] Тычыцца гэта і рэкаў Вільлі і Вільні дый нават і назвы гораду Вільні. Быццам, рака Вільля (Вілія?) сваю назву не магла атрымаць ад стараславянскіх лексемаў «велій» (вялікі) або «віляті» (віляць, круціцца)? Другое, горад Вільня быў заснаваны пры ўпадзеньні рэчкі Вільні ў раку Вільлю. Адсюль узялася і назва Вільні. Назва горада, перанятая ад назвы рэчкі, званай Вільняй. Інакш кажучы, у назьве Вільні нічога жамойцка-летувісцкага няма. Сваю назву горад атрымаў на ўзор назваў іншых беларускіх гарадоў: Бабруйск, Вілейка, Віцебск, Менск, Мерач, Пінск, Полацак ці Гародня.

Дасьледчыкі гісторыі ВКЛ маглі заўважыць зьяву, якую можна назваць сьціраньнем этнічнай мяжы паміж ліцьвінамі і русінамі (мы тут абстрагуемся ад пазьнейшых ліцьвіноў, скажам, эпохі Адама Міцкевіча або ад той зьявы, што, напрыклад, у Масковіі ўсё жыхарства ВКЛ называлі ліцьвінамі). Напрыклад, у «Хроніцы Быхаўца» чытаем пра князя Вітаўта: *«а колі русіном остал, далі былі імя ему Юрій»*, пра князёўну Соньку Гальшанскую: *«а з поколеня руского»*, пра ўяўнага полацкага князя Барыса: *«і будучы ему русіном, был вельмі набожон»*. У хроніцы гэты князь Барыс называўся ліцьвіном.

Атрымаўшы перамогу ў змаганьні за ўладу, вялікі князь Вітаўт у 1392 годзе выдаў грамату-наказ для сваіх намесьнікаў ліцьвіноў. Справа тычылася працэдуры далейшага хрышчэньня ліцьвіноў, і цяпер каталіцкаму япіскапу дазвалялася ажыцьцяўляць абрады хрышчэньня толькі ліцьвіноў-паганцаў. Што-ж тычылася ўжо праваслаўных ліцьвіноў, дык забаранялася перахрышчаваць іх з ужыцьцём гвалту. Арыгінал гэтай Вітаўтавай граматы, пісаны на старабеларускай мове, не захаваўся і маецца толькі польскі пераклад, зь якога цытуем адпаведную мясьціну: «A ktory Rusyn badze a badze chczyal po swey woly szya krczycz,

ten szya nyechay krczy, a ktory nyechsce ,on badze w swey wyerze».[177]

А вось яшчэ крыжацкі дакумэнт 1409 г. складзены ў выглядзе «Памяткі», якая распаўсюджавался на Захадзе і мела за мэту скампраметаваць рэлігійную палітыку польскага караля Ўладыслава-Ягайлы і вялікага князя Вітаўта. У гэтым дакуменьце была гаворка пра колішнюю «здраду хрысьціянству» князя Міндоўга, а таксама пра «крывадушнасьць» у памкненьнях ахрысьціць Літву князёў Гедыміна, Альгерда і Кейстута. Такая «крывадушнасьць» аднолькава прыпісвалася Ягайлу й Вітаўту, бо, маўляў, і яны патуралі «русінам», а Ягайла прыняў хрышчэньне толькі дзеля таго, каб стацца каралём Польшчы, каб дзеля змаганьня з хрысьціянствам патэнцыяльна ўмацаваць Літву і Русь. Нарэшце, тая крыжацкая «памятка» канчалася яшчэ гэткім абвінаваўчым акордам: «таксама ёсьць фактам, што праз добрыя 23 гады ўладараньня караля Польшчы ў землях Літвы і Русі вельмі мала ўзрос культ Хрыста. А гэта таму, што там у адной царкве маецца два япіскапы, адзін зь якіх, будучы Хрысьціянінам, існуе бедна і мізэрна, а іншы, Русін, ёсьць багаты і заможны. І там, дзе адзін сярод Ліцьвіноў («літоўскай мовы» ці нацыі) ахрышчаны паводля хрысьціянскага абраду (закону), там магчыма добрая сотня будзе знарок ахрышчаных паводля русінскага абраду, і дасюль у Літве вялікая колькасьць сярод знатных (уплывовых князёў і паноў) ёсьць Русіны».[178]

Можна дадаць, што ў гэтым крыжацкім дакумэньце і брат караля Ўладыслава - Ягайлы князь Скіргайла аднолькава залічаўся вось да гэтых русінаў».

Дык чаго было больш у тых акрэсьленьнях ,ужываных у дачыненьні да ліцьвіноў і якія сцьвярджалі: *«будучы яму русінам»; «А хто будзе ўжо русінам, той можа перахрышчваецца згодна ўласнай волі або заставацца пры сваёй веры»*? Чаго было больш: веравызнаўчай характарыстыкі і сутнасьці або прыгадванага сьціраньня этнічнай мяжы паміж ліцьвінамі і русінамі? У тыя далёкія часы, напрыклад, ліцьвіноў каталіцкага веравызнаньня ніколі не называлі палякамі. Таксама ліцьвіны праваслаўнага «рускага» веравызнаньня, напрыклад, князі Гальшанскія і князі Гедымінавічы й Альгердавічы, аднолькава і пераважна заставаліся ліцьвінамі.

Перад тым, як паспрабаваць знайсьці адпаведны адказ на гэтае пытаньне, зьвернемся яшчэ да характарыстыкаў пруcкага храніста Віганда з Марбургу. Ён быў сучасьнікам князёў Ягайлы, Кейстута і Вітаўта, а сваю прускую хроніку пісаў у 1393—1394 гг. Арыгінал ягонай рыфмаванай хронікі, што была напісаная на старанямецкай мове, не захаваўся. Лацінскі пераклад гэтай хронікі, які дайшоў да нас, быў зроблены з пропускамі. Шмат хапае і абагульненьняў, а таму страціліся характарыстыкі і дэталі ў апісаньні падзеяў. Аднак ячшэ напрыканцы ХУІ ст. арыгіналам гэтай хронікі Віганда Марбургскага карысталіся нямецкія гісторыкі Станіслаў Борнбах і Каспар Шютц, якія жылі ў Гданску. З гэтае прычыны выдаўцы лацінскага тэксту той хронікі Выганда палічылі патрэбным дапоўніць ейныя адпаведныя мясьціны вытрымкамі з працаў вось гэтых гданскіх гісторыкаў.

Напрыклад, гаворачы пра часы вялікага магістра Тэўтонскага ордэну Лютара з Браўншвайгу (1331-1335), Станіслаў Борнбах адзначыў, што ў апісаньні Віганда магістр гэты шмат меў збройных канфліктаў з «русінамі», гэта значыць зь ліцьвінамі, а таксама з палякамі».[179] Тое самае, і як вынікае ўсьлед за Вігандам, паўтарыў сам Станіслаў

Борнбах. А гэта ў кантэксьце апісаньня саюзных дачыненьняў вялікага князя Гедыміна з польскім каралём Уладыславам Лакеткам і паведамленьня пра сьмерць папярэдняга вялікага магістра Вэрнэра з Арсэльну (1324-1330) ды й абраньне на гэтую пасаду Лютара з Браўншвайгу. [180]

Значыцца, паводля Станіслава Борнбаха, вялікія магістры Вэрнэр з Арсэналу і Лютар з Браўншвайгу вараженечылі не зь ліцьвінамі, а з русінамі. Таму цікава яшчэ адзначыць, дзе і ў якіх мясьцінах, паводля Борнбаха, жылі русіны і знаходзілася Русь.

Дык вось, паведамляючы пра спусташэньне ў 1391 г. навакольля Трокаў войскам вялікага магістра Канрада Валенрода, Станіслаў Борнбах пісаў, што магістр гэты напаў на земліРусі. [181] У тым часе Канрад Валенрод быў саюзьнікам і збройна падтрымліваў князя Вітаўта, які, змагаючыся за ўладу ў ВКЛ, меў канфлікт з каралём Ягайлам і ягоным братам вялікім князем Скіргайлам. Паводля таго-ж Станіслава Борнбаха, Русь гэтая знаходзілася яшчэ далей на поўнач і на захад ад Трокаў. Знаходзілася над Вільлёй і каля Коўна, ахопліваючы таксама паласу правага ўзьбярэжжа Вільлі і Нёману ды ўпадзеньня ў Нёман ракі Нявяжы. [182] Прыгадваныя Борнбахам горад «Койна» — гэта Коўна, а замак Новая Коўна ляжаў на нёманскім востраве насупраць вусьця ракіНявяжы. Названы ў зносцы «брат» Генінг Шындэкопф быў у тым часе маршалкам Прускага тэў-тонскага ордэну.

Памяшчяючы Русь у навакольлі Трокаў і над ракой Вільлёй, Станіслаў Борнбах, праўдападобна, ня быў фантазёрам. Зусім дапушчальная магчымасьць, што Борнбах грунтаваўся на зьвестках, якія чэрпаў зь нямецкамоўнага арыгіналу рыфмаванй хронікі Віганда. Бо-ж і ў лацінскім перакладзе гэтай ягонай хронікі захавалася канстатацыя, у сьвятле якой і Вільня характарызавалася як «cicitas Rutenica» або горад, што быў заснаваны «русінамі». Пра гэта Віганд Марбургскі пісаў у кантэксьце паведамленьня пра аблогу крыжацкім войскам і спаленьне Вільні ў верасьні 1393 году [183]. Тое спаленьне Вільні таксама здарылася пры ўдзеле князя Вітаўта, што было вынікам ягонага «антыягайлаўскага» саюзу з тагачасным вялікім магістрам Тэўтонскага ордэну Канрадам Цёльнэрам.

Віганд Марбургскі яшчэ сцьвярджаў, што Русь знаходзілася і каля Трокаў. Знаходзілася там, дзе недалёка ад Валкінікаў над ракой Мерачанкай калісьці існаваў замак Дрэўнікі.У 1372 г. гэты замак зьведаў напад крыжакоў, і ён, паводля Віганда, знаходзіўся на тэрыторыі Русі. [184]

(Працяг у наступным нумары)

Бібліяграфія

172 Petri de Dusburg Chronica terre Prussie, pp. 354-355, 400-401.
173 Henryk Lowmianski, Polityka Ludnosciowa Zakonu niemieckego w Prusach i na Pomorzu.gdansk - -Bydzoszcz-Szczecin, 1947
174 Хрестоматия по истории Белоруссии, С древнейших времен до 1917 г. Составители: А.П. Игнатенко, В.Н. Сидорцов, Мн., 1977, №3, с.24-25.
175 Послания Гедимина, №№ 3, 6,8,16, с. 35, 53, 75, 171.
176 Балто-славянские исследования 1986 Сб. научных трудов. Отв. ред. Вяч. Иванов. М., 1988
177 Codex Ecclesiae, Vilnensis, Nr 23, p. 39
178 Codex epistolaris Vitoldi, Appendix,IV, pp. 972-1000
179 Die Chronik Wigands von Marburg, p.478, Fussnote 162.
180 Ibidem, pp. 471, 483.
181 Ibidem, p. 645
182 Ibidem, p. 559
183 Ibidem. p. 623
184 Ibidem, p. 571

# Прарыў у трагічную будучыню

## (Да пытаньня аб стварэньні беларускай нацыянальнай дзяржаўнасьці

Мікалай Сташкевіч, Расьціслаў Платонаў



### *Рада прымае III Устаўную Грамату*



24 сакавіка 1918 г. зьбіраецца сэсія Рады БНР. Для ўдзелу ў ёй запрашаюцца прадстаўнікі Віленскай беларускай рады, якая ўтварылася 27 студзеня 1918 г. на канфэрэнцыі прадстаўнікоў беларускіх грамадзка-палітычных арганізацыяў, якія заставаліся на тэрыторыі першай нямецкай акупацыі. Тады-ж яна абвесьціла аб «разрыве сувязяў паміж Беларусьсю і Расеяй» і насуперак волі Усебеларускага Кангрэсу аб зацьвярджэньні рэспубліканскага ладу на ўсёй тэрыторыі Беларусі, як часткі Расейскай Фэдэрацыі, выказанай дакумэнтавана 17 сьнежня 1917 г., абвесьціла «незалежную Беларуска-Літоўскую дзяржаву». Такая ідэя была адразу-ж адхілена Летувісцкай тарыбай, якая атрымала ад нямецкага ўраду дараваную «незалежнасьць» Літвы.

Як-жа абмяркоўвалася гэтае пытаньне на паседжаньні Рады 24 сакавіка 1918 г.? Зьвернемся да пратакольнага запісу паседжаньня: «III паседжаньне Рады Беларускай Народнай Рэспублікі адкрылася заявай старшыні Я. Серады аб тым, што паседжаньне Рады БНР наведала делегацыя Віленскай беларускай рады ў асобе А.Луцкевіча, І. Луцкевіча, Я. Станкевіча і О.Туркевіча. Рада вітала гасьцей апладысментамі.

Затым заступнік старшыні Я.Варонка меў прамову, прысьвечаную значэньню Вільні ў гісторыі беларускага нацыянальнага палітычнага адраджэньня і заслугам пачынальнікаў беларускага руху братоў Луцкевічаў.

«Беларусы,— сказаў прамоўца, — сёньня ў нас Вялікдзень. Сёньня зноў спалучаюцца духоўна Вільна і Менск — душа і цела. Сёньня беларус ўваскрос».

Урачыста вітаючы братоў Луцкевічаў, прыхільнікі поўнае незалежнасьці Беларусі тым самым спрабавалі аказаць псыхалягічны ціск на апазыцыю, якая выступала супраць падобнага разьвіцьця падзеяў.

«У адказ на вітальную прамову Я. Варонкі старшыня Віленскай беларускай Рады Антон Луцкевіч зрабіў падрабязны даклад аб дзейнасьці беларускіх арганізацыяў на Віленшчыне і Горадзеншчыне, які выклікаў працяглыя пытаньні, на якія вычарпальна адказваў шаноўны госьць. Пасьля дакладу Антона Луцкевіча...фракцыя Беларускай сацыялістычнай Грамады ўнесла на абмеркаваньне прапанову аб абвешчаньні незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Прапанова гэта выклікала пратэст адной часткі Рады, але ў далейшым большасьцю галасоў была прынята. Даклад аб становішчы Беларусі на сучасны час і прычынах, якія патрабавалі абвешчаньня Беларусі незалежнай Народнай Рэспублікай, зрабіў старшыня фракцыі А.Смоліч».

Барацьба на сэсіі накалялася. «Спрэчкі па дакладу пасьля перапынку працягваліся на працягу 10 гадзінаў. Настаў рашаючы момант. Рэзалюцыя, прапанаваная «незалежнікамі», была наступная: «Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвяшчае Рэспублі ку незалежнай, аб чым стварае адпаведную

Устаўную грамату». Прынята рэзалюцыя пераважнай колькасьцю галасоў, прычым група Рады рэспублікі, якая была выдзеленая Усебеларускім Кангрэсам (рада зьезду), галасавала аднагалосна за незалежнасьць, а гарадзкая група і старшыні Бунда — супраць гэтай рэзалюцыі (але засталіся ў Радзе), земская група (эсэры—аўт.), у ліку 9 асобаў пакінулі Раду (пакінулі Злобін, Ярашевіч, Матюш, Шіманскі, Жілінскі, Міlановіч і іншныя).

Размежаваньне, такім чынам, ішло па таму-ж самому прынцыпу, што і на Усебеларускім Кангрэсе ў сьнежні 1917 г. Эсэры і падтрымліваючыя іх палітычныя групоўкі, галоўнае меншавікі і яўрэйскія сацыялісты, якія арыентаваліся на сваіх аднадумцаў у Расеі, пагаджаліся на аўтаномію Беларусі толькі ў рамках дэмакратычнай Расейскай дзяржавы. Земская група, у якой эсэры дамінавалі, абвінавацілі «незалежнікаў» у тым, што яны дзейнічаюць па ўказцы немцаў і палякаў. Сваю пазыцыю яны аргументавалі тым, што пастаноўка пытаньня аб незалежнасьці Беларусі ёсьць супраць фэдэральнага ладу Расеі, які зацьверджаны Устаноўчым сходам. «Незалежнікі» не згаджаліся з гэтым, у сваю чаргу прымянілі тактыку ціску на апанентаў. Да чаго ўсё гэта прывяло—вядома. «Рэзалюцыя аб незалежнасьці» прынята ў 6 гадзінаў раніцы 25 сакавіка. Рэзалюцыя горада, якая ануліравала толькі Брэсцкі трактат, была адхілена. Пры галасаваньні ўстрымаліся прадстаўнікі Аб'еднанай яўрэйскай сацыялістычнай партыі, БСДРП, «Поалей—Цион» і сацялісты-рэвалюцыянеры.

Прыняцьцё рэзалюцыі Рада вітала шумнымі авацыямі і абвесьціла: «Няхай жыве незалежная Беларуская Народная Рэспубліка!». Пасьля прыняцьця рэзалюцыі паседжаньне на 6 гадзінаў было прыпынена і адбылося ў 12 гадзінаў дня 25 сакавіка пад кіраўніцтвам Я.Варонкі. Паседжаньне было прысьвечана выключна прыняцьцю па пунктах тэкста 3 Устаўной граматы.

3 Устаўная грамата была загадзя падрыхтвана фракцыяй БСГ і ўзгоднена з групай А.Луцкевіча. На думку беларускіх сацыялістаў, яна павінна была як-бы завяршыць працэс самаазначэньня і канчаткова сканструяваць стварэньне беларускай нацыянальнай дзяржаўнасьці. Але не гэта стала асноўным у 3-й Устаўной грамаце. Галоўнае зьяўлялася тое, як будаваць узаемаадносіны з Расеяй. Грамата ўказвала на поўную самастойнасьць і незалежнасьць БНР і адначасова абвяшчала: «Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежны край». Грамата таксама дэклямавала: «Самі народы Беларусі, у асобе свайго Устаноўчага Сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных сувязях Беларусі».

Узьнікае пытаньне, з кім меркаваліся такія сувязі? Адказ думаецца адназначны: толькі не з Расеяй. Дзеячы 25 Сакавіка выступілі за разрыў усякіх адносінаў з Расеяй, у захаваньні такіх сувязяў яны бачылі небясьпеку. Аб гэтым пазьней пісаў адзін зь лідэраў БНР Я. Лёсік:«У пачатку нашай дзейнасьці, прыблізна ў 1918 г., у нас востра стала пытаньне аб палітычнай арыентацыі. Беларусь нямоцная, патрэбная сталая сувязь з моцным палітычным арганізмам. На каго арыентавацца: на Расею або на Польшчу? Большаць «незалежнікаў», у тым ліку і я (Тарашкевіч, Уласаў, Іваноўскі, Смоліч, Гарун, Левіцкі) схіляліся ў бок Польшчы, матывуючы гэта перш за ўсё тым, што Польшча сама перажыла нацыянальную няволю і зь ёй лягчэй будзе дамовіцца».

Далей ён тлумачыў: «Палінізацыя ня так страшная, бо абсалютная большасьць беларускага насельніцтва супраць польскай мовы. Між тым, гістарычныя ўмовы склаліся так, што для Беларусі больш небясьпечная русыфікацыя, так як сялянства і гарадзкое насельніцтва ахвотна прымае расейскую мову і русіфікуюцца».

У захаваным у архіве запісе маецца і такая думка: «Аднак сярод каталіцкай часткі беларускага насельніцтва ёсьць нямення шая цяга і ў бок палінізацыі. Тарашкевіч ня раз падымаў пытаньне аб палітычнай ізаляцыі Беларусі ад расейскіх і польскіх нацыянальных уплываў. І мы вырашылі выкарыстаць нямецкую акупацыю, наколькі гэта мажліва.Тым больш, што такая ўстаноўка ўзята была ўжо беларускімі дзеячамі ў Вільні (газэта «Гоман»).

Спачатку быў узяты курс на пошук згоды зь нямецкімі ўладамі, бо многія лідэры БНР лічылі, што пры падтрымцы ўраду кайзера можна будзе рэалізаваць намечаныя пляны. Такая тактыка ў выніку прывяла да расколу фракцыі БСГ—фактычнага арганізатара абвешчаньня незалежнай БНР. Не прыняла яе і земска-гарадзкая група, якая аб'ядноўвала ўасноўным эсэраў, меншавікоў і яўрэйскіх сацыялістаў. Ячшэ нядаўна, выступаючы ў якасьці саюзьнікаў БСГ у абвешчаньні БНР, эсэры, 29 сакавіка 1918 г. паставілі пытаньне аб абмеркаваньні на паседжньні Рады «пажаданасьці фэдэрацыі БНР зь Вялікай Расеяй, Украінай, Літвой», але і на гэты раз прыхільнікі поўнай незалежнасьці не пайшлі насустрач ім, сцьвярджаючы, што патрэбна барацьба за захаваньне тэрытарыяльнай цэласьці Беларусі, парушанай Брэсцкім мірам.

Акт 25 Сакавіка 1918 г. пры усім яго значэньні і павазе да тых, хто яго падрыхтаваў і адстойваў, калі аб'ектыўна глядзець на рэчы, толькі прадэклямаваў жадаемую незалежнасьць. Ён застаўся толькі палітычнай акцыяй. Для шырокіх народных мас ён быў ва многім нечаканасьцю, яны не былі падрыхтваны перш усяго да ўспрыняцьця ідэі разрыву з Расеяй. Таму і на акупаванай тэрыторыі і за яе межамі пачалі прымацца многія рэзалюцыі, у якіх удзельнікі розных зьездаў, сходаў, мітынгаў пратэставалі супраць аддзяленьня ад Расеі.

Не ў карысьць Радзе БНР складываўся і вонкавы фактар. Ва ўмовах працягу вайны зь Нямеччынай і пачатай грамадзянскай вайны ў Расеі, урады краін Антанты і ЗША не праявілі зацікаўленасьці да БНР, бо не жадалі пазбаўляць сябе адчыненай брамы для інтэрвенцыі ў Расею. Безвыніковым аказаўся і дэмарш ўраду БНР, накіраваны ў Кіеў да нямецкага пасла спэцыяльнай дэлегацыі, з просьбай аб прызнаньні самастойнасьці Беларусі і ўстанаўленьні з мясцовымі нямецкімі ўладамі адносінаў, якія дазвалялі-б БНР стварыць узброеныя сілы для зацьвярджэньня сваёй улады на тэрыторыі савецкай часткі Беларусі. На пасланыя ў Бэрлін тры граматы рейхсканцлер паведаміў Народнаму сакратарыяту, што Бэрлін разглядае Беларусь часткаю Савецкай Расеі, што па Брэсцкаму дагавору без ураду Леніна ён вырашаць гэтае пытаньне ня будзе, і прызнаць зноў створаны Беларускі ўрад ня можа.

Што датычыцца нямецкага вайсковага камандаваньня на тэрыторыі Беларусі, які лічыў Раду ў цэлым сацыялістычнай, то яно ўсё больш адкрыта падтрымлівала створанае «Менскае беларуске народнае прадстаўніцтва» на чале з памешчыкам Сірмунтам. З складу Рады сталі ўсё больш выцясьняцца радыкальныя элементы, якія спрабавалі апеляваць да сусьветнай грамадзкасьці, пратэстуючы супраць жорст-

касьці рэжыму акупантаў, а іх месца занімалі прадстаўнікі буржуазна-памешчычых груповак з «Менскага беларускага народнага прадстаўніцтва».

Не губляючы надзеі ўсе-ж на зручныя для абвешчанай рэспублікі зьмены нямецкай і сусьветнай палітыкі, Рада стала шукаць узаемаразуменьня з камандуючым X нямецкай арміі генералам Э.Фалькенгаунам па арганізацыі тэрытарыяльнага апарата ўлады. Ужо 27 сакавіка была абʼяўлена дэклярацыя, якой прызнаваліся ўсе краёвыя структуры ўлады. 20 красавіка публікуецца «Часовы наказ мясцовым беларускім радам». Ён адзначыў правіла выбараў у вёсках, валасьцях, гарадах і пасёлках, раёнах і губэрнях дзяржаўных ворганаў БНР і перадачы ў іх рукі з рук акупацыйнай адміністрацыі некаторых адміністрацыйных абавязкаў. Рада дабілася нейкай самастойнасьці ў гандлі, прамысловасьці, адукацыі, аховы грамадзкага парадку. Разьлічваючы атрымаць у асобе Рады «пасярэдніка паміж нямецкім кіраўніцтвам і беларускім народам», нямецкае камандаваньне дало згоду на стварэньне груп беларускіх дараднікаў пры павятовых камэндатурах з мэтай садзейнічаць у ўрэгуляваньні адносінаў насельніцтва акупаваных уладаў.

У далейшым, пры народным сакратарыяце, з згоды нямецкіх уладаў, ствараецца бюро ў справах напісаньня падручнікаў і таварыства «Асьвета» для іх выданьня. Арганізуюцца курсы для настаўнікаў і школьная інспэкцыя, пашыраецца сеткі пачатковых і сярэдніх школаў. У Менску адкрыўся Беларускі пэдагагічны інстытут, рэктарам якога стаў В.Іваноўскі, выкладчыкамі —В.Карскі, В. Тарашкевіч, В.Ігнатоўскі і інш. Працаваў беларускі тэатр, Таварыства драмы і камэдыі, шэраг іншых установаў культуры. Зьявілася некалькі беларускіх газэт і часопісаў, якія кантраляваліся сакратарыятам.

Забягаючы наперад, скажам, што Народны сакратарыят ад нямецкага камандаваньня атрымаў таксама некаторыя правы для дзейнасьці ў сферы міжнароднай палітыкі. Прадстаўніцтвы БНР зьявіліся на Украіне, у Літве. Дыпляматычная місыя была накіравана ў Варшаву, Бэрлін, Берн, Капэнгаген, гандлёвая палата адкрылася ў Кіеве.

Тым ня меньш, усе важныя пытаньні дзяржаўнага ўзроўня вырашаліся нямецкай адміністрацыяй. Дазвол-жа на свае ўзброеныя сілы, нягледзячы на неаднаразовыя просьбы Сакратарыята, так і ня быў атрыманы.

(Працяг у наступным нумары)



Пётр Крэчэўскі.
Старшыня Рады БНР (13.12. 1919—8.03.1928)

# ПАМЯЦЬ ЗЯМЛІ

## Віленскія беларусы расказваюць...



**Сьвятлана Белая**

*«Белы кужаль , на ім чырвоная палоска крыві—гэта сьцяг паняволенае Беларусі»*, — пісаў у адной з сваіх працаў Антон Луцкевіч. Бел-чырвона-белы сьцяг, сымбаль, на якім выхавалася не адно пакаленьне беларусаў, быў сымбалем і беларускіх студэнтаў Вільні.

—Чаму беларусы выбралі за сваю харугву бел-чырвона-белы сьцяг?— запыталася я ў час нашых гутарак доктара Тумаша. Той крышку памаўчаў, зьбіраючыся з думкамі, а пасьля, зь нейкай хітрынкай у голасе, сказаў:

— Вось гэтае самое пытаньне і задалі мы аднойчы ксяндзу Гадлеўскаму на адным зь сьвяткаваньняў 25 Сакавіка ў Беларускім Студэнцкім Саюзе. Гадлеўскі браў удзел у абвешчаньні Акту 25 Сакавіка і не на слыху ведаў аб тым, што рабілася на паседжаньнях Рады, якія пытаньні абмяркоўваліся там і якія праблемы дыскуталіся. Памятаю, як ён расказваў, што ў Радзе разгарэлася вялікая дыскусыя аб сьцягу. Прапановаў было некалькі, але дзьве былі найбольш папулярнымі: чыста белы сьцяг і бел-чырвона-белы. Вельмі многія схіляліся да думкі, што беларусы мусяць мець свой сьцяг чыста белым, які паказваў-бы духовую белізну народу (беларус-белы). Іншыя пярэчылі, казалі, што чыста белы сьцяг у гісторыі заўсёды азначаў капітуляцыю ворагу, паражэньне, а таму нельга зрабіць яго такім. Калі-ж дадаць на белы сцьяг чырвоную палоску, палоску крыві тысячаў беларусаў, што змагаліся за Бацькаўшчыну, што ляглі за яе, то гэта толькі ўзмацьніць сымбалічнасьць сьцягу, падкрэсьліць чысьціню імкненьняў ягонага народу. Так бел-чырвона-белы сьцяг і ўвайшоў у гісторыю Беларусі, а аповяд ксяндза Гадлеўскага запомніўся нам, студэнтам, на ўсё жыцьцё.

—Наогул,— працягваў доктар Тумаш,— гісторыя абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў 30-я гады перадавалася з аднаго пакаленьня другому. Яшчэ жывы былі ўдзельнікі тых гістарычных падзеяў, і яны дзяліліся сваімі ўспамінамі, думкамі з

Працяг. Пачатак у № 3((13)—7(17), 9(19), 1992, 1(21), 1993

маладымі, тымі хто прагна хацеў ведаць праўду аб 25 Сакавіку. Цікавасьць да сьвяткаваньня Дня Незалежнасьці сярод сьвядомых беларусаў Вільні расла паступова.

Памятаю, што мы пачалі адзначаць 25 Сакавіка, будучы яшчэ ў Віленскай Беларускай гімназіі, але ў тыя 23-24 гады сьвята гэтае яшчэ не набыло сваёй папулярнасьці. Больш шырокае сьвяткаваньне пачалося прыблізна з 25-26 гадоў. А ў тыя пачатковыя гады мы толькі зьбіраліся ў гімназіцкай залі, і нехта з выкладчыкаў чытаў нам рэферат. У студэнцкія гады да сьвяткаваньня Дня Незалежнасьці мы пачалі ўжо рыхтавацца. Загадзя ведалі, дзе адбудзецца зборка (спачатку зьбіраліся ў гімназіі або ў нейкім студэнцкім пакойчыку і толькі пасьля, калі да студэнтаў далучыліся іншыя сьвядомыя беларусы, стала наймацца невялікая і недарагая заля, пераважна мы арэндавалі яе ў літоўцаў, бо сваёй ня мелі). Загадзя для рэферату вызначаліся дакладчыкі. Звычайна, мы запрашалі тых, хто быў удзельнікам тых падзеяў, у Вільні жыло нямала людзей, якія былі іх сьведкамі. (Асабліва запомніліся мне выступленьні Макара Краўцова і ксяндза Гадлеўскага). Напярэдадні сьвяткаваньня ў часопісе «Шляхам жыцьця» друкавіліся невялічкія артыкулы, у якіх расказвалася аб далейшым лёсе беларускіх змагароў. А ў Празе выйшла цэлая кніжыца, прысьвечаная падзеям 25 Сакавіка.

Але ў цэлым сьвяткаваньне было вельмі сьціплым, бо студэнтаў беларусаў было ў Вільні няшамт. Чытаўся рэферат, пасьля задаваліся пытаньні, затым сьпяваліся нацыянальныя песьні. Мы зьбіраліся, бо ведалі, што мусім распрацоўваць гэтую светлую ідэю незалежнасьці. Мы зьбіраліся, бо хацелі вывучыць усе дэталі тае пары.

К канцу 30-х гадоў культ Дня Незалежнасьці ўзмацьніўся. 25 Сакавіка ва ўмовах моцнага прасьледу ўсяго беларускага, набыў новыя рысы і сымбалі. Ён стаў нашым нацыянальным сьвятам, за якое многія з нас маглі аддаць і жыцьцё.

Памятаю аповяд Язэпа Найдзюка, якога ў канцы 30-х гадоў пасадзілі ў Вілейкаўскую турму. Ён сядзеў у ёй некалькі месяцаў і ад манатоннасьці турэмнага жыцьця пачалі зблытвацца ўжо ня толькі дні, але і тыдні. І вось аднойчы ў адзін хмуры сакавіцкі дзень яго і ягоных сяброў па камэры павялі на штодзённую прагулку. Яны спусьціліся ў цёмны двор, над якім бачылася маленькая латка шэрага неба, зрабілі першы круг і раптам пачулі, як чалавек, што ішоў насустрач ім ціха сказаў:«25!». Гэтыя шматзначныя для беларускага вязьня словы паўтарыў і другі беларус, і трэці. Для людзей, якія сядзелі ў турме за беларускую справу, яны азначалі вельмі многа. Найдзюк і ягоныя сябры самі пачалі перадаваць: «25!» іншым вязьням, бо гэта быў іх дзень, гэта было іх сьвята. Вось так сымбалічна і адсьвяткавалі яны 25 Сакавіка ў Вілейкаўскай турме.

Тым часам у Вільні рух за сьвяткаваньне Дня Незалежнасьці павялічваўся, і перад выбухам вайны да студэнтаў далучыліся і многія нацыянальна настроеныя беларусы. Пазьней ідэі 25 сакавіка перахоўваліся на эміграцыі і, нарэшце, яны зноў вярнуліся на Бацькаўшчыну.





Эпілёг

„А ці думы горкія прыйшлі
аб краіне, ворагам забранай?
Знаю – сьніцца расьцьвітаньне ліп
у ружовы летні ранак.” *

Абяздолены мой стромы шлях
аніколі не давёў мяне да шчасьця –
і трывога тоіцца ў грудзях
каб бясьсьледна не прапасьці.

І кляну я горкі лёс ліхі
і напружваю ў зьнямозе сілы...
Ці ж вядуць мае самотныя шляхі
да забытае, бязкрыжае магілы?

* „Узвышша”

# Далёкае і блізкае

## Некалькі штрыхоў да партрэта Анатоля Бярозкі

Антон Шукелойць

*У пачатку гэтага году ў кнігарнях Менску зьявілася кніга паэзіі беларускай эміграцыі «Туга па Радзіме». Гартаю гэтае выданьне, перад вачыма знаёмыя ўжо імёны: Натальля Арсеньнева, Вінцук Адважны, Алесь Змагар, Янка Золак, Уладзімір Клішэвіч, Уладзімір Дудзіцкі, Рыгор Крушына, Хведар Ільяшэвіч, Янка Юхнавец, Масей Сяднёў, Алесь Смаленец, Алесь Салавей, Сяргей Ясень і Анатоль Бярозка. Якім-жа доўгім быў іх шлях да чытача Бацькаўшчыны! Наколькі-ж нечаканым стала адкрыцьцё іхняй паэзіі для яго.*

*Няпростае вяртаньне гэтых аўтараў у Беларусь тлумачыцца хутчэй за ўсё іх няпростым жыцьцёвым лёсам паэтаў эміграцыі. Многія зь іх зьведалі сталінскія турмы і лягеры. Усе прайшлі празь нялёгкае жыцьцё выгнаньнікаў на чужыне. Лёс кожнага з паэтаў эміграцыі заслугоўвае вывучэньня і пераасэнсаваньня. І, пэўна, прыйдзе час, калі зьявяцца грунтоўныя агляды творчасьці і жыцьця ўсіх іх. Сёньня-ж мы хочам расказаць пра аднаго з гэтых паэтаў.*

*Зьбіраючы матэрыялы аб Віленскай Беларускай гімназіі, Беларускім Студэнцкім Саюзе, я захапілася творчасьцю і асобаю Анатоля Бярозкі. У размовах з д. Вітаўтам Тумашам, Раісай Галяк, Антонам Шукелойцам, Вольгай Сяднёвай, Мікалаем Шчорсам, сёстрамі Будзькамі я прасіла расказаць пра паэта Бярозку. Прапануўваем вашай увазе ўспаміны Антона Шукелойца*

*Сьвятлана Белая*

Я пазнаёміўся з паэтам Анатолем Бярозкам у Беларускім Студэнцкім Саюзе ў 1935 годзе, калі паступіў на першы курс гуманітарнага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту. Анатоль Бярозка вучыўся на другім курсе мэдычнага факультэту і быў актыўным сябрам Саюзу. Жыў я зь ім таксама разам. Спачатку, як і многія студэнты, у так званым беларускім доме, што зьмяшчаўся на вуліцы Завальная 1. Гаспадаром гэтага дому быў Ян Пазьняк. Ёнжа быў і рэдактарам беларускай часьці газэты «Крыніца», рэдакцыя якой разьмяшчалася тут-жа. Беларускі дом, акрамя жылых пакояў меў дзьве залі: меншую займаў Беларускі Студэнцкі Саюз, большую— Беларускі Інстытут Гаспадаркі й Культуры. У залі Беларускага Студэнцкага Саюзу ўздоўж сьцен стаялі лавы-тапчаны. Днём яны служылі як месца для сядзеньня, ноччу студэнты выкарыстоўвалі іх пад ложкі. Звычайна пасьля 10 гадзіны вечара наш «студэнцкі» пакой на Завальнай пачынаў запаўняцца студэнтамі, якія вярталіся зь бібліятэкаў, лябараторыяў, шпіталёў на начлег. Даставалі мы свае пасьцелі, раскладалі іх на тапчанах і хутка заля ператваралася ў спальны пакой.

Гэта быў вельмі цікавы час, бо беларускі дом пачынаў ажываць. Студэнты дзяліліся навінамі, абмяркоўвалі падзеі, творы маладых пісьменьнікаў, тут-жа чыталіся новыя вершы. Усе чакалі на прыход Яна Пазьняка, які жыў у гэтым доме, вельмі цікавага і вя-

сёлага чалавека, якога любіла і паважала ўся студэнцкая моладзь. Ян Пазьняк быў майстрам на цікавыя гісторыі з жыцьця беларусаў. Моладзь, якая зьбіралася ў ягоным доме, была пераважна левага кірунку, і таму ён расказваў нам пра лідэра эсэраў Тамаша Грыба, пра Антона Луцкевіча. Зараз узгадваецца такая гісторыя пра Антона, які належаў да масонаў.

У той час вялікім майстрам масонскай лёжы быў рэктар Віленскага ўнівэрсытэту Віталь Станевіч, вельмі прыхільная да беларускай справы асоба. І вось аднойчы Луцкевіч захацеў завесьці ксяндза Адама Станкевіча ў масонскую лёжу. Трэба сказаць, што ў тыя часы для каталікоў быў забаронены ўваход у масонскія лёжы. Асабліва ксяндзам, якіх за належаньне да масонаў маглі пазбавіць сану. Антон Луцкевіч ведаў гэта, але-ж прывёў Адама Станкевіча да дзьвярэй ложы і сказаў яму: «Ведаеш, куды мы прыйшлі?» «Не», — адказаў зьдзіўлены Адам Станкевіч. «Зараз адчыняцца дзьверы і ты ўвойдзеш у масонскую лёжу». Станкевіч, як толькі пачуў гэта, завярнуўся назад. Так гэты «жарт» Антона Луцкевіча і ўвайшоў у гісторыю.

Вось у такой вясёлай атмасфэры праходзілі нашыя вечары. Пэўна, што ў нас былі ня толькі прыемныя хвіліны, бо паліцыя часам рабіла рэвізыі, прыходзіла ў беларускі дом ноччу, будзіла нас і правярала дакумэнты. Каля 30 разоў паліцыя судзіла «Крыніцу» і забараняла яе выдавецтва. Нарэшце, і нам забаранілі жыць у доме, дзе разьмяшчалася беларуская газэта. Усе студэнты мусілі разыйсьціся па прыватных кватэрах. Спачатку я пайшоў на кватэру з Валодзям Клімам, мы знайшлі кут у свайго сябры па фізычнай працы. Той меў хату, але ў вельмі дрэнным раёне. Пажыў там нядоўга, з Анатолем Бярозкам вырашылі разам наняць кватэру. Той ужо працаваў асыстэнтам прафэсара на кафэдры фізіялёгіі Віленскага ўнівэрсытэту, а я знайшоў часовую працу ва ўнівэрсытэцкім этнаграфічным музэі. Мы пачалі здымаць кватэру ў Стараверскім раёне. Гэта было вельмі спакойнае, прыемнае месца. Мелі адзін маленькім пакой, дзе стаялі толькі два ложкі і стол, але месца хапала, жылі мы вельмі дружна. У гэтым пакоі Бярозка пасьля лекцыяў і працы рэдагаваў часопіс «Шляхам моладзі», бо фактычны рэдактар Язэп Найдзюк выконваў адміністрацыйную работу. Сюды-ж, прыносіў Бярозка на разгляд і пераапрацоўку матар'ялы з часопіса «Калосься», сябрам рэдкалегіі якога ён быў. Тут ноччу ён пісаў свае вершы. У гэтым-жа пакоі выдаваўся і рукапісны, гумарыстычны часопіс «З-за плоту», у выпуску якога прыймалі ўдзел Анатоль Бярозка як рэдактар, Ян Жэдзік, які тэхнічна афармляў часопіс, і я. Часопіс карыстаўся вялікай папулярнасьцю сярод студэнцтва. Ён хадзіў па руках і студэнты перапісвалі яго ў вольны час. Рэдкалегія выпускала толькі два экзэмпляры, усё астатняе былі копіі, зробленыя студэнтамі. Арыгінал «З-за плоту» знаходзіўся ў музэі Івана Луцкевіча. Здаецца, што выйшла два або тры нумары часопіса.

Трэба сказаць, што тыя, хто належыў да Беларускага Студэнцага Саюзу, увесь час знаходзіліся пад наглядам паліцыі. Памятаю, як нам з Анатолем Бярозкам прыйшло паведамленьне зьявіцца на Сьвітанскую вуліцу, дзе знаходзілася палітычная паліцыя, званная «двойкамі». Калі мы атрымалі гэтыя павесткі, вырашылі парадзіцца зь Янам Пазьняком. Ён нас супакоіў:«Задок імі падатрыце». Але неўзабаве новыя паведамленьні зноў прыйшлі да нас. Пазьняк нам раіў: «Не ідзіце». Мы яго паслухалі, але знаёмыя паперкі зноў зьявіліся ў на-

шай паштовай скрыне. Я вырашыў параіцца з Міколам Шчорсам, старшынёй нашага Саюзу. «Сходзіце,—сказаў ён.—Нічога страшнага не здарыцца, яны хочуць завесьці толькі картатэку на вас».

I вось у адзін дзень я пайшоў на Сьвітанскую вуліцу. Прыйшоў, паказаў сваё кліканьне, запытаўся, у якой справе мяне паклікалі, і пачуў у адказ: «Мы такой карткі да цябе не пісалі, ідзі ў наступны пакой». Зайшоў ў кабінэт, на які мне паказалі, пачаў гаворку: «Паслухайце, панове, я маю поклік. Да каго мне трэба зьявіцца?». Чыноўнік-паліцай, уважліва паглядзеўшы на мяне, сказаў: «Ня ведаю, але ва ўсякім разе пакліканьне ня з гэтага адзелу. Зайдзі ў суседні кабінэт». Там—тая-ж самая гісторыя. Абыйшоў я некалькі кабінэтаў, пакуль, нарэшце, нейкі паліцай ня вывеў мяне на вуліцу. Як мы з Анатолем Бярозкам пасьля зразумелі, нас паклікалі, каб пабачыць, хто мы такія, запомніць, як выглядаем, можа ў міжчасе былі зроблены і нашыя фотаздымкі.

З Анатолем Бярозкам я пражыў да канца сваёй вучобы, да 1940 году. Далей нашыя шляхі разыйшліся. Ён паехаў працаваць лекарам Брэст-Літоўскай чыгункі, я ў Ашмяншчыну, арганізоўваць беларускае школьніцтва. У маёй памяці ён застаўся як вельмі рамантычны чалавек, паэт і змагар за агульную справу беларускага Адраджэньня.



На здымку: (зьлева направа) Лявон Луцкевіч і Анатоль Бярозка.
Фота з архіву Антона Шукелойца

# Крыху пра Язэпа Пушчу ды ягоныя «Лісты да сабакі»

(Успаміны)

Мацьвей Рэпкаў—Смаршчок

Трывожны быў 1939 год ў Вільні. Хоць і пачаўся ён зусім ціха, сонна і шэра.

Як заўсёды, старыя ўнівэрсытэцкія пабудовы ды Базыльянскія муры туліліся ў зацішшы касьцельных ды царкоўных вежаў, а ў Вострай Браме старыя бабулькі стаялі на каленях ды цярпліва, набожна лічылі пацеркі ружанцаў. На Антокалі, панад вялікімі ўваходнымі дзьвярыма касьцёла Пятра і Паўла, па-ранейшаму віднеў лацінскі надпіс з словамі малітвы за мір: "Regina pacis funda nos in pace".

Але няўстойлівы мір пасьлявэрсальскай Эўропы ўжо крышыўся. Зьбіраліся чорныя хмары, чутны былі далёкія громы, хоць яшчэ і без маланкаў.

Толькі нядаўна Гітлер далучыў Аўстрыю да «Вялікае Нямеччыны» ды заняў Судэты. Яго віталі горача судэцкія немцы. І нават Польшча не пагрэбавала шматком зямлі ад былой Чэхаславаччыны: «Сьлёнск Заальзянскі» вярнуўся да «Мацежы». І нямала было герояў—добраахвотнікаў сярод студэнтаў Віленскага ўніверсытэту Сьцяпана Баторыя, што рваліся ісьці на вайну, каб вызваліць гэтыя «карэнна-польскія землі». Але нешта цяжкое, злавеснае вісела ў паветры. Як казаў хтосьці ў рукапісным студэнцкім выданьні «З-за плоту»:

Дні што надыйдуць, што ідуць, цяжкія
раскрытым небам, загубаю эксплёзый...

Трывожна было ў рэдакцыі «Крыніцы» на вул. Завальнай 1, у той час ужо адзінае беларускай газэты ў Заходняй Беларусі. Рэдактар Янка Пазьняк наракаў, што цэнзура завострылася, налёты паліцыі, часта ноччу, не давалі яму супакою. А на бачынах «Крыніцы» ўсё часьцей зьяўляліся вялікія белыя плямы: цэнзура канфіскавала цэлыя артыкулы.

Польскія акупацыйныя ўлады, як відаць, чуліся няўпэўнена, нэрвова: ўсюды яны бачылі палітычную ненадзейнасьць і «Жыдакамуну». Шмат хто зь беларускай інтэлігенцыі ў Вільні быў пад наглядам паліцыі, а некаторым нават было загадана зьяўляцца ў паліцыю штотыдзень. Усе чагосьці чакалі.

Я быў студэнтам мэдыцыны Віленскага ўнівэрсытэту, на апошнім трымэстры. Стараўся як мага хутчэй здаць апошнія экзамены ды атрымаць лекарскі дыплём. Галава мая была ахутана рамантычнымі думкамі пра службу нядужым ды няшчасным сярод беларускага сялянства. Магчымасьць вайны мяне палохала, вайны я не хацеў. Але-ж часамі ўсё-ж думалася: ці ня будзе гэта вайна, пра якую маліўся калісьці Адам Міцкевіч:

Вайны ўсеагульнай за волю народаў мы просім ў цябе, Гаспадару!

Трывожна было і ў рэдакцыі «Калосься» —літаратурна-грамадзкага часапісу, што ў той час выходзіў у Вільні. Адказны рэдактар Янка Шутовіч непакоіўся, бо і за ім пільна сачыла паліцыя, часта выклікаючы на допыты. Чакаў ён, што вось-вось адашлюць яго ў канцлягер, у Картуз Бярозу. (Я ведаў пра гэта, бо быў неафіцыяльным сябрам рэдакцыйнае калегіі «Калосься») Хваляваўся Шутовіч, што паліцыя магла-б забраць ў яго беларускія літаратурныя матар'ялы, якія ўдалося яму здабыць для

рэдакцыі, асабліва-ж тыя, што былі выдадзены ў падсавецкай Беларусі. Былі яны забаронены і ў Польшчы, бо ўсё што прыходзіла з-за савецкае мяжы, лічылася «камуністычнаю прапагандай». Праўда, кнігі гэтыя можна было адшукаць ва ўнівэрсытэцкай бібліятэцы, але доступу да іх ня было нікому апрача тых, хто вёў навуковыя досьледы ды мог атрымаць спэцыяльны дазвол ад уладаў. А дазвол гэтакі беларусу атрымаць было нялёгка. У той-жа час мы ведалі, што кнігі гэтыя былі ўжо забаронены ў «квітнеючай» пад сонцам сталінскае канстытуцыі БССР, бо ўжо гадоў зь дзесяць прайшло ад таго часу калі сталінскія апрычнікі «разгрannмілі» г.зв. «нацдэмаў»: беларускіх пісьменьнікаў-патрыётаў, нярэдка нават шчырых камуністаў, што пасьмелі адхіліцца ад генэральнай лініі партыі,якая накіроўвалася на зьліцьцё ўсіх народаў у «рускім моры». Нацдэмы былі абвешчаны «ворагамі народу», якраз таму, што любілі свой гаротны народ ды не сьпяшаліся русыфікавацца. Таму гэтыя кнігі былі нелегальнымі і ў савецкай імпэрыі, і ў панскай Польшчы. Баючыся, што паліцыя іх забярэ ды зьнішчыць, Шутовіч паклікаў мяне аднаго дня да сябе і перадаў мне пачку кнігаў ды часопісаў, якія ён лічыў найбольш вартаснымі, каб я іх захаваў, на вёсцы, дзе Віленскі ваявода Бацянскі ня так лёгка мог-бы да іх даступіцца. Між матар'яламі гэтымі былі кнігі вершаў Язэпа Пушчы «Раніца рыкае», «Песьні на руінах», зборнікі Уладзімера Дубоўкі ды часопісы «Узвышша», «Маладняк», «Полымя», «Полымя Рэвалюцыі». Былі між імі і «Лісты да сабакі» Я. Пушчы. У Вільні ўжо пранесьліся чуткі, што Пушча даўно ўжо зьліквідаваны якраз за гэтыя «Лісты».

Бацькі мае жылі ў Наваградчыне. Я адвёз гэтыя кнігі на вёску ды схаваў іх у бацькавым сьвірне. Далучыў я да іх таксама зборнік «На этапах» Максіма Танка, які ён падараваў мне ў Вільні, зь ягоным аўтографам.

А ўміжчасе падзеі разьвярнуліся бурна і брутальна. Янка Шутовіч апынуўся ў Картуз Бярозе, і я ніколі яго больш не пабачыў, толькі чуў, што памёр ён шмат пазьней у Вільні. Кнігі засталіся ў схове і тады, калі Чырвоная Армія «вызваліла» Заходнюю Беларусь. Я быў пасланы працаваць лекарам Брэст-Літоўскае чыгункі ў Івацэвічы, Янаў Палескі, а пасьля ў Пінск. У красавіку 1941 г. атрымаў загад выехаць у Маскву на спэцыялізацыю, але 22 чэрвеня быў адкліканы тэлеграфічным загадам назад у Пінск.

Не давялося мне даехаць да Пінска —дабраўся толькі да Воршы. Два тыдні дапамагаў абараняць горад ад немцаў, працуючы лекарам чыгуначнае клінікі, праз якую йшлі чароды раненых. Калі бальшавікі пакінулі Воршу на ласку нямецкага акупанта, я, нарэшце, вярнуўся дамоў— галоўным чынам, пехатою . Працаваў лекарам у Баранавіцкім шпіталі, а калі др. Язэп Малецкі выехаў на становішча намесьніка БЦР у Вялейку, я кіраваў мэдычнаю школай у Баранавічах, што мела на мэце забясьпечыць шпіталь сёстрамі ды фэльчарамі. Навучаньне вялося па-беларуску, настаўнікамі былі мясцовыя лекары. Сярод іх асабліва вызначаліся др. Усевалад Кароль і хірург др. Наумік. Сьвятар а.Леў Гарошка быў намесьнікам дэрыктара і нёс галоўны цяжар адміністрацыйнае працы. Школа праіснавала да вясны 1944 году, калі нямецкія акупацыйныя ўлады загадалі вывезьці ўсіх навучэнцаў на прымусовую працу ў Нямеччыну ды арыштавалі айца Гарошку, калі ён гэтаму перашкодзіў.

Фронт у гэты час ізноў бязьлітасна ка-

ціўся праз Беларусь, гэтым разам у заходнім напрамку. Пачаліся паветраныя налёты на Баранавічы, і людзі гінулі пад бомбамі. Я вырашыў выехаць у Польшчу, у Пазнань: там жылі сваякі маёй жонкі. Я ня ведаў, што адзін з гэтых сваякоў быў ахвіцэрам польскай «Арміі Краёвай», і яго шукала гэс тапа. Як толькі я апынуўся ў Пазнані, гэста па арыштавала мяне за «сувязь з польскім нелегальным рухам» і саслала пад канвоем у канцлягер Нордгаузэн у Турынгіі.

Перад тым як пакінуць Бацькаўшчыну, я узяў з сабой на няведамы лёс даручаныя мне кнігі, бо ведаў, што пакінуць іх бальшавікам нельга. Але ў Пазнані, пры арышце гестапаўцы,перабіраючы ўсе мае рэчы, знай шлі іх. "Russische Bucher" заявіў старэйшы з ахвіцераў ды адлажыў іх на бок, як доказ мае віны. Як я не пераконваў, што гэта не камуністычная прапаганда, яны не паверылі мне,а чытаць кірыліцай ніхто зь іх ня ўмеў.

Гэтак загінулі кнігі, што пражылі шмат бедаў і нягодаў, паноў і камісараў. Я да гэтай пары не магу пазбавіцца пачуцьця цяжкае віны перад рэдактарам «Калосься» Шутовічам ды і перад усім беларускім народам, што ня здолеў выратаваць і захаваць гэтыя шматкаштоўныя і рэдкія матар'ялы, калі яны былі мне дaвераны.Сягоньня я рад што кнігі гэтыя усё-ж перахаваліся, што творы Пушчы ды іншых наццэмаў ды пакутнікаў за беларускі народ будуць перавыдадзены ў незалежнай цяпер Беларусі. Хацела ся-б толькі, каб перавыдадзены яны былі не ў цяперашнім правапісе, пакалечаным русыфікатарамі,дзе нават характэрны для белару скай мовы мяккі знак «вычышчаны», а тым правапісам, якім яны сапраўды пісаліся.

Але я адыйшоў ад Я. Пушчы ды ягоных «Лістоў да сабакі», сапраўды нязвычайнага твору. Вось што напісала пра яго І. Багдановіч у прадмове да твору: *«Багацьце вобразных сродкаў, глыбіня зьместу, дасканаласьць формы дазваляе лічыць «Лісты да сабакі» Я.Пушчы шэдэўрам рамантычнай лірыкі 20-х гадоў.»*

А твор гэты сапраўды незвычайны. Толькі ўчытайцеся ў гэтыя радкі.

Лісты да сабакі

Жыву цяпер я ў шумнае сталіцы,
далёка ад цябе, мой любы дружа.
Ляжыць акраец хлеба на стальніцы,
а ў збане на вакне юнацтва ружа.
Вятры павеюць хутка золкай сыцюжай,
і ліст крывавы свой яна ўроніць.
Праходзіцьме натоўп, з душой няўхлюжай
І ў гразь утопча, апусьціўшы скроні.
І толькі я адзін, паэт бяздомны,
над ім схілюся й акраплю сьлязамі.
Тады забросьнеюць душы затоны,
калі ў грудзёх мой дух зусім мне займе.
А покуль: б'е жывой вады крыніца
і хваля творчая гарачым пульсам.
Нашто-ж мне падхалімам быць, крывіцца
і ў хмары ўрэзвацца чырвоным буслам!
Лепш вольным птахам рэзаць шыр нябёсаў.
і супраць ветру размахнуць крыламі.
Хто хоча— кпіце над пясьнярскім лёсам
І бэсьце, лайце ў гандлярскай краме.
Трывожнасьць рытму песьню агартае,—
нязнана-востры боль у адчуваньнях.
Мне лепей быць звычайным бы ратаем,
чым грэх зь сябе змываць ў атрутнай ваньне.
Даруй, што я пішу табе аб гэтым—
Тваё нутро гатоў яшчэ расчуліць.
Вартуй, вартуй лепш хату да расьсвету,
Вуглоў каб не разьнесьлі людзі вуліц.
Я ведаю—цяпер у вас там восень
і ночы чорныя жуду калышуць.
Вятры лісты ажоўклыя разносяць
І намятаюць гурбамі ў зацішак.
І ты адзін правёў у ноч такую,
правёў мяне ў далёкую дарогу.
Гадзіну гэту кожны год сьвяткую
і слухаю, ці ў дзьверы хто не дрогне.
Ніхто, ніхто! Зацяты ланцугамі...
Хтось рукі заламаў у далях сініх.
Вартуй, мой дружа, родны ганак—
пішу аб гэтым я табе з Расіі.

II

Успомніў восень я пятнаццатага году,
і уваччу змяёй узьвіўся чорны шлях.
Нівoдзін дзень ня ведаў ласкавай пагоды—
за навальніцай навальніца сьмерці йшла.

У гэту восень стаў народ наш сіратою—
ўздыхнулі цяжка хвалі віленскіх вазёр.
Ў капліцы дзён жахлівых брат сканаў з сьястрою;
у слёзна-золкім небе згасла радасьць зор.
Ніхто з людзей не мог адчуць наш боль трагічны;
была страшная зяб—рыпелі косьці дрэў.
карэньні іхніх ног былі ў крыві крынічнай,
Выгнаньня дзень, бы злодзей, краўся па дварэ.
І ты стаў бежанцам у гэты дзень закляты—
пайшоў па шчасьце ў чужацкую зямлю.
Ты выць, пачаў пад крыжам і пад хатай
І вочы сьлёзныя закатываць ў імглу.
Ты познай восеньню ў палёх глухіх брадзяжыў,
знайсьці прыстанішча сабе ніяк не мог.
імгліліся жудою хмары сыпкай сажы,
а ты пад імі выў і грыз балотны мох.
І ты і гаспадар твой сталі жабракамі;
калі-ж вас людзі праганялі з-пад вакна,
тады чало сьціскаў ты лапамі-рукамі
і церні вырываў з пакутнага вянка.
Ішлі гады, міналі дні падзей суровых,
вяртацца сталі ўсе ў асірацелы дом.
Зьмянілі шум даўнейшы свой лясы, дубровы,
і поле зарасло бадыльнікам кругом.
Ад мяса і крыві набухлі жылы глебы;
да іх вярнуцца ты ня змог, ня здолеў больш.
Твой гаспадар цябе зьмяняў на бохан хлеба,
па целе па тваім тады прабегла дрож.
Пайшоў ты ад сваіх, галоў на дол схіліўшы,
да бацькі да майго, дзе я цябе сустрэў.
Падумаў ты: у сьвеце гэтым многа лішніх.
І смагла сьлёзы піў, што падалі са стрэх.
Былі ці не былі ў нас родныя натуры,
а толькі мы адзін другога сталі разумець.
Замоўклі рэвалюцыі вялікай штурмы,
атрэсьлі клёны ўсінь лістоў ажоўклых медзь.
І я пайшоў у горад за нязнанай славай,
а ты астаўся там-жа пад страхой старой,
Ліста мне ад цябе ні разу не прыслалі,
хоць ты й пісаў яго вячэрняю зарой.
Туга і боль душу пабілі мне на раны,
І я пачаў успамінаць цябе часьцей.
пачаў выходзіць на шляхі дарогі раньнем
і запрашаць к сабе няведамых гасьцей.
Успамінаў аб табе ўсё-ж нікому не расьсеяць;
і знаю я, калі вярнуся ў родны дом,
адно спазнаеш ты, спазнаў як Адысея:
прымі-ж ты ад мяне гарачы мой паклон.

III

Ці я ўт эатры, ў рэстаране п'яным,
дзе радасьць расьпіваюць пад джаз-банд;
усюды зрок вачэй блакітных вяне,
і ўсюды бачу я жалобны бант.
Няхай сабе я сёньня й страшна хворы,
не трэба ўсё-ж рэцэптаў для душы.
Сталецьцямі гараць і сьвецяць зоры,
і іх вятры не ў сіле затушыць.
Няхай, няхай гаворць так і гэтак,
а я пішу табе ўжо трэці ліст.
няхай сабе аблаюць і ў газетах,
мо ўспомніць часам хто калісьць.
Мой дружа, ці-ж у гэтым рытмы песень
і смутак нашай сонечнай красы?
Калі паэт галоўна грудзі зьвесіць,
няўжо краіне ён тады не сын!
Мне часта зябка й холадна бывае,
і ўсё-ж ніхто ні разу не сагрэў,
не цалаваў-жа здраднымі губамі
ніколі я лістоў, апаўшых з дрэў.
Стаю вось перад Зімнім тут палацам
і ўвесь, ня ведаю й чаго, дрыжу.
І сам ня ведаю, чаго так плачу...
Хто там? Прыйдзі хутчэй і ўкрыжуй!..
Канец хай будзе ў ім маім цярпеньням;
няхай лісты разьвеюцца з асін,
з чала краіны вырву ўсю-ж я церні,
каб болю іх ня ведаў болей сын.
Няўжо мне ранаў песьня не загоіць,
што гэтакі трывожны б'ецца пульс?
Паэт, які ня ведае агоній,
ня здолее ўславіць Беларусь.
Ой, гэта слова, слова дарагое!..
Ах, дружа мой, заўсёды рытм саб'е!
Я-ж напісаць хацеў зусім другое,
хацеў у госьці запрасіць цябе.
Адно вось толькі думы непакоіць:
ці ўдасца ўсё-ж даехаць да мяне?
Ну, скажам, адвязуць к чыгунцы коні,
аж бліснуць зоры ў полі з-пад саней.
А там білет, і ты ў вагоне спальным;
ты сьнедаць зможаш ў рэстаран зайсьці,
у ім зімою зелянеюць пальмы,
і думаеш, зімы няма ў жыцьці.
А на вакзал, на сьветлую платформу
прыйду я сам, прыйду цябе сустрэць.
Адзін другое горача прыгорнем—
даўно, даўно ня меў такіх я стрэч.
Не ўсьпееш з дому перадаць вітаньні,
Шчэ вочы будуць ў радаснай жальбе,
І тут-жа раптам горыч разьвітаньня—
ў сталіцы не дазволяць жыць табе.
Адзет не будзеш ты ў парадны кіцель,
ня будзеш мець заслугі— медаля,
зьбягуцца і абступяць цябе гіцлі,
і будзе шмат іх: дзе ні стань, ні глянь.

Жыві, жыві, знаць, дома лепей;
услухвайся ў таемны шум і шэпт,
чужыя людзі ходзяць каля склепу,
Пільнуй! Цябе цалуе твой Язэп.

Язэп Пушча зьявіўся на беларускай літаратурнай сцэне ў 1925 годзе, калі выйшаў першы зборнік яго вершаў. Гэты вясковы хлапец, а пазьней настаўнік, выкладчык беларускае мовы і літаратуры ды заснавальнік літаратурнае групы «Маладняк» пісаў аб крыніцах свае паэзыі: «*Рана, зь дзіцячых гадоў, я стаў пастушком, узыход сонца часта сустракаў на выгане разам з каровамі, я слухаў у полі і чуў як раніца рыкае. Гэты вобраз пазьней увайшоў у маю паэзыю*». І сапраўды, ягоная першая кніга паэзыі, што выйшла ў 1925 годзе — была «Раніца рыкае». Гэта кніга, на маю думку, адчыніла залатую пару ў беларускай літаратуры, а Пушча неўзабаве стаў шырока вядомым самабытным паэтам, які налажыў глыбокі знак на маладую беларускую паэзыю гэных гадоў.

Але, на няшчасьце, былі гэта гады, калі таталітарная бальшавіцкая сыстэма вырашыла, што «мастацкае слова мусіць служыць зброяй ў клясавай барацьбе». А барацьба гэта, як пісаў Алесь Звонак, адзін з крытыкаў творчасьці Пушчы: «вымагае няпрымірымых адносін да ўсялякіх праява ў чужой ідэалёгіі і праяў буржуазнага нацыяналізіму». Зразумела, ідэалёгіі «чужой» для чырвонага фашызму і маскоўскага шавінізму.

«Лісты да сабакі», Пушча напісаў у Ленінградзе, калысцы таталітарнага самаўладзьдзя. Паэт, відаць, прадчуваў, што ягоная ружа юнацтва ўроніць сваё лісьцё незадоўга пад сьцюжаю вятроў бальшавізму, і толькі ён адзін над ім заплача, ён —паэт бяздомны: бо бычыць ён, што пабудова «Народнага Дому», у які верылі маладыя беларускія патрыёты пасьля ўпадку царскае тыраніі — гэта ілюзыя. Замест дому для гаротнага беларускага народу будавалася новая турма народаў ды новая, бальшавіцкая тыранія, што знайшла пазьней свой апагей у «праўвадырстве» Сталіна, (Der Fuhrer). Верыў Пушча, што не па дарозе яму з тымі, хто ўсё яшчэ верыць, што «пурпуровых ветразей узьвівы трымаюць курс на сонечнае заўтра», а пагадзе не па дарозе з тымі, хто прагандляваў сумленьне за мэдалі, за партыйны білет з доступам да «спэцразмеркавальніка», з тымі, якія лаялі, каб толькі не стаяць у чарзе па бохан хлеба, бэсьцілі Пушчу ды іншых верных сыноў радзімы, крывіліся падхалімна ды «ўрэзваліся ў хмары чырвонымі бусламі». Пушча хацеў «вольным птахам рэзаць шыр нябесаў і супраць ветру размахнуць крыламі». Але-ж вецер гэты быў непрымірымы і ня меў літасьці.

За гэтым ветрам стаялі «гіцлі» — гадунцы ката Дзяржынскага ў скураных куртках, за гэтым ветрам стаяла «Магутная Русь» па словах расейскага-ж паэта: «Русь Малют, Іванов, Годуновых, хищников, опричников, стрельцов, свежевателей живого мяса». Перад гэтым ветрам гнуліся нават моцныя людзі А тыя што ня гнуліся, запаўнялі цягнікі ў Сыбір або магілы Курапатаў. Нават Купала пісаў пад гэтым дзікім ветрам: *«О, так я пралетар... мне бацькаўшчынай цэлы сьвет: ад родных ніў я адвярнуўся; адно-ж ня збыў яшчэ ўсіх бед: мне сьняцца сны аб Беларусі».*

Пушчы таксама сьніліся гэтыя сны, ён баяўся за будучыю свайго народу. Таму і пісаў ён, вернаму сябру на вёсцы: *«Вартуй, вартуй-жа хату да расьсвету, вуглоў каб не разьнесьлі людзі вуліц»*.

Людзі вуліц—пралетары—тыя ў кога няма Бацькаўшчыны. Пушча бачыў таксама

адкуль ідзе пагроза: «*Вартуй, мой дружа, родны ганак — пішу аб гэтым я табе з Расіі*». Гэта было не да ўспадобы бальшавіцкім імпэрыялістам—драпежнікам. Пушча, таленавіты паэт эўрапейскае меры, «ведаў агоніі» і мог-бы ўславіць Беларусь. Гэтага-ж нельга было дазволіць, не маглі гэтага сьцярпець самадзяржаўцы. І пачынаецца нагонка на паэта — ён абвешчаны «нацдэмам», «ворагам народу». Бо ў пралетарыяту няма Бацькаўшчыны —акрамя мо маскоўскае імпэрыі.

Але-ж ніхто чамусьці не падумаў абвесьціць Маякоўскага расейскім нацыяналістам, калі той заявіў, што кожны «хахол» павінен навучыцца расейскае мовы — таму толькі, што гэта была мова Леніна. Не, Маякоўскі ня быў расейскім нацдэмам, ды ці чуў хтосьці наогул пра расейскую «нацдэмаўшчыну»? Яе ня было, была толькі ленінская ідэялёгія, што ў сапраўднасьці служыла верна інтарэсам маскоўскага каляніяльнага імпэрыялізму. Партыя намагалася ўдаўбсьці ў галовы масаў, што будуе яна сацыялізм і бязклясавае грамадзства. У сапраўднасьці будавала яна новую клясу бальшавіцкіх бюракратаў, клясу новых эксплуататараў, што ўзьнеслася на карку тых-жа «пралетарыяў», ды трымался пры ўладзе з дапамогаю брутальнай апрыччыны ды крывавага тэрору. Пабачыў гэта і сам Маякоўскі, што заклікаў кожнага увайсьці «во царствие мое, земное, не небесное», які сам усёю істотаю «бросался в социализм», «потому, что нет мне без него любви». Аднак і ён, пабачыўшы новую клясу, расчараваўся і скончыў жыцьцё самагубствам, бо, як кажа яго перадсмяротная запіска, «любовная лодка разбилась о быт», ілюзыі ягоныя разьбіліся на каменьнях бальшавіцкае сапраўднасьці.

Бачыў гэтую клясу і Пушча. Ён, верны сын свайго гаротнага народу, стаў ахвярай абвінавачаньня з боку тых, што, як кажа Золак «цьвёрда стаялі на перадавых ідэялягічных пазыцыях», прадаўшы душу бальшавіцкаму ідалу—вялікаму, мудраму бацьку ўсіх народаў. Пушча абвінавачваецца ў тым, што ён адступіў ад «сталбавой дарогі пралетарскай літаратуры», хоць і намагаўся ён часамі *«ісьці дарогаю каля слупоў, каб ня ўхіліцца ўправа, а ці ўлева»*. Алеж калі ў 1929 г. выйшлі ягоныя «Лісты да сабакі» ды зборнік вершаў «Песьні на руінах» (руінах таго «Народнага дому»), партыйная крытыка тых гадоў рэзка абрушылася на паэта за яго «ідэйныя зрывы». Пушча апынуўся ў кіпцюрах «гулагу» ў далёкай Сыбіры. 24 ліпеня 1930 г. паэт запісаў у сваім дзёньніку: «Пакідаю Беларусь на доўгія гады». І толькі 19 ліпеня 1958 г. вярнуўся ён ў Менск, пасівелы і нядужы. Пражыў ён пасьля гэтага нядоўга. Як піша Золак *«наш добры друг, наш малады сучасьнік, поўны энэргіі, творчых імкненьняў, высокіх і чыстых ідэалаў, ...заўчасна ў росквіце творчых сіл пакінуў жыцьцё, і пяро выпала зь яго рук, не дапісаўшы шырока задуманага, галоўнага ...»*

Але тое, што напісаў ён «у росквіце свайго юнацтва», усё яшчэ актуальна і мае поўную сілу і сягоньня.

Чужыя людзі ўсё яшчэ ходзяць каля склепу, намагаючыся павярнуць кола гісторыі назад...

*«Вартуй, мой дружа, хату да расьсвету.»*






# Уласнаручныя паказаньні Езавітава, Канстантына Барысавіча

Калі ў «Блок Нацыянальнасьцей Усходу Эўропы» ужо ўвайшлі 8 або 10 нацыянальнасьцей, Астроўскі даручыў мне пагутарыць з латышамі, літоўцамі й эстонцамі, каб іх далучыць у БНУЭ г.зн. у «Блок народаў».

Я наведаў П. Брача і расказаў яму аб даручэньні таму, што Брач быў ня толькі начальнікам кіраваньня інфармацыі Латвіі, але і старшынёй «Таварыства літоўска-латышскага зблíжэньня» і сябрам праўленьня «Таварыства эстонска-латышскага зблíжэньня». Ён абяцаў мне пагутарыць з ўсімі латышскімі дзеячамі, а затым пагутарыць яшчэ і з літоўцамі, і эстонцамі, што і выканаў.

Адказ яго быў такі. Латышы, літоўцы й эстонцы ўжо здаўна маюць свой «Балтыйскі блок», і яны настолькі гібкія ў сваім прывычным блоку, што ў вялікі «Блок Народаў Усходняй Эўропы» ім няма сэнсу пакуль уваходзіць. Але затое яны зрабілі контрпрапанову, каб беларусы і Беларусь увайшлі ў «Балтыйскі блёк» і тады змаглі-б разам змагацца за незалежнасьць гэтых 4-х краінаў.

Я перадаў гэты адказ Астроўскаму, але той быў захоплены «Блокам Нацыянальнасьцей Усходней Эўропы» і адказаў мне: «У два блокі адразу мы ўваходзіць ня будзем. Таму мы пакуль павінны заставацца ў «Блоку Народаў Усходняй Эўропы». Больш таго, ствараецца вялікарасейскі камітэт, які згадзіўся ўсе культурна-нацыянальна-тэрытарыяльныя патрабаваньні беларусаўі іншых нацыянальнасьцей палагодзіць (калі, зразумела, гэтыя прэтэнзіі абаснаваныя, напрыклад, зрабіць Нарву беларускім горадам было для іх немажліва, бо Нарва ўваходзіла калісьці ў склад Эстоніі). Але я сказаў яму, што такі адказ непажаданы Неўзабаве я захварэў, і аб ходзе далейшых перамоваў я ня ведаю, як я ўжо і казаў раней. У меня нават склалася пераканаўчае ўражаньне, што пасьля майго другога візыту да Брача перамовы былі перапыненыя і ўжо не ўзнаўляліся.

У прамежку часу паміж першым і другім маім візытам да Пётра Брача, я бачыўся з генералам Бангерскім (камандуючым латышскім легіёнам), ад якога атрымаў сьведчаньні аб тым, як гэты легіён збудаваны, каб узяць яго за ўзор для стварэньня беларускага легіёна, бо штурмавая брыгада павінна была быць толькі 1-й брыгадай, а затым зьявілася-б 2-я брыгада, якія, былі-б зьведзены ў дывізыю, як гэта было і ў латышоў. Генерал Бангерскі ветліва мяне праінфармаваў, і мы прагутарылі зь ім каля двух гадзінаў. Затым я размаўляў зь сябрамі Латышскага ўраду, якія зайшлі ў той-жа пакой. Гэта быў Мезіс (які ведаў у латышоў фінансамі і ў свой час быў міністрам фінансаў, а зараз быў дырэктарам фінансавай дырэкцыі). Затым падыйшлі яшчэ некаторыя, прозьвішчы якіх я ня памятаю, так як не здагадаўся адразу запытацца і запісаць іх. Гэта былі кандыдаты ў склад новага ўраду, які латышы плянавлі стварыць пасьля Дрэздэнскага кангрэсу, куды яны ў гэты дзень зьбіраліся паехаць. Калі я даведаўся, што ў іх спешныя справы, я зараз-жа адкланяўся і пайшоў, каб не перашкаджаць іх зборам.

Разам са мною быў маёр Касмовіч, які, пакуль я гутарыў з генералам Бангерскім, адказваў на тыя пытаньні, якія яму паставіла сьвіта генерала Бангерскага — аб ходзе фарміраваньня беларускіх адзінак, аб БЦР, аб Другім Усебеларускім Кангрэсе і аб бягучых навінах. Маёр таксама прагутарыў амаль 2 гадзіны ў куту таго-ж невялікага пакою вэстыбюльных кабінэтаў, у якіх працавалі ў гатэлі «Аглонь» латышскія міністры.

У сувязі з тым, што латышы хацелі стварыць свой нацыянальны камітэт на ўзор Беларускай Цэнтральнай Рады, я падрабязна азнаёміў ген.Бангерскага з той новай структурай, якую выпрабавала БЦР на сваім паседжаньні сьнежня 1945 г. (дзень не ўказаны — Рэд.), калі была прынята Канстытуцыя БНР. Тады Прэзыдэнт БЦР Астроўскі стаў Прэзыдэнтам Беларусі, а для кіраўніцтва БЦР як парлямэнта быў выбраны асобы прэзыдыюм (Астроўскі, Адамовіч, Кандыбовіч), для кіраўніцтва-ж аддзеламі БЦР былі пакінуты старыя і назначаны некаторыя новыя кіраўнікі, якія і склалі так называе-мую калегію БЦР (афіцыяльна для немцаў і СС), а для беларусаў ужо з 2-га лютага лічылася ўрадам Беларусі.

Генерал Бангерскі і б.міністр Мезіс сказалі, што прыблізна такую схэму яны і будуць праводзіць на кангрэсе ў Дрэздэне. Як яны пабудавалі схэму свайго ўраду, я ўжо ня ведаў, так як захварэў і павінен быў пайсьці на апэрацыю, недамаганьне ад якой яшчэ і зараз адчуваю, бо 4 месяцы было гнойнае запаленьне. Генерал бачыў, што я сябе дрэнна адчуваю, і я яму адказаў, што мне патрабуецца апэрацыя.

Астроўскаму я падрабязна расказаў і аб гэтым візыце. Пасьля другога майго візыту да Брача, я ніякіх перамоваў з латышамі, эстонцамі і літоўцамі ня веў, але яны маглі-б быць працягнуты ў любы час, так як кантакты былі, і маёр Касмовіч або любая другая асоба, па даручэньню Астроўскага, маглі дамовіцца аб асабістым спатканьні або аб упаўнаважаных на перамовы дэлегацыях. Ці было гэта зроблена, я ўжо ня ведаю, так як да майго ад'езду ў шпіталь перамовы лічыліся спыненымі на неакрэсьлены час.

У той час у нямецкай і замежнай нейтральнай прэсе, вытрымкі зь якой зьмяшчаліся і ў газэце «Раніца» й у асаблівасьці ў латышскай бэрлінскай газэце «Латвія», узмоцьнена распрацоўвалася пытаньне аб тым, ці не набліжаецца палітычны і вайсковы канфлікт паміж СССР і Амерыкай —Англіяй. Большасьць аўтараў думала, што гэты канфлікт непазьбежны, што пытаньне толькі часу: адныя лічылі, што Нямеччына прыме ўсе ўмовы саюзьнікаў і з імі разам зноў будзе наступаць на ўсход. Іншыя лічылі, што адна вайна павінна закончыцца і «незаўважна перайсці у 3-ю» і пачаткам 3 вайны будзе «падзел шкуры медзьведзя», г. зн. калі пачнуцца спрэчкі аб падзеле зон уплыву, тэрыторыяў змешанага этнаграфічнага складу, а галоўнае прамысловасьці Нямеччыны, яе банкаў і акцыяў паміж пераможцамі. Другі пагляд быў найбольш распаўсюджаным у нейтральнай прэсе, а першы пагляд быў адзінай надзеяй на шчасьлівае вырашэньне вайны для немцаў. Але гэты пагляд яны выказвалі даволі асьцярожна, напіраючы на тое, што мажлівасьць 3 вайны нявыключана, адначасова ўдзяляючы шмат увагі прапагандзе сваёй веры ў сваю перамогу, так як гэта было неабходна і для падтрымкі свайго асабістага «вайсковага духу», а таксама для прыцягненьня да сябе новых сілаў, што павялічала-б «вайскова патэнцыял» Нямеччыны.

У сваім дакладзе Астроўскаму аб ходзе перамоваў з Брачам, а таксама аб поглядзе Мезіса наконт «Балтыйскага блоку», я ўка заў Астроўскаму, што самым рэальным для дадзенага эміграцыйнага пэрыяду, была мажлівасьць выкарыстаньня дыпляматычным апаратам і корпусам латышоў. Так як ведаў, што Астроўскаму не ўдаецца навязаць сувязі з замяжой, нягледзячы на тое, што ён і спрабаваў пасылаць туды людзей зь ліку свайго бліжэйшага асяродзьдзя, а таксама зь ліку бліжэйшых студэнтаў-карпаратараў беларускай студэнцкай карпарацыі Віленскага ўнівэрсытэта, якая называлася «Скарынія» і на чале якой стаяў сам Астроўскі і студэнцкае праўленьне карпарацыі. Я асабіста меркаваў, што гэта ёсьць самае рэальнае з таго, што гэты блок мог-бы даць Беларусі.

З боку нямецкай дыпляматыі (старой) «Балтыйскі блок» таксама, мажліва, не сустрэў-бы перашкодаў, бо гэта адняло-б ад Польшчы Заходнюю Беларусь й далучыла яе да Беларускай Рэспублікі і «Блоку балтыйскага», у якім немцы, пэўна, маглі-б разьлічваць на свой уплыў, эканамічны і палітычны. Бачна гэта таксама з таго, што пры акупацыі 1941 і наступных гадоў немцы стварылі так на-зываемы Остланд або ўсходнюю вобласьць, у якую ўключалі Беларусь, Літву, Латвію, Эстонію, у якой немцы кіравалі з Рыгі, дзе быў «Рэйхскамісарыят», «Остланд» і Генеральный камісарыят Латвіі, а ў Коўна —Ге-неральны камісарыят Літвы, у Менску— Генеральны камісарыят Беларусі,у Ревеле —Генеральны камісарыят Эстоніі. Гэтыя 4 генеральныя камісарыяты складалі амаль тую-ж тэрыторыю, што і «Балтыйскі блок», але тэрыторыя Беларусі была значна паменшана, так як Беластоцкую вобласьць немцы забралі сябе і далучылі да Усходняй Прусіі, Палесьсе далучылі да Украіны і зрабілі некалькі іншых тэрытарыяльных абмежаваньняў.

Характэрным зьяўляюцца абставіны, што ў некаторай частцы шавіністычнага латышскага таварыства пасьля таго, як была ўпершыню апублікаваная карта «Остланд», былі галасы задавальненьня тымі абставінамі, што тэрыторыя Беларусі зьменшана і што такім чынам удзельная вага Беларусі — і па велічыні тэрыторыі і па ліку насельніцтва—настолькі паменшыўся, што не зьяўляецца страшным для ўсіх іншых тэрыторыяў і народаў Балтыкі. Такім чынам бачна, што падрыхтоўка старой ідэі «Балтыйскага блока» да ідэі прыцягненьня ў яго склад яшчэ і Беларусі у якасьці 4 сябры зьявілася ў Латвіі ўжо ў 1941 г. Ідэя гэтая ў тыя часу не магла быць зьдзейсьнена, так як усе 4 народы цалком былі ў руках немцаў і ня мелі ў сваім апараце самакіраваньня ніякага воргану для міжнародных зносінаў. Паступовае разьвіцьцё ідэі 4-х сяброўскага балтыйскага блоку, прывяло да жаданьня мець у сваім складзе тэрыто-рыю з чыстым насельніцтвам, адкуль можна было-б атрымаць рабочыя рукі для сезон-ных палеткавых працаў,(у Латвіі ёсьць мяс-цовасьці, у якіх налічвалася ўсяго па 17 чалавек на квадратны кіламетр, а ў Беларусі былі воласьці, у якіх налічвалася па 75 чалавек і вышэй, на квадратовы кіламетр), а таксама і свабодныя працоўныя рукі для прамысловасьці. Даволі важнае значэньне мела для ўсіх 3-х Балтыйскіх краінаў беларускі сыравец: лес—для лесапільных заводаў, паперных і запалкавых фабрыкаў, лён—для тэкстыльнай прамысловасьці, скура—для гарбарнай прамысловасьці, асабліва даволі разьвітой у Латвіі, і неабмежаваныя запасы топліва—у тарфяных балотах Беларусі, яшчэ вельмі мала распрацаваных.

З гэтага бачна, што Беларусь у «Балтыйскім блоке» павінна была зьяўляецца чымсьці накшталт унутранай калёніяй. Таму я ў сваіх перамовах асабліва падкрэсьліваў поўную неабходнасьць раўнаправія ўсіх 4 краін. І ў 1945 г. мне гэта было абяцана. Было абяцана і Брачам, ад імя усіх 3 краінаў, і Бангерскім і Мезісом, што Беларусь атрымае: па-першае, свабодны траньзіт ва ўсе парты Балтыкі для ўвозу і вывазу. Па-другое, свабодны порт у Лібаве, дзе Беларусь зможа мець склад з сваёй таможняй пры ім і свой гарнізон у Лібаўскай марской крэпасьці, дзе зможа мець і сваю марскую школу, і вучэбныя караблі для тарговага мараплаваньня. У трэціх— Беларусь зможа паслаць студэнтаў дыпляматычнага факультэта Беларусі для практыкі ва ўсе консульствы і пасольствы балтыйскіх дзяржаваў, а таксама сваіх паслоў і консуляў, што пазбавіць ад коштаў на іх утрыманьне. Чацьвертае, у беларускую армію беларусы змогуць атрымаць афіцэраў-інструктараў, у той колькасьці, якая Беларусі спатрэбіцца. Пятае, неабходная сыравіна будзе закупацца толькі ў Беларусі і па найвышэйшай цане. Шостае, для сумеснага выступленьня будуць арганізаваны агульныя пасольствы і консуляты з зьмешаным складам зь беларусаў, латышоў, літоўцаў і эстонцаў. Сёмае, ужо зараз ва ўмовах вайны, інфармацыйныя органы ўсіх гэтых краінаў і народаў за мяжой, асабліва ў нейтральных краінах (Швэцыя, Швэйцарыя, Турцыя, Гішпанія, Партугалія), а таксама ў краінах акупаваных (Нарвэгіі, Даніі, Галяндыі, Бэльгіі й Аўстрыі) будуць прадстаўлены для асьвятленьня ўсіх беларускіх пытаньняў. Восьмае. Самі беларусы будуць атрымоўваць увесь інфармацыйны матэрыял аб гэтых краінах, зараз-жа пасьля выхаду адпаведных кнігаў, брашураў, газэт, праспэктаў, часопісаў і бюлетэняў, — з гэтых краінаў у парадку абмену. Гэтыя пункты для праэкта асноўнага дагавора былі срэдагаваны П.Брачам. У размове з генералам Бангерскім і Мезісам зь іх боку былі зроблены яшчэ дзьве канкрэтныя прапановы да праэкту дагавору аб уваходзе Беларусі ў склад «Блоку Балтыйскіх дзяржаваў», якія, заключаючы гэты блок, мелі мэтай захаваньне сваёй незалежнасьці. Па-першае, ўжо ў час перамоваў перакінуць невялікую беларускую вайсковую частку, хаця-б толькі адзін полк або нават толькі адзін батальён на нямецкіх караблях у Курляндыю ў Лібаву, каб ужо гэтым фактам паказаць, што беларусы ўваходзяць у «Балтыйскі блок» і прадстаўляюць яму свае ўзброеныя сілы. Гэта, зразумела, вельмі мала, але тут важным было ня колькасьць людзей, а сам факт дасылкі ўзброенай сілы, што было-б сымбалем заключэньня вайсковага, палітычнага, эканамічнага і дыпляматычнага саюзу Беларусі з балтыйскімі краінамі і ўваход яе ў «Балтыйскі блок». З Балтыкі беларусы, назапасіўшы тут вайсковую сілу, змаглі-б потым рухацца, пры добрых абставінах, на поўнач і усход — у Беларусь.

Як я ўжо пісаў вышэй, аб сваіх перамовах я перадаў Астроўскаму, а сам павінен быў рыхтавацца да апэрацыі. Ці вёў Астроўскі далейшыя перамовы мне невядома. Да майго ад'езду ў шпіталь ніякая беларуская часьць у Лібаву не была паслана, хаця і быў праэкт паслаць туды із Кенігсбергскіх піянерскіх батальёнаў адзін батальён і перавезьці туды-ж морам батальён маёра Родзькі з «Дальвіца».

Далейшую сувязь з «Латышкім легіёнам» павінен быў трымаць маёр Дзімітры Касьмовіч, а з Брачам, — сябра калегіі БНР інжынер Тамашчык. Беларускім камітэтам у

правінцыі былі дадзены адрасы камітэтаў балтыйскіх народаў для устанаўленьня дзелавой сувязі. Наладжаны быў кантакт і ў лягерох, хаця латышы і літоўцы ўжо пасьпелі із агульных лягероў перавезьці большасьць сваіх эмігрантаў у свае асобыя лягеры. Мюнхенскаму беларускаму камітэту быў дадзены адрас ген. Данкерса, які жыў з жаной у Баварыі, і запрапанавана было ўстанавіць зь ім асабісты кантакт. Ці было гэта зьдзейсьнена, я да ад'езду яшчэ не атрымаў сьведчаньняў. Астроўскі зьбіраўся накіраваць да новага латышскага камітэту, які пасьля Дрэздэнскага зьезду зьбіраўся на сваё першае ўрачыстае паседжаньне, асобую беларускую дэлегацыю з прывітаньнем і нават хацеў паехаць сам, але чамусьці абмежаваўвся толькі высылкай кароткай тэлеграмы з прывітаньнем, хаця за дзень-два да гэтага казаў, што гэта будзе самы зручны выпадак для асабістага знаёмства з латышскімі грамадзкімі дзеячамі. Ён нават прызначыў людзей, якія павінны былі-б яго суправаджаць і пазьней пазнаёміцца і замацаваць сувязі з латышамі, а таксама і літоўцамі, і эстонскай дэлегацыяй, якія таксама павінны былі вітаць і віталі, як я потым прачытаў у газэце. Латышскі Нацыянальны Камітэт на гэтым паседжаньні «Блока Балтыйскіх народаў», як гэта зразумела, вастрыём сваім быў накіраваны супраць СССР і меў мэтай захаваць незалежнасьць гэтых 4 народаў— беларускага, латышскага, літоўскага й эстонскага.

У «Блок Народаў Эўропы» (Блок Народаў Усходу Эўропы) латышы не хацелі ўваходзіць, так як у той час яшчэ лічылі сваё становішча ў Курляндыі «даволі моцным», як адзначыў гэта ў размове са мною генерал Бангерскі і як пацьвердзіў Мезіс, які пасьля кангрэсу ў Дрэздане плянаваў вярнуцца ў Лібаву, дзе немцы, хаця і трымалі ўсё ў сваіх руках у сэньсе вайсковага камандаваньня, але ўжо выдзелілі адзін вучастак фронту выключна латышскаму легіёну, які атрымаў нават нейкія посьпехі, якімі вельмі быў задаволены ген. Бангерскі. Падрабязнасьці аб утрыманых вёсках і баях за іх у меня не захаваліся ў памяці, бо я зьвярнуў увагу толькі на гэтую агульную фразу «даволі моцна». Памятаю, што на краце мне былі паказаны вялікія лясы, перасечаныя некалькімі вытокамі рэчкі Венты. Гэта быў вучастак, на якім па-мойму большых баёў прайсці не магло, так як тут маглі дзейнічаць толькі пяхотныя часткі бяз танкаў і цяжкай артылерыі, але аб падрабязнасьцях не было часу пытацца, і было гэта зусім ня прынята ў вайсковых колах, асабліва ў першую сустрэчу. Міністр Мезіс дадаў, што ў «Блок Народаў Усходу Эўропы» ўваходзіць зараз было-б няёмка таксама ў сувязі пагоршаньняў дыпляматычных адносінаў зь Нямеччынай, якая толькі паступова передае ў Курляндыі ўсе грамадзянскае кіраўніцтва ў рукі латышоў і ўжо зьліквідавала свой «Генеральны камісарыят Латвіі», а зараз прыступіла і да ліквідацыі Гебіткамісарыятаў у Лібаве і Віндаве, што для Латвіі даволі важна правесьці без усякіх непаразуменьняў. Самаеж галоўнае гэтае тое, што «Блок Народаў Усходу Эўропы» яшчэ толькі «склеіваецца», а «Балтыйскі блок» ужо даўно працуе і спрацоўвае даволі цесна. «Блок Балтыйскіх Дзяржаваў» ахвотна прыняў-бы у свой склад Беларусь, каб Беларусь гэтага пажадала, таму ,што гэта бліжэйшая суседка, і на Балтыцы яе добра ведаюць, а за час акупацыі вывучылі яе яшчэ бліжэй і больш асноўна, чым калі-небудзь да гэтага часу, так як тысячы латышоў пабывалі ў Беларусі. Затым ён з асаблівым выразам вачэй і губ

сказаў мне яшчэ адну вельмі значную фразу: «Акрамя таго, усё будзе ў парадку з «Балтыйскім блёкам», і ў выпадку карэннай зьмены усёй сытуацыі вайсковых падзеяў, паколькі мы маем сваіх людзей здаўна ў Швэцыі і далей, а Балтыйскае мора —адкрытае мора».

На гэтым і закончылася нашая бяседа, так як гэты ўрывак размовы адбываўся ўжо пры разьвітаньні, калі я даведаўся, што яны сьпяшаюцца на кангрэс у Дрэздэн, які павінен быў адбыцца на насупны дзень.

Размаўляў я з начальнікам інфармацыйнага кіраваньня Латвійскай Дырэкцыі Унутраных справаў Пятром Брагам, аб тым, ці маюць яны свае дыпляматычнае і консульскіе арганізацыі за мяжой з часу Латвійскай Рэспублікі. Ён мне на гэта адказаў, што па патрабаваньню СССР усе гэтыя консульскіе і дыпляматычныя арганізацыі зачынены, але што асобныя дыпляматы засталіся жывымі і спадзяецца, як спадзяюцца і ўсе сябры дырэкцыі, што гэтыя людзі вядуць там працу на карысьць Латвіі, і што ў гэтых адносінах усё будзе ў парадку. Тым больш, што дыпляматаў патрымліваюць і прадстаўнікі прамысловасьці і латышскіх тарговых фірм і арганізацыяў, якія прочна ўсталяваліся ў Лёндане і маюць тут свае капіталы. Тое-ж самое ён сказаў мне і аб літоўцах, і аб эстонцах. Прозьвішчаў і адрасоў я не запісываў , так як гэта былі папярэднія, і практычна мелі малы сэнс, бо Брач мне сказаў, што праз Швэцыю і Швэйцарыю ён спрабаваў зь імі скантантавацца зараз-жа па прыезьдзе ў Берлін, але адказаў пакуль яшчэ не мае.

(Працяг у наступным нумары)



На здымку: сядзяць (зьлева направа) Тодар Лебяда, Масей Сяднёў, Лявон Случчанін, Хведар Ільляшэвіч, Канстантын Езавітаў Натальля Арсеньнева, Уладзімір Тамашчык.
Стаяць: у цэнтры Ф. Родзька, імёны іншых двух асобаў рэдакцыі невядомыя
1945 г. Фота з калекцыі Раісы Галяк

 РОДНАЕ СЛОВА 

# Паэты вонках плыні

 Масей Сяднёў 

*У 1985 г. ў каледжы Ля Гвардыя ў Нью Ёрку адбыўся сымпозыюм, прысьвечаны пытаньню: «Паэты вонках плыні». Меліся на ўвазе паэты, што жывуць у ЗША і пішуць на мовах краінаў свайго паходжаньня. Падаем ў перакладзе ў беларускую мову выступленьне Масея Сяднёва.*



Я хацеў-бы коратка спыніцца на паняцьці, што азначае быць «вонках плыні», на тэме сёньняшняга сыпозыюму. Парадаксальна, мне падабаецца быць «вонках плыні» ці больш дакладна, я прывык да такой сытуацыі. Нават набыў моц, знаходзячыся ў такім палажэньні. Даўно, калі я быў студэнтам і пачынаючым паэтам, быў я выключаны з галоўнай літаратурнай плыні ў маёй роднай Беларусі — выключаны сіламоць. Пазьней я выключыў сябе сам з гэтай плыні — добраахвотна. Вызваліў сябе.

Я прыбыў у ЗША. Я грамадзянін гэтае краіны. Гэта і краіна маіх дзяцей — яны ў ёй нарадзіліся. І ўсё-ж я застаюся вонках плыні. Чаму? З гледзішча логікі гэта дзіўна. Але, нажаль, няма логікі ў такой галіне, як творчасьць. Да плыні ня так ўжо й цяжка далучыцца ў сэньсе палітычным ці сацыяльным, але не ў сэньсе творчым? Я маю сумлеў.

Нават такі пісьменьнік, як Набокаў, я сказаў-бы, застаецца вонках плыні, бяз глыбокіх каранёў у сваім новым асяродзьдзі. Адам Міцкевіч, Іван Бунін, застаючыся фізычна ў краінах свайго новага пасяленьня, духоўна заставаліся дома. Яны ўзялі з сабой ўсё: зямлю, неба, паветра, гукі, пахі. Яны тварылі пераважна не з рэальнасьці, што іх акружала, а з памяці...Як адшчапенец, я твару таксама з памяці. Цэлая плеяда, паэтаў і пісьменьнікаў, што прыбыла ў гэтую краіну з Расеі й іншых рэспублікаў Савецкага Саюзу, застаецца таксама вонках плыні. Як творцы, яны жывуць за кошт набытага там. Яны твораць таксама з памяці.

Нехта можа сказаць, тварыць з памяці — пакутная зьява. Пэўна-ж што так. Але што застаецца для творцы, што апынуўся па-за межамі сваёй прыроднай Бацькаўшчыны? Думаю, паэту, лірычнаму паэту, тварыць з памяці ўсё-ж лягчэй, чымся празаіку, хоць той-жа Бунін сваёй практыкай запярэчвае такое маё цьверджаньне.

І гэтак-як паэт, я надта ня сумую, што я вонках плыні. Фактычна, у такім становішчы я можа нават выйграю. Як—бы там ні было, маё становішча, якое мы вызначаем як «вонках плыні» — гэта, калі хочаце, мая цытадэль. Гэта якраз тое, што дае мне магчымасьць функцыяваць, як паэту, быць паэтам. Знаходзячыся «вонках плыні», ты лепш бачыш самую тую плынь. Гэта дае мне некаторую перавагу. Калі-б я жыў сёньня ў маёй роднай Беларусі, на вонках плыні, я ня мог быць самім сабой. Вось такая тут дыялектыка. Канешне, з прак-тычнага гледзішча ёсьць тут і свае цяж-касьці: хто цябе будзе друкаваць? Дзе твой чытач? І іншае, і іншае. Ды я хацеў-бы цешыць сябе думкай, што можа калі-небудзь мой верш знойдзе свайго чытача.

1985 г.

# Чалавек і прырода

*(практыкаваньне ў філязофіі)*




Масей Сяднёў

Уявім сабе такую недарэчнасьць: што было-б, калі-б у Прыродзе ня было Чалавека? Адзіна магчымым адказам на пытаньне было-б: ня было-б самое Прыроды. Яе ня было-б у нашай сьвядомасьці. Прырода для нас не існавала-б. Мы нічога ня ведалі-б пра яе. Яна існуе, паколькі мы яе ўсьведамляем. Нас-жа Прырода не ўсьведамляе, ня ведае, нас, у яе-ж бо няма сьведамасьці. Ёй ўсё роўна: ёсьць, мы ці нас няма. Ёй мы не патрэбны. Гэта яна нам патрэбна.

Мы сказалі, Прырода ня мае сьвядомасьці, адсюль Яна ня мае і болю, нават, калі мы нішчым яе. Гэта толькі ў нас боль за яе, Прыродзе было-б лепей бяз нас. Але хто тады ўспрыймаў-бы яе? Ніхто.

Ды вернемся зноў да пытаньня: «што было-б, калі-б нас ня было ў Прыродзе?» Дзе-б мы тады былі? Адзіна магчымы адказ: нідзе. Гэта значыць, нас ня было-б наогул. Мы можам быць толькі там, дзе мы ёсьць. Мы ёсьць у *нашым* сьвеце — у іншым нас нельга ўявіць. У нас няма прарыву—мы заклятыя быць толькі ў гэтым, *нашым* сьвеце. Прырода—гэта і ёсьць *наш* сьвет. Але мы самі ня Прырода. Калі-б мы былі Прыродай, мы зьліліся-б зь ёю і ня былі-б здольнымі ўспрымаць Яе. Мы выдзеленыя з Прыроды і стаімо над ёю. Мы ў ёй пануем. Мы можам нат сказаць: Прырода бяз нас —нішто. Але ці можам мы сказаць, пра сябе, што мы — Нішто? Вось гэтага, нажаль, нам ня дадзена знаць. Адно толькі пэўна: на працягу ўсёй сваёй гісторыі чалавецтва вядзе няспыннае змаганьне, каб сцьвердзіць сябе, каб *узьняцца* над тым «Нішто».

1992 г.



Філязофіі Масея Сяднёва на прыродзе. 1991 г.

# Слухаю музыку восені...

Сьвятлана Сачанка

Слухаю музыку восені.
У зьнерухомелай просіні
Сумная песьня гучыць:
Лісьцік шупаты, паморшчаны
З шэлестам ціхім ляціць...



Вецер, як нейкі сьмерч,
Сьмецьце панёс прэч.
Прахалодай акутаў ноч,
Дробны пасыпаў дождж.

Засьпявала дарога
Каменьнямі й жвірам
Травою й лістамі
Іду
Да каханага.

Было кароткім нашае спатканьне,
Мы разьвіталіся на доўгі час.
Але застаўся ў памяці сьвітаньнем
Аблічча задуменнага выраз...



Нямоглы хістаўся,
Няпэўны вагаўся,
Нягеглы сьмяяўся,

Няварты хваліўся,
Разумны губляўся,

Паэта застаўся,
Адзіны застаўся,
Як верны прарок.



# Мая рака імкнецца па каменьнях...

Сяргей Лепін



Мая рака імкнецца па каменьнях,
На старане няведамых куткоў,
Зямлі пакінутай, зямлі памерлай—
Паміж глухіх дрыгвяністых лясоў.
Ніхто, ніколі нават не сустрэне
Ніводную людзіну ў тых краях.
Тут цішыня — ўночы зоркі зьзяюць,
І тут нікога, толькі люты жах.
Вада ў рацэ, як горкая жалоба,
Па жвіру сумнаму цячэ,
І не аднойчы скаргай ды журботай
Да Бога раптам заякчэ.
Мая рака імкенцца па каменьнях....



# Стогн душы

Васіль Супрун

## *Стогн душы*

Стогн, браточкі мае,
змардаванай душы
не падобны на песьні лірычныя.
Хоць старайся як хочаш,
як хочаш пішы,—
Вершы тыя усё-ж непрывычныя.
І ня гледзячы нат на маю маладосьць
на натуру размашыста-вольную,
смутку ў іх і тугі,
і нянавісьці досьць,
—ўсё пра горыч маю неадольную.
А яна і турэмна-этапнай была,
заглянула і ў камеру смертную.
І па шахтах Інты, Варкуты правяла
з справай «ворага» нават сакрэтнаю.
Інта, 1955 г.

## ***

Не!
Мала слоў,
каб наталіць цярпеньне,
сьляды ярма і горыч з сэрца змыць,
каб з глыбіні душы атрутыя карэньні
дашчэту вырваць
і нанова жыць.

Тут мала слоў,
Благаньні-ж не патрэбны.
Хай хныча той, хто траціў толькі раз.
А нам, браты, батрацтва шлях ганебны,
За новы лёс—
наперад —
кліча час.
Інта, 1953 г.



## *Чаму так бязвольна?*

Мы спадчыну нашу і гонар народу
бяздумна раздарваем воляй чужою.
Ва ўсім вінавацім другіх,
ці прыроду,
А самі, нібыта, стаім за мяжою.
Нат тых,
хто ахвярна тварыў нашу славу,
хто горда уквечваў імя Беларусі,
мы схільны аддаць хоць каму на расправу,
каб толькі адстойваць іх лёс не прымусіў.
Чаму-ж так бязвольна,
так нізка,
нікчэмна,
сябе і ўсю спадчыну мы зьневажаем?
Няўжо пакаленьні адданы дарэмна,—
з жывёльнага страху мы іх не прызнаем?
Варкута 1955 г.

# З агню ды ў полымя

Міхась Кавыль

 *Быліца восьмая* 

Бацька, не хаваючы незадавальненьня Аляксеявым паступаваньнем, буркнуў: «Бачыў неяк на барахолцы на Чэрвеньскім рынку Віктара Лабача. Болей нікога». Аляксей абрадаваўся, бо Віктара ён добра ведаў як чалавека бяз жадных прынцыпаў, гатовага служыць хоць чорту лысаму. Лепшай знаходкі Аляксею і ня трэба было. Ідучы да бацькоўскага ложка, Аляксей папрасіў бацьку разбудзіць яго, калі будзе нейкая небясьпека. Бацька сказаў, што ён мусіць ісьці ў царкву, маці таксама, але дабавіў:«Баяцца вельмі няма чаго, бо немцы тут рэдка калі паяўляюцца, а свае паліцаі і падаўна».

Клаша ляжала на цёплай чарэні, мацала рукою жывот, думала:«Дзе зараз Язэп? Можа, ён тут, у-ва мне?... А можа і не. Хутка даведаюся, калі прыйдзе ці ня прыйдзе «свой час». Болей рызыкаваць ня буду. Няхай Аляксей не разьяўляе рот». Перавярнулася на другі бок, паглядзела на крыжык, што вісеў у куце. Там-жа паблісківала кволым агеньчыкам лямпадка. Да гэтага яна не бачыла гэтага «опіюму» для народу, хаця і чытала пра гэтыя «забабоны».

Заскрыпелі дзьверы, што вялі ў спальню, а пасьля і надворныя.«Гэта цёмныя бацькі Аляксея пайшлі «піць опіюм», —падумала абыякава Клаша і пачула:«Ідзі сюды, Клаша». Клаша ўзарвалася: «А хто я для цябе? Жонка? Ты толькі для гэтага прывёз мяне сюды? Памыляешся, даражэньні. Я не із такога дзясятка».

Аляксей не абзываўся болей, неўзабаве моцна заснуў. Клаша таксама неяк нечакана заснула і гэтак-жа нечакана прачнулася ад скрыпу дзьвярэй і гаманы. Гэта вярнуліся із царквы бацькі Аляксея. Яны нешта казалі пра бацюшку Лапіцкага, пра нейкіх палонных. Што да чаго, не разабралася і ізноў заснула. Праспала ажно да паўдня.

Аляксей прахапіўся крыху раней: яму не спалася, як заўсёды, калі трэба было нешта паважнае рабіць. Адразу, як прачнуўся, папрасіў бацьку схадзіць да Віктара і сказаць, што яго хоча бачыць яго «добра знаёмы сябра». Бацька адмоўна пакруціў галавою, сказаў, што трэба цягнуцца праз увесь горад ажно да вуліцы Розы Люксамбург, але пасьля перадумаў. Чакаючы Віктара, шмат аб чым гутарылі. Аўдоця распытвала ў Клашы, адкуль яна родам, хто яе бацькі. Клаша адказавала, як на іспытах у школе: дакладна і зразумела. На пытаньне пра рацыю:«Што гэта за штуковіна і для чаго яна вам патрэбна?»—даваў тлумачэньні Аляксей. Ён не хаваў ад маці свае таямніцы, бо яна была яго маці. Аўдоця, выслухаўшы сына, пакруціла галавою і сказала:«Не падабаецца мне, сынок, твая гэтая «рацыя» і, як ты кажаш, апэрацыя, не давядзе яна цябе да дабра, а з табою і нас».

—Ня бойцеся, мама, — стаў супакойваць Аляксей.—Мы з Клашай тут у вас доўга не затрымаемся.

—Не пра гэта, не пра затрымку, а пра тое, што ты рызыкуеш галавою.

—Цяпер,цёця, усе рызыкуюць, —абазвалася Клаша.

—Бяз рызыкі, —дабавіў Аляксей —мы станем «вайсрусішэ швайн».

Маці махнула рукою і пайшла ў мыцяльнік, стала мыць пасуду, бо трэба было

нешта прыгатавць для «рызыкантаў», як яна пра сябе ахрысьціла Аляксея і Клашу.

Праз пару гадзінаў вярнуўся бацька і прывёў Віктара. Аляксей чакаў іх, седзячы каля вакна. Убачыўшы бацьку і Віктара, сказаў Клашы лезьці на печ і сядзець ціха,а маці папрасіў «займацца хатнімі справамі».

Віктар, ідучы за Рыгорам, ня вельмі ламаў голаў, для чаго ён спатрэбіўся Аляксею Новіку. Ведаў Віктар прафэсыю Ноівка, ведаў, што той перад вайной доўга ў Менску не паказваўся, а зараз зьявіўся ня ў госьці-ж пэўна.

Новік бачыў праз вакно, як Віктар, ідучы, часта аглядаўся ці ня цягнецца за ім «хвосьцік», і гэта Аляксею спадабалася: «Ня дурны хлопец, хаця і бясхрыбетны», —падумаў бяз злосьці і пайшоў да дзьвярэй, што вялі на ганак. Прапусьціўшы бацьку, сказаў, каб ён ішоў на кухню і зачыніў за сабою дзьверы, а Віктара спаткаў словамі: «Заходзь, здраднік Радзімы». Працягнуў руку, але Віктар адхіліў яе, кажучы: «Таму, хто мяне абражае, руку не даю, а даю па вуху».

—Ну, што-ж, давай па вуху, калі не разумееш жартаў, —усьміхнуўся Аляксей і запрасіў садзіцца на табурэтку, што стаяла каля дзьвярэй. Віктар прысеў. Гэта быў малады чалавек, гадоў пад трыццаць, на пару гадоў старэйшы за Аляксея, вышэй сярэдняга росту, белатвары з блакітнымі вачыма, з лысай галавою, як гарбуз.

Аляксей выняў пачку цыгарэтаў «Столичные» і працягнуў Віктару. Віктар выцягнуў папяросу, затрымаў пагляд на «Столичные», паглядзеў пільна ў вочы Аляксея, прыкурыў ад паднесенай Аляксеем запалкі, зацягнуўся дымам. Аляксей таксама задыміў і да Віктара: « Ну, хваліся, як пажываеш, што парабляеш?»

—Хваліцца асабліва няма чым, але з голаду не паміраю. Працую ў Беларускай Самапомачы.

—Памагаеце самі сабе.

—Не бяз гэтага, але ня толькі сабе.

Віктар despite памаўчаў, чакаючы рэакцыі Аляксея, але той думаў нешта другое, а таму Лабач працягваў: «Памагаем удовам і сіротам, а яшчэ «прымакам». Тут іх шмат засталося.

—Адносна «прымакоў» скажу вось што: я чуў пра іх... Ня ведаю толькі, чаму вы памагаеце ім?

—Як чаму? Гэта-ж нашы людзі. Нашто спадар Ярмачэнка—фашыст із фашыстаў, а і ён сказаў дапамагаць.

—Таму Ярмачэнка і клапаціцца аб «прымаках», бо ён, як ты кажаш, фашыст із фашытаў. Разумееш? Бачу, не разумееш. Ерамчэнка баіцца, каб яны не пайшлі ў лес, а працавалі на немцаў.

—На ніякіх немцаў яны не працуюць, а хаваюцца, хто дзе можа.

—Няхай будзе па-твойму. А скажы, ты ведаеш адрасы некаторых зь іх?

—Ведаю.

—Зможаш агітнуць іх, каб заўтра ўвечары прыйшлі ў саўгас Сьляпянка?

—Пастараюся.

—Вельмі добра. Ты, думаю, Сьляпянку ведаеш. Зьберайцеся за галоўным будынкам у лесе. І чакайце мяне. Пастарайся забясьпечыць «прымакоў» прадуктамі.

—Пастараюся.

На тым і разьвіталіся. Назаўтра позна ўвечары Аляксей і Клаша, азіраючыся, пасьпяшалі ў Сьляпянку. Па дарозе ў лес, заскочылі ў гараж і ўзялі з сабой Сечкіна. Ён быў задаволены, што яго не палічылі здраднікам.

У лесе недалёка ад вялікага дому саўгаснай канторы й агульнажытку, тулілiся да дрэваў «прыамкі». На спатканьне іх

з Аляксеем і Клашай выйшаў із-за куста Віктар, працягнуў руку Аляксею і Клашы, назваўся: «Віктар Лабач».

Клаша, пачуўшы прозьвішча «Лабач», не паверыла сваім вушам і перапытала: «Як вы сказалі?» Віктар паўтарыў: «Віктар Лабач. Што, знаёмае прозьвішча?» Клаша паглядзела на Новіка. Той сабраў да купы «прымакоў» І знаёміўся, а таму Клаша паціху спытала: «Вы маеце брата Язэпа?». Віктар здаўмеўся, што Клаша ня хоча, каб Новік чуў іх гутарку, а таму гэтак-жа ціха адказаў: «Маю. Дваюраднага. Дзе ён зараз, ня ведаю».

—А як Язэпавага бацьку звалі?

—Міхаіл, ці па-беларуску Міхась.

Клашы зрабілася горача, хаця быў студзёны вечар: «А вы яго ведаеце?», —пачула яна й адказала: «Так, ведаю. Маё першае каханьне». Яна яшчэ хацела нешта сказаць, але іх паклікаў Аляксей. Ідучы да Новіка, Клаша папрасіла Віктара паведаміць ёй пра Язэпа, калі давядзецца пабачыць, але Новіку —ні слова.

Новік тым часам «аформіў» свой невялічкі атрад: сябе назначыў камандзірам, а Сечкіна Барыса—камісарам. Усіх «прымакоў» сабралася дзесяць чаалвек, усе—ня беларусы, а «інтэрнацыянал».

Калі падыйшлі Клаша і Віктар, Новік адвёў Віктара у бок і спытаў: «А чаму няма ніводнага беларуса? Бацька мне казаў, што бацюшка Лапіцкі вызваліў із палону шмат беларусаў. Ты чуў пра гэта што-небудзь?

—Чуў, але тых беларусаў у Менску няма. Бацюшка Лапіцкі служыў дзесьці каля Полацку. Там прыхаджане яго царквы папрасілі пахадатайнічаць перад немцамі, каб вызвалілі іхніх братоў, сыноў. У Менску, у гэнэральным камісар'яце, працуе інжынерам сваяк Лапіцкага —Іван Іванавіч Касяк. Пры дапамозе Касяка Лапіцкаму ўдалося вызваліць чалавек восем, але яны паехалі на Полаччыну.

—Ну, і хрэн зь імі. Дзякую за «прымакоў». Думаю, не адмовішся памагаць мне і ў далейшым: весткамі і прадуктамі? Мы будзем калясіць навокал Менску. Я хутка загляну да цябе. Пакуль-да пабачаньня.

Віктар пашыбаваў дадому, а Новік да «прымакоў», каб сказаць тое, пра што пры Віктары не сказаў, бо не давяраў яму.

—Вось што, таварышы, я вам мушу сказаць. Пакуль што, заставайцеся і надалей у «прымах», бо надыходзіць зіма. Вясною мы пойдзем ў лес. Калі хто з вас недзе працуе, старайцеся шкодзіць немцам, як хто зможа. А галоўнае —дабывайце весткі пра распалажэньне немцаў, пра іхнія ўмацаваньні ў Менску, а таксама пра беларускіх калябарантаў: прозьвішчы, адрасы, дабытыя весткі прыносьце сюды і запіхайце ў дупло вось гэта старое асіны. Зразумела?

Пачулася ціхае: «Зразумела»

На тым разьвіталіся, каб спаткацца ажно ў сакавіку 1942 году. Аляксей перазімаваў у бацькоў. Бацькі бурчалі, але не выганялі. Маці прасіла Аляксея «апомніцца», але ён адмоўчываўся, а калі і паддакваў маці. А Клаша ноччу хадзіла да гнілое асіны, забірала нешматлікія лісткі, і прачытаўшы з Аляксеем, ішлі далёка ад дому і расьпіналі антэну.

(Працяг у наступным нумары)



# Туды, дзе нашыя карані

Сьвятлана Белая

Амаль паўгода прайшло зь іх паездкі на Бацькаўшчыну, а ў рэдакцыю часопіса «Полацак», на культурна-асьветніцкі цэнтр «Полацак», на імя хору «Васілёк» усё ідуць і ідуць лісты зь Беларусі. Іх шлюць беларусы, з кім нашым падарожнікам давялося спаткацца ў час іхняй вандроўкі на Бацькаўшчыну, у чыіх душах яны запалілі агеньчык любові да Беларусі і веры ў ейнае Адраджэньне. Дасылаюць паштоўкі і незнаёмыя людзі, якія толькі чулі пра групу беларуса ў з Амэрыкі з аповядаў радных, шматлікіх газэтных, радыё і тэлерэпартажаў. Амаль у кожным лісьце ўдзячнасьць—за захаваньне мовы, нацыянальнага духу і веры, і просьба расказаць аб сябе, падзяліцца сваімі ўражаньнямі аб наведваньні Бацькаўшчыны пасьля стольхіх гадоў расстаньня зь ёю.

У свіх размовах з кліўлендцамі, якія адведалі мінулым летам Бацькаўшчыну, я заўсёды ставіла адно і тое-ж пытаньне: «Што больш за ўсё запомнілася ў Беларусі»? І амаль заўжды адчувала нейкую разгубленасьць субяседнікаў. Пасьля я зразумела чаму. У гэтай паездцы, дзе было столькі незвычайнага, нештадзённага, нязвыклага, цяжка выдзяліць нешта асаблівае. Бо асаблівым, незвычайным для іх было ўсё. Таму што і тыя, хто помніў Бацькаўшчыну больш з аповядаў бацькоў, бо раньнія дзіцячыя ўспаміны захавалі толькі разнакаляровыя адбіткі нейкага сну, і тыя, хто запомніў Беларусь ўважлівымі вачыма падлеткаў, жылі аднымі ўспамінамі, вобразамі роднай зямлі. І ў памяці, як, напрыклад, у Анатоля Лукьян чыка, захавалася вялічэзная гара, зь якой



На здымку: У час адведваньня Бацькаўшчыны. Зьлева направа: Натальля Лукьянчык, Леанід Казыра, Анатоль Лукьянчык, Марыя Несьцер

Працяг. Пачатак у № 8 (18) —№ 9(№9), 1992

ён ў дзяцінстве катаўся на лыжах, або як у Валі Ягойдзік і Гэлены Радзюк—шматлюдная вёска, якую, здавалася, і за дзень нельга абыйсьці, ці як для Валі Яцэвіч —даўгія аудыторыі Менскага пэдагагічнага тэхнікума, у якім зьбіралася заўсёды багата моладзі. І яны ўяўлялі, што ўсё гэта так і засталося, яно працягвае існаваць, як у іхніх успамінах аб Бацькаўшчыне

Таму кожны ехаў у Беларусь, захаваўшы ў глыбіне сваёй душы нейкі вобраз, а прыехаўшы на Радзіму і не знайшоўшы яго, або пабачыўшчы замест тых адбіткаў дзяцінства і юнацтва нешта іншае, у першы момант расчароўваліся.І находзіла яшчэ боль шая настальігая па мінулай Бацькаўшчыне.

Аб гэтым ўзгадалася мне, калі гутарыла з Натальляй Лукьянчык, якая разам з сям'ёй пасьля падарожжаў з групай паехала на радзіму мужа ў Бярэсьце. Уразіла адна дэталь зь яе аповяду: *«А пасьля Анатоль вырашыў паказаць дачцы і мне сваю «гару», дзе ён некалі катаўся на лыжах. Зь яго ранейшых аповядаў, яна павінна была быць агромістай і стромкай. А калі мы знайшлі яе, то пабачылі, што яна не такая ўжо і вялікая. Ці яе час зьмяніў, ці мы самі за гэтыя гады зьмяніліся?»*

Пэўна,і гара паменшыла, ды яны самі вырасьлі. А разам зь ім вырасла цікавасьць да краіны бацькоў, патрабаваньні да яе.

Дзе беларуская мова ў сталіцы Беларусі? Дзе-ж нацыянальны дух—не раз дзівіліся яны.Ад гэтага і горыч, бо пабачылі так мала пашаны да таго, ва што яны сьвята верылі тут на эміграцыі, за што маліліся ў цэрквах, за што змагаліся. Горыч ад рускамоўнай гаворкі на вуліцах Беларусі, горыч ад нешанаваньня нашых нацыянальных сьвятыняў. Але ня толькі ад гэтага.

—Вельмі цяжкае ўражаньне склалася пасьля наведваньня дзіцячага шпіталю ў Бярэсьце,—расказваў Анатоль Лукьянчык. — Доктар паказала нам палаты з хворымі дзеткамі, расказала колькі і якой мэдыцыны не хапае. А не хапае усяго ад звычайных аднаразавых шпрыцоў і вітамінаў да неабходнага дыягнастычнага абсталяваньня. Мы перадалі ў шпіталь 10 пачак з мэдыцынай, у адной аказаліся дэфіцытныя шпрыцы. Доктар сказала, што гэта іхні ратунак. Пазьней я атрымаў ад яе ліст удзячнасьці.

І ўсё-такі ў памяці больш захавалася радаснага. сьветлага. І перш за ўсё незабыўныя сустрэчы з сваякамі.

Марыя Патапенка, узяла з сабой відэакамэру і кожную сваю сустрэчу з роднымі атсьняла на фільм. А сустрэч гэтых было нямала: і на радзіме яе маці ў вёсцы Пастарыньне Бярасьцейскага р-ну, і ў Вацэвічах на Слонімшчыне, дзе жывуць яе сваякі, і на радзіме мужа на Віцебшчыне, і



Пасьля наведваньня абласной дзіцячай бальніцы ў г.Бярэсьце. Зьлева направа: Анатоль і Алена Лукьянчыкі, доктар бальніцы Л. Пастаялка, Марыя Несьцер



ў Наваполацку, дзе жыве яе стрыечная сястра, і ў Менску, дзе жыве другая, і ў Пецярбургу, дзе таксама радня. На сустрэчу зь Марыяй прыехалі яе стрыечныя сёстры з Польшчы, і гэта былі сапраўды незабыўныя сустрэчы. І ня толькі з сваякамі, але, нечакана, з былымі дзіцячымі сяброўкамі.

*«Зьмяніліся ўсе мы—успамінала Марыя. Столькі-ж гадоў прайшло.., але пазналі адзін аднаго. Цікава было ўспомніць былыя часы... Наступным разам, хачу паехаць на Бацькаўшчыну з сынам. Завесьці яго туды, дзе бацька яго нарадзіўся».*

Так, дзеці мусіць ведаць, адкуль іхнія вытокі. Каб не прыпынялася сувязь пакаленьняў. Каб не забываліся мы пра сваю родную староку. Каб усе мы вярнуліся туды, дзе ёсьць нашыя карані.



Верхні здымкак: Марыя Патапенка (трэцяя справа) ў сваякоў у в. Пастарыньне
Ніжні здымак: У Менску сярод стрыечных сясьцёр. Марыя Патапенка трэцяя справа

# ЗГУКІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

## «Беларусы ў сьвеце»

Адам Мальдзіс

Адбылася сустрэча кіраўніцтва Нацыянальнага навукова - асьветнага цэнтра імя Ф.Скарыны і выдавецтва «Беларуская Энцыкляпэдыя». Удзельнікі сустрэчы дамовіліся супольнымі сіламі падрыхтваць і выдаць энцыкляпэдычны даведнік «Беларусы ў сьвеце», у якім, акрамя вялікага аглядзнага артыкула, будуць шырока прадсдаўлены зьвесткі пра нашых суродзічаў, што ўнесьлі і ўносяць свой уклад у разьвіцьцё гаспадаркі і культуры іншых краінаў і народаў, пра выданьні, арганізацыі і ўстановы нашай дыяспары —пачынаючы зь Літвы, Польшчы, Расеі, Украіны і, канчаючы заакіянскім дзяржавамі. Зразумела, выданьне будзе багата ілюстравана. Слоўнік гэтага даведніка мяркуецца скласьці да Сусьветнага форуму (Сустрэчы) беларусаў, каб яго ўдзельнікі маглі-б дапоўніць і ўдакладніць прапанаваныя сьпісы. Выказвалася надзея, што нашы суайчыньнікі прымуць удзел у напісаньні артыкулаў, дашлюць у Цэнтр дакумэнтальныя матэрыялы.

Энцыкляпэдычным даведнікам не абмяжуецца работа аддзелу «Беларусы ў сьвеце», які мяркуецца стварыць у нашым Цэнтры. Спадзяемся, што ў ім будуць падрыхтаваны комплексныя дасьледаваньні, выданьні мастацкіх твораў, бібліяграфічных прац. Ужо распачата стварэньне адпаведных Банка інфарамацыі, калекцыі кнігі пэрыядычных выданьняў, рукапісаў, фотаматэрыялаў. Для экспазыцыі «Беларусы ў свьеце», якая задумана ў Цэнтры, з Англіі, Аўстрыіі, Нямеччыны, ЗША, Латвіі, Літвы паступілі першыя карціны, здымкі, памятныя рэчы. Экспазыцыя разьмесьцілася ва Усебеларускім доме—будынку былога Інбелкультуу, які, паводля распараджэньня ўраду, передаецца Цэнтру (нажаль—вельмі марудна, бо дасюль вызвалены нам толькі два пакоі з 27).

Навукоўцы Цэнтру, як і сябры Міжнароднай асацыяцыі беларусыстаў, арганізацыі дапамагаюць «Бацькаўшчыне» у падрыхтоўцы Сусьветнага форуму (Сустрэчы) беларусаў. Вядома, мы разумеем, што яе правядзеньне — справа няпростая, неадназначная. Мы падзяляем трывогу БНФ, што час для такой сустрэчы дужа неспрыяльны. Але, мы таксама разумеем, што іншага можа проста ня быць, для многіх суайчыньнікаў— гэта ці не адзіны шанц наведаць Радзіму, ад якой яны адарваныя доўгія дзесяцігодзьдзі, і якая ў многім вінавата перад імі. І таму пазбаўляць іх гэтага шанцу было-б негуманна, неразумна. На пасяджэньні Навуковай рады нашага Цэнтру, дзе доўга і горача абмяркоўвалася пытаньне пра тое, падтрымаць ідэю «Бацькаўшчыны» аб правядзеньні Сусьветнага зьезду беларусаў ці не, пераважная большасьць прамоўцаў гаварылі пра тое, што кіравацца тут трэба ня столькі палітычнымі, колькі агульнацыянальнымі, непераходнымі інтарэсамі, што пры правядзеньні сустрэчы найперш трэба дбаць пра кансалідацыю акцыі, і ці этычна будзе перакладаць вырашэньне нашых праблемаў на плечы людзей, у іх невінаватых. Таму навукоўцы Цэнтра спадзяюцца на плённае абмеркаваньне навуковых і культурных праблемаў у час ліпеньскай Сустрэчы на беларускай зямлі.

# З ЖЫЦЬЦЯ ЭМІГРАЦЫІ

## Вялікі пост

а. Міхась Страпко

Сьвяты Вялікі пост прыгадвае нам аб цярпеньні Спасіцеля нашага. Яго прабываньне ў пустыні, калі д'ябал стараўся ўсякімі спосабамі спакусіць Яго. Мы, ідучы праз жыцьцё і сустракаючы цяжкасьці або спакусы, павінны мець перад вачыма Ісуса Хрыста, яго зямны шлях і ягоныя цярпеньні.

Пост, асабліва Вялікі пост перад Вялікаднём, нас духова і фізычна аздараўляе. Паўстрымоўваючыся ад мясное ежы, мы сябе духова ўзмацьняем, бо не паддаючыся спакусам, узмацьняем свой характар, падрыхтоўваем сябе да Вялікадня, да сьвятога Хрыстовага ўваскрашэньня.

Праваслаўная Царква ўстанавіла пост, і нашая сьвятая Беларуская Праваслаўная Царква выконвала пастановы гэтае Усяленскае Царквы. Просьба нашая, старайцеся прытрымліваецца пастановаў, каб гэтым самым мы былі ў духовай еднасьці з Усяленскай Праваслаўнай Царквой.

Мы, народжаныя з чалавечымі слабасьцямі, спакушаемся на такое, што не сугучнае з навукаю Хрыста і пастановамі Праваслаўнае Царквы. Пост прыпамінае нам пра хрысьціянскую мараль, пра паўстрыманасьць у нашых дзеяньнях, пра добразычлівасьць, пра пашану, пра малітву і зварот да Бога. Сьвятое Пісьмо павучае нас, каб мы любілі свайго бліжняга і дапамагалі яму, каб не былі мы фарысеямі. Паколькі мы маем чалавечыя слабасьці, Царква апрача посту ўстанавіла споведзь. Ужо Іаан Хрысьціцель заклікаў да пакаяньня, а споведзь і ёсьць пакаяньне. Праз пакаяньне мы спазнаем самых сябе і набліжаемся да Бога. Падыходзячы да споведзі мы забавязаныя прасіць прабачэньня ў тых, каго мы пакрыўдзілі або прабачыць тым, хто нас пакрыўдзіў. Пост і споведзь ёсьць нашым выпрабаваньнем, ці мы падрыхтаваныя да прычасьця, да прыняцьця Сьвятых Таінстваў крыві і цела Госпада нашага Ісуса Хрыста.

Ісус Хрыстос пасьціўся і маліўся, узмацьняў сябе, бо прадбачыў, едучы на асьляці ў Ерусалім, і чуючы «асана», што прыбліжаецца Ягоная зямная вандроўка да канца, бо так пісалі Прарокі. Людзі слалі пад ногі асьляці сваю вопратку, усьцілалі дарогу пальмовымі галінкамі, праслаўлялі Яго, але гэта не расчулівала Яго, бо ведаў, што праз пару дзён Ён пачуе жудасныя абвінавачваньні, а натоўп будзе крычаць: «Распні, распні Яго!» Госпад наш ехаў ва Ерусалім і маліўся да Айца свайго, каб дапамог Яму вытрымаць зьдзекі і мукі ўкрыжываньня. І нам нельга быць гордымі, зачарсцьвелымі, бо набліжаецца Вялікдзень. У апошні тыдзень перад Пасхай, у панядзелак у Эвангельлі чытаецца пра засушаную смакоўніцу, якая не дала плоду. У аўторак другая прычта пра 10 дзеваў, у сераду пачуеце сьв. Евангельле пра пакаяньні грэшніцы, у чацьвер чытаюцца з Евангельля пра зямное жыцьцё і зьдзекі над Хрыстом. У пятніцу змаўкаюць званы, бо адбываюцца паховіны Госпада нашага, а ў сыботу ў 11.30 начы падымаецца сьв. Плашчаніца, каб а 12-й пачуць радасныя словы Хрыстос Уваскрос!»

# Маладыя кліўлендцы

*Сябрукі, якіх Вы бачыце на здымку, ёсьць маладое пакаленьне беларусаў, народжанае ў Кліўлендзе.*

**Ян Валюкевіч** (першы зьлева), 28 гадоў, пасьля заканчэньня гімназіі, у 1982 г. добраахвотна пайшоў служыць у вайсковую паліцыю на 2 гады. Адбыўшы службу, у 1984 годзе атрымаў ад гарадзкой паліцыі прапанову на пэўнае становішча. Бацькі ягоныя Кацярына і Васіль былі не супраць, і Янка ўжо 8 год добрасумленна служыць у гарадзкой паліцыі.

**Язэп Радзюк** (другі зьлева), 23 гады, будучы гімназістам прыслугоўваў у царкве Жыровіцкае Божае Маці япіскапу Андрэю, пазьней пачаў сьпяваць у царкоўным хоры. Ён студэнт Кліўлендзкага коледжа, вывучае камп'ютэры, марыць адчыніць сваё ўласнае прадпрыемства. Бацькі Гелена і Васіль спакладаюць на яго вялікія надзеі, бо Язэп працавіты, здольны і добрасумленны хлапец.

**Віктар Лукашэвіч** (трэці зьлева), 32 гады, пасьля заканчэньня гімназіі паступіў У Калюмбус у дзяржаўны ўнівэрсытэт штату Агаё на інжынерны факультэт. Закончыў студыі ў Кліўлендзкім дзяржаўным унівэрсытэце ў 1987 г. на выдатна, і NASA запрапанавала яму працу, дзе ён і працуе ужо 5 год. Маці Вольга ганарыцца сынам, і нам таксама прыемна, што малады беларус працуе ў NASA (цэнтр касманаўтыкі).

**Даніл Ярахові́ч** (чацьвёрты зьлева), 27 гадоў, закончыў Кенцкі ўнівэрсытэт, будчы студэнтам прыймаў актыўны ўдзел у студэнцкіх арганізацыях. Ветлівы, шчыры, вельмі спачувальны да людзей —ён выбраў і прафэсыю, адпаведную характару—мэдычная хуткая дапамога. Бацькі ягоныя Вольга і Астап задаволеныя прафэсыяй сына, бо і яны па характару спачувальныя людзі.

**Віктар Патапенка** (пяты справа), 32 гады, закончыў прафэсыйную школу мэханіка. Працуе ў «Рыка кампаніі» механікам, дзе яго любяць за дакладнасьць і сумленнасьць. Гэтым летам разам з маці Марыяй і сябрамі зьбіраецца адведаць Беларусь.



# Прыняцьцё для харыстаў

Прыняцьцё для харыстаў у царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе заўсёды сьвята, на якое прыходзяць сем'ямі. Добры пачастунак, які рыхтуе царкоўная ўправа, цікавыя ўспаміны з гісторыі хору, сьпевы, якія ператвараюцца ў сваеасаблівыя канцэрты. Але прыняцьцё харыстаў ў гэтым годзе было асаблівым. Па-першае, яно супала з народзінамі харысткі Веранікі Мельнік, і жанчыны з гэтай нагоды падрыхтавалі своеасаблівы сюрпрыз для імяніньніцы, па-другое, кіраўнік хору Кастусь Калоша надрукаваў з нагоды прыняцьця, памятныя брашуры, у якіх, акрамя інфармацыі пра хор, зьмешчаны здымкі Кліўлендзкага хору ранейшых гадоў.

У сыботу, 23 студзеня пасьля вячэрняй службы ў падцаркоўнай залі сабраліся харысткі, госьці, сябры царкоўнай управы. Зь цёплымі словамі ў адрас харыстаў выступілі Сяргей Карніловіч, а. Міхась Страпко, а. Якуб, Кастусь Калоша, якія падзякавалі ўсіх за добрыя сьпевы, пажадалі здароўя і посьпехаў. Марыя Патапенка і Вольга Лукашэвіч, нагадалі, што сярод сабраўшыхся ёсьць і імяніньніца Вераніка Мельнік. Усе разам прасьпявалі Вераніке "Happy Birthday" і пажадалі ёй найлепшых памысносьцей. Ажыўленьне сярод харыстаў выклікалі спэцыяльныя брашуры, які раздаў Кастусь Калоша. Кожнаму было цікава знайсьці сябе на фотакартке, якая была зроблена 20 гадоў назад.

Здымка на памяць і вясёлыя сьпевы пад акампанімент Фёдара Паўлаўца, якія працягваліся не адну гадзіну. У вясёлай атмасфэры і закончылася прыняцьцё для харыстаў.



# У царкве сьв.Кірылы Тураўскага на Рычманд Гіл

21 лютага адбыўся гадавы сход, на якім з прамовай аб прадзеланай працы, а таксама зь фінансавай справаздачай выступіў старшыня царкоўнай Рады Кастусь Мерляк. Адной з апошніх падзеяў у прыходзе, якая нікога з прыхажанаў не пакінула раўнадушным, была сустрэча з мітрапалітам Беларускай Праваслаўнай Царквы і Патрыяршым экзархам Уладыкам Філарэтам.

7 лютага, на вавароце ў Менск, Уладыка Філарэт адведаў царкву сьв. Кірылы Тураўскага. Дастойнага госьця сустрэлі з хлебам-сольлю а.ігумен Рыгор, настаяцель прыходу, старшыня царкоўнай управы Кастусь Мерляк, прыхажане ды запрошаныя госьці. Уладыка блаславіў усіх прысутных, а хор прасьпяваў яму «Іспола эці дэспота».

Уладыка сказаў з амбону прывітальнае слова, а пасьля кожнаму, хто падыходзіў пад яго блаславенцтва, падарыў іконку і паштоўку з выяваю Менскай Божай Маці.

Пасьля ў царкоўнай залі адбылося прыняцьцё, на якім зь вітальным словам выступіў Кастусь Мерляк. Ад імя прыхажанаў ён перадаў да Ўладыкі просьбу прыкласьці намаганьні, каб Беларуская Праваслаўная Царква сталася аўтакефальнай. З свайго боку прамоўца прыабяцаў маліцца і працаваць, каб гэтае пажаданьне хутчэй збылося. Мітрапаліт запрасіў прысутных ў Менск на сьвяткаваньне 200-годзьдзя Менскае япархіі, якое адбудзецца 25-27 чэрвеня сёлета, падарыў для царквы кнігі і памятныя фатаграфіі.





Сьв. памяці Васіль Каваленка, нарадзіўся 10 кастрычніка 1956 г. У 1978 г. ён закончыў Кенцкі ўнівэрсытэт з дыплёмам інжынера электрыка. Паколькі ў Васіля былі выдатныя адзнакі, ён атрымаў некалькі прапановаў на працу, але выбраў «Повэр компанію» і пераехаў жыць у Кент. Праз два гады меў службовае павышэньне і пераехаў на працу ў Калюмбус. Паколькі нябожчык быў працавітым, пунктуальным, надзвычай ветлівым, хутка ён стаў узначальвацъ адзін з аддзелаў у кампаніі. Не забываў ён і кліўлендзкую калёнію. 1 чэрвеня 1991 ў царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе адбыўся шлюб Васіля і Даны, Вясельле, на якім сабралося многа беларусаў, было вельмі вясёлым, хаця мы і сумавалі, што не дачакаўся гэтага дня бацька Васіля Ян, які памёр у 1989 г. Бацька і сын былі актыўнымі, ахвярнымі, працавітымі беларусамі. Васіль добра ведаў беларускую мову, чытаў нашыя газэты і часопісы.

28 лютага атрымалі мы паведамленьне, што Васіль памёр ноччу ад інфаркту. 4 сакавіка ягонае цела прывезьлі ў царкву Жыровіцкае Божае Маці, дзе адбылося адпяваньне і разьвітаньне зь нябожчыкам. Пахавалі яго побач бацькі Яна на беларускім магільніку. Засталіся ў смутку ягоная жонка Дана, маці Надзя, дзяцька Алесь Каспэровіч, хросная маці Тацьцяна Кананчук і ўсе кліўлендцы.

Сяргей Гутырчык першы зьлева

3 сакавіка на 71 годзе жыцьця нечакана памёр адзін з найбольш актыўных працаўнікоў на беларускай ніве, кіраўнік Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў Сяргей Гутырчык.

Сяргей Гутырчык быў стойкім змагаром, шчырым патрыётам Бацькаўшчыны, ён з радасьцю вітаў любы нацыянальны рух у Беларусі і прыкладаў усе сілы, каб дапамагчы. Калі ён даведаўся, што у Менску сябры клюба «Спадчына» будуць адзначць 75-я угодкі Усебеларускага Кангрэсу, ён паслаў віншавальную тэлеграму на імя ўдзельнікаў гэтага форуму.

Пры удзеле Сяргея Гутырчыка пачаў выходзіць вэтэранскі часопіс «Зважай». Зь ягонай ініцыятывы быў пабудаваны помнік Беларускім змагарам у Нью Брансьвіку.

За сваю самаадданую і самаахвярную працу Сяргей Гутырчык меў пашану беларусаў. На разьвітаньне зь ім з Кліўленда паехала дэлегацыя ў складзе: М. Белямука, А. Кабякі, Я. Раковіча, Я. Ханенкі.

Пахавалі сьв. памяці Сяргея Гутырчыка на беларускім могільніку ў Іст-Брансьвіку. Над яго магілай шматлікія прысутныя прасьпявалі жалобны марш «Сьпі пад курганам герояў»,

Вечная памяць Сяргею Гутырчыку

# Biblia swieta /

Tho iest /

Ksiegi Stárego y Nowego Zakonu / własnie z Zydowskiego / Greckiego / y Láćinskiego / nowo ná Polski iezyk z pil= nośćia y wiernie wyłożone.



